*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся.*



# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, КУЛЬТУРЫ, ЭКАНОМІКІ й ПУБЛІЦЫСТЫКІ



№ 1

СЬНЕЖАНЬ 1922

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ". МЕНСК. 1922.

# Нашы заданьні.

„Полымя“—часопісь, пасьведчаная пытаньням культурнага будаўніцтва Беларусі, пачынае выходзіць у сьвет толькі на шостым годзе жыцьця Савецкае ўлады наогул і чатырох гадоў яе істнаваньня ў Беларусі; толькі пасьля пяці гадоў цяжарнага і ўпартага змаганьня працоўнікаў Савецкай Фэдэрацыі з многілікімі іх ворагамі.

І гэта не выпадкова. У часы абгостранай грамадзянскай барацьбы, калі парашалася пытаньне, ці быць Расеі Савецкай ці панскай, працоўным грамадам усёй Савецкай Фэдэрацыі, а ў тым ліку й Беларусі, даводзілася меней усяго клапаціцца аб культурнай працы, а болей аб змаганьні, аб замацненьні верхаводзтва рабочага стану.

Толькі тады, калі кончылася грамадзянская вайна, пытаньні культуры пачынаюць высоўвацца на належнае дзеля іх месца, толькі з канцом грамадзянскае вайны перад працоўнымі грамадамі асабліва гостра вытыркаюць пытаньні аб культурнай працы, аб патрабаваньні ўздыму культурнага ўзроўню шырокіх працоўных гушчаў, каб праз гэта самае стварыць мажлівасьць для іх удзелу ў чыннай дзяржаўнай і гаспадарчай працы.

Новая эканамічная палітыка яшчэ больш абгострыла гэта пытаньне. Пытаньне культуры стала куды больш, чым раней, пытаньнем палітыкі. Новая буржуазыя, якую выклікае да жыцьця Нэп, сумесна з астаткамі старое, пакладае ўсе патугі на замацаваньне свайго ўплыву ў ідэолёгічным кірунку.

У гэткіх варунках пытаньні нацыянальнае культуры патрабуюць асабліва асьцярожнага падыходу. У Беларусі культурная праца зьяўляецца выключна палітычнаю працаю; тут пытаньні палітыкі куды выпуклей вытыркаюць у кожным культурным акце, які-б бязьвінны характар гэткі акт у сабе ня меў.

Наш журнал зьяўляецца часопісьсю беларускай рэвалюцыйна-марксыцкай думкі. Ён—журнал непартыйны, і мы дапускаем пэўную свабоду думак, але ў пэўных межах.

Гэтыя межы раней усяго абведзены агульным разуменьнем нацыянальнага пытаньня і прынцыповымі адносінамі да істнуючай формы ўлады ў Савецкай Беларусі.

Для нас, рэвалюцыйных марксыстаў, нацыянальнае адраджэньне ня ёсьць самамэта — яно толькі сродак прылучэньня шырокіх працоўных гушчаў да рэвалюцыйнай творчасьці, да чыннага будаўніцтва Савецкае Беларусі.

Для нас нацыянальнае пытаньне ёсьць пытаньне культуры. Наша праца ў галіне нацыянальнага адраджэньня поўнасьцю зьмяшчаецца ў рамкі культурнага будаўніцтва.

Вырашэньне пытаньняў дзяржаўных мы не разумеем сабе ў асобку ад працоўнікаў усёй Расеі. Інтарэсы Беларусі, інтарэсы працоўных гушчаў Беларусі—гэта толькі часьціна інтарэсаў працоўнікаў усёй Расеі. Загэтым для нас няма і ня можа быць асаблівай праграмы адмяжованага дзяржаўнага будаўніцтва. Загэтым мы й вітаем кожны крок, яшчэ цясьней зьбліжаючы працоўнікаў Беларусі з працоўнікамі ўсёй Савецкай Фэдэрацыі.

Наша часопісь ня можа дапусьціць спрэчак па пытаньню аб сыстэме ўлады. Для нас ёсьць непарушным, што ў Беларусі няма і ня можа быць іншае улады, апроч верхаводзтва рабочага стану, якое падтрымліваюць шырокія сялянскія гушчы. Альбо Савецкая Беларусь, альбо Беларусі, як дзяржаўнага цела, ня будзе—гэтакі шлях гісторыі.

Толькі тыя, якія прымаюць нашу ацэнку нацыянальнага пытаньня й прынцыпова прызнаюць Савецкую ўладу—толькі гэтыя працоўнікі магчымуць знайсьці месца на бэкох нашага журналу.

Наш журнал ёсьць і часопісьсю зьбіраньня й часопісьсю расколу. Мы ворагі яднаньня ў імя яднаньня. Мы хочам яднаньня вакол праграмы.

Наша праграма выразна. Яна далёка і ад нацыяналізму і ад прымітыўнага інтэрнацыяналізму. Працуючы, мы кіруемся фактамі істнуючымі і пакідаем убаку ўсякія высокія мудраваньні.

Тыя, хто нашу праграму прымуць, пойдуць за намі. Усе-ж, хто ня знойдзе сьмеласьці яе прыняць, пойдуць супроціў нас. Сярэдзіны мы не прызнаём, ды яе й быць ня можа.

Мы будзем адкрыта змагацца супроціў усіх незалежнікаў, супроціў тых, дзеля каго пытаньне нацыянальнага апра-

джэньня ёсьць пытаньне дзяржаўнага абасобку, супроціў таго, хто лічыць савецкую сыстэму часовым злом, якое трэба перажыць.

Мы будзем злучаць вакол нашага сьцягу ўсіх тых, хто сумленна й шчыра хоча пасабіць Савецкай Беларусі ў цесным зьяднаньні з Савецкаю Расеяй адрадзіць сваё гаспадарства.

Зразумела, што мы не выяўляем перад сабою беларускае культурнае працы адколатаю ад культурнае працы іншых жывучых у Беларусі нацыяў. Культурная работа працоўных грамадаў аднэй нацыянальнасьці зяўсюды злыгана з культурным жыцьцём і работаю працоўнікаў другое нацыянальнасьці. Бяз узаемнага ўплыву і супрацоўніцтва ня можа быць правідловага культурнага разьвіцьця.

Наш журнал зьяўляецца першым беларускім марксыцкім журналам. Ён яшчэ ня мае традыцыяў, у ім вельмі мала працоўнікаў. Рэвалюцыйных марксыстаў сярод беларускай інтэлігэнцыі да апошняга часу наогул было нямнога. За-гэтым мы ні на хвілю не хаваем ад сябе таго цяжару, які нам прыдзецца перамагчы ў нашай працы. Калі не адкрытую, то прыхаваную супярэчную чыннасьць з боку незалежнікаў ды народнікаў мы будзем сустрачаць на кожным кроку. Але нас гэта ні на хвілю ня супыніць. Мы ведаем, што мы ўстаімо на правільным шляху, што абапіраючыся на рабочыя гушчы й пралятарскія слаі вёскі, мы магчымем выпаўніць тую працу, за якую мы ўзяліся.

Наша часопісь кіруючая. Яна мае мэтаю аформіць сьветапагляд беларускіх культурных працоўнікаў, прыцягнуць да беларускага культурнага будаўніцтва найболей сьвядомыя і разьвітныя элемэнты з радоў беларускага пралетарыяту і бяднейшага сялянства.

Наша часопісь мае мэтай даць шырокую дарогу для выяўленьня к жыцьцю тым беларускім пісьменьнікам і паэтам, якія кінулі старыя матывы, матывы нудлівага сантымэнталізму й самаітага кулацкага народніцтва, якія не знаходзяць натхненьня ў ідэях незалежніцтва ды ў нейкай „вялікасьці беларускай старадаўшчыны“, а каторым навявае мэлёдыі муза вызваленьня працоўных грамадаў, муза колектыўнае творчасьці іх. Наша часопісь злучае ўсё жывое для перамогі над жыцьцёвымі нягодамі, для ўрачыстага панаваньня ў жыцьці.

Таксама наша часопісь будзе злучаючым асяродкам беларускай рэвалюцыйной думкі за рубяжом. Яе палавінкі

гасьцінна адчыняцца дзеля рэвалюцыянэраў, якія змагаюцца супроціў польскага і літоўскага панскага прыгону за ўладу працоўнікаў.

Якраз праца за рубяжом многалікімі прыкладамі падмацоўвае правільнасьць нашага кірунку, засьвядчае абсолютную немагчымасьць знайсьці якую небудзь іншую, апроч верхаводзтва рабочага стану, форму арганізацыі ўлады, каб яна здавальняла шырокія працоўныя грамады.

Змаганьне за беларускую культуру за рубяжом ёсьць па сваёй сутнасьці змаганьнем за ўладу працоўнікаў. Гэта паказалі і апошнія выбары ў польскі Сойм, калі саюз пралетарыяту гораду й вёскі атрымаў на крэсах значную колькасьць галасоў.

„Полымя" — гэта часопісь барацьбы, а не часопісь акадэмікаў. Мы, рэвалюцыйныя марксысты, навуку нашага змаганьня і нашых дасяганьняў будзем заносіць на старонкі нашае часопісі. Усе тыя, хто хоча разам з намі працягаць далей змаганьне пад рэвалюцыйным сьцягам, няхай ідуць да нас, у нашы рады, няхай пасобяць нам вызваліць беларускую культурную работу ад станкоў народніцтва й нацыяналістычнай рэакцыі.

„Полымя" чакае іх дапамогі і, мы пераконаны, яе атрымае.

**Рэдакцыя.**

# Па дарозе да будучыны.

Мы вышлі з гразкае смуроднае лагчыны,
Дзе нас жыцьцё мінулае трымала,
І з ног сваіх страсьлі яго мы парушыну,
Якой яно нам вочы засыпала.
Вякі мінулыя няпраўды і прыгону,
Вякі заможных, князяў і ўладараў
Адданы нашаму рашучаму праклёну,
Зьнябыцьцю вечнаму зданы ў ахвяру.
Мы пішам злучнай, зьлітнай, братняй грамадою
Людзкой гістор'і вечныя страніцы;
І вехі нашы—ўперадзе! Гараць яны гвяздою—
Бліскучай, зыркаю, праводнаю зарніцай.
Па мёртвых целах, згубленых на збройным полі
Ваяк-змаганьнікаў ў часы паўстаньняў.
Наш шлях вядзе да ясных мэтаў сьветлай волі,
Да творчай працы й братняга зьяднаньня.
«Ўставай, хто сьпіць!» «На бой крывавы!» —гэта нашы зовы
Грымучыя, завучыя нязьменна
Уперад, к сонцу, мур жыцьця узводзіць новы,
На зямлю зьняць з высотаў дзень праменны.
Няма ў разгоне нам прыпынак—й быць ня можа,
Назад глядзець мы больш ня хочам!
Ніхто й нішто к таму ўжо нас не заварожа—
Трухло мінулага ня звабіць вочы.
Дарэмны ўсе стараньні ўпартыя й патугі
Зблудзіць наш рух жывы на бляск абманны,
Ўвясьці у песьні нашы стручаную тугу,
Ўхаваць ў душы к аджыўшаму пашану.
У гымнах нашых пыша радасьць вызваленьня,
Аб вольнай працы ў іх бурляць напевы,
Нявольнікаў, парваўшых путы, ў іх натхненьне
І буйны отгук ўсьпененага гневу.
Чырвоны сьцяг наш шляг паборы усьцілае
Туды, дзе ў гучным грукаце пярунаў—
На зьмен пакоры й дзікіх гвалтаў—заступае
Ўладар жыцьця—Ўсясьветная Камуна.
На бляск яе, на зоў, ад сну нас паўзьнімаўшы,
Мы йдом няўпыннымі, як хвалі мора,
І ў ёй аднэй мы бачым Будучыну нашу,
Аб ёй аднэй няўмоўчна мы гаворым!

**Цішка Гартны.**

Менск, 16/X—22 г.

# Сельскі мітынг.

Запоўнены стадол, як яблыку упасьці—
Грамада прагная варушыцца, шуміць;
Пытаньне носіцца вакола, а што ўдасца...
Што будуць тут прамоўцы гаварыць?

Ці ўловіць што настроенае пільна вуха
У прамовах тых, што мусяць скора пачынаць?
Што скажуць скліканым аб сконе галадухі,
Аб праднапогу, аб рэвалюцыйным руху
За межамі, аб тым, як землю падзяляць?

Мо' новых йшчэ навін паслухаці пазвалі—
Пара-ж бурлівая і віхрам ходзіць сьвет,
Авось цару якому голаў абламалі,
А ўладу краем пераняў сабе савет?

Мо' трэба ружжа браць і йсьці сваю краіну
Ад новых варажных нападаў бараніць...
Напэўна будзе нейкая асобная навіна...
Ня здарма-ж сход, як мора бурная кіпіць...

Ня здарма гушча прагная жаданьнем палкім дыша
І сотні йграючых маланкаю вачоў
Кідаюць бліскамі прагнучымі туды, к узвышшу,
Адкуль пасыпне зараз дождж завучых слоў.

„Пашоў, вунь-вунь, як быццам ён!“—прайшло стадолам,
І потым раптам зьнік той зычны медны гуд...
Й сьціша глыбокая, нярушная вакола
Скавала жданьнем гострым мітынгавы люд.

«Браты-таварышы! Сюды вас ўлада пасклікала»—
Прамоўца голасна людзям пачаў казаць.
«Краіну вольную, што панства разбурала,
Павінны мы сумесна, разам аднаўляць».

І стройна з вуст прамоўцы словы палкія прызыву,
Бы іскры зыркія, разносяцца наўкруг,
І зноў стадол, прыўцішаны, прытоены, маўклівы
Ўшчынае гуць пад рупны, выбухнуўшы рух...

І ў гудзе тым клякоча помста тысячнай грамады
Для тых, каму ўспадзе на думку йшчэ калі
Падняць руку узбройную сваю, ці мець панаду
Зрушацьаднову роднай вольнай іх зямлі.

29/X, Менск.

**Цішка Гартны.**

## Зімою

Сенажаці і полі асьнежаны,
Рэкі высланы гладкім памостам,
Воўк з гушчару дарогай няежджанай
Бяжыць к вёсцы няпрошаным госьцем.

Лес у шлюбным адзеньні, а хмурыцца
На вітае ён песьнямі раньня...
А у вёсках завеены вуліцы,
Ў мяккіх гурбах купаюцца сані.

Сівалапы гуляе пад вокнамі,
Пазірае хаціне у вочы.—
Толькі ўпоўдзень, часамі, замоўкне ён
А як вечар—у шыбы стукоча

Дзеці пальцамі шыбы з вузорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы,
Згорнуць ў жменю сьняжыначкі-зоры
І бягуць пасмактаць у запеччы.

Ноччу печ засьпявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасьцелі ім сьніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

**М. Чарот**

25/XI—22 г.

## Плывём к прыгожа - сьветлай далі.

Плывём к прыгожа-сьветлай далі
На хвалях вогненага мора...
А полымя ўсё плавіць, плавіць.—
Палёў абшары, лес і горы...
Плывём к прыгожа-сьветлай далі...

На хвалях вогненага мора
Плыве наш човен... бура стогне...
Дзе мы змагаліся учора,
Жыцьцё спакойна там сягоньня.
На хвалях вогненнага мора

Плыве наш човен... бура стогне...
Відаць маяк-агонь дзяньніцы,
І золак дня туман разгоніць...
У новую жыцьця сьвятліцу
Плыве наш човен... бура стогне...

Відаць маяк—агонь дзяньніцы...
Плывём к прыгожа-сьветлай далі;
Дзень хутка новы заіскрыцца,
Зямлю ўсю полымя расплавіць...
Відаць маяк-агонь дзяньніцы.

Плывём к прыгожа-сьветлай далі
У полымі,—бяз ветру й вёслаў...
На прыстані мы пагуляем,
Сусьветная як прыйдзе восень...
Цяпер—к прыгожа-сьветлай далі!

**М. Чарот.**

25/XI—22 г.

## У жыцьцёвай кузьні.

Стукаюць цяжкія молат за молатам,
Сыплюцца іскры, як золата,
Бляскі кладуць на зямлі...
Цяжкаю працай заняты тут волаты:
Жыцьце куюць кавалі.
Печы зіяюць—зіяюць рагочучы,
Дзьмухаюць голасна мехі прарочачы
Шчасьця сьвятога прыход;
Ў гэтым запэўніць працоўнікаў хочучы,
Зьяе праменна усход.
Жыцьце абняла навокала раніца,
Будзіць прачнуцца, будзіць ахаяцца,
З песьняю к працы заве;
Ласкаю сонца зіяе—ўсьміхаецца,
Космы кладзе на траве...
Стукае молат паўднёвымі ўдарамі,
Суліць растацца з мукай, цяжарамі,
Будзіць палёт пачуцьця.
Што яшчэ ўчора здавалася марамі—
Сёньня—здабытак жыцьця!

**А. Гурло.**

14/XI—22 г.

## На працу.

Гудкі з гудкамі зьліліс ў гукі,
Гукаюць гучна навакол...
І грукі чутны, чутны стукі
Ад конскіх ног, павозак, кол.
Зьвініць машына на заводзе,
Званіцы звоняць звонам з выш.
Здаецца песьню ўсё заводзіць,
І замірае ўсюды ціш...

Паводлуг мураў, як мурашкі,
Мільгаюць людзі, месяць сьнег...
Мінулі мары ночы цяжкай,—
Дзень мерач стаў магутны бег.

А. Гурло.

15/XI—22 г.

## У зорную ноч.

Загарэлісь... Зьяюць зоры,
Заплятаюцца ў вянкі,
Засьцілаюць выш прастору
Залатыя агенькі,
Сноў снуюць са сьветлай сіні,
Сочаць з высі за зямлёй...
Сны салодкія дзяўчыне
Сьняцца гэткаю парой.
Маладзіцца месяц марай,
Мне салодзіць мары ён,
Многа зычыць шчасьця чараў...
Мае вочы гоняць сон!..

А. Гурло.

16/XI—22 г.

## Раніца.

Па-над борам густым, дзень падняў ліхтары—
Разганяе хмурын валаконцы;
Птушкі так мілагучна пяюць у бары,
Аж зьвіняць, аж гудуць дзічары-ґушчары,
Аж замёрла гальлё на сасонцы—
Белы лунь уцякае з узвышша гары
Пракладае дарогу для сонца.

* * *

Серабрыцца раса на лугу ля ракі
Кветкі стройна стаяць—варажліва,
Зараз прыйдуць з касамі касцы-дзяцюкі,
Паплавы касіць стануць рупліва...
Пойдуць песьні гусьці, пад замахі рукі—
Краскі ў сене заснуць маўчаліва.

* * *

Сярод зелені ніў ляжыць шэры папар,
Цаліну там ўздымае араты;
Яго сэрца спавіта красой дзіўных чар;
Ён п'яны цяжкай працай, як песьняй дудар,
І надзеяй магутна-багатай,—
Што на сьвеце працоўны люд будзе ўладар;
Што настане дзень гэтага сьвята!

1922.

А. Александровіч

## Будаўніком новага жыцьця.

З кожнай хвіляй ўсё магутней
Ваш чырвонай працы дзень.
Гэты ясны, агнякветны
Ваш прамень.

Хоць ваш вораг яшчэ моцны,
Працы хоць вялік абшар,—
Ўсе мінтрэгі пераможа
Камунар.

Дык-жа будзьце вы стыхійна
Маладымі, як вясна;
Згінуць ворагі, як тач
Мара сна.

Ўнукам шчасьце вы купілі.
Наш вы зьнішчылі праклён.
Не забудзем мы ніколі
Гэтых дзён.

Творчай працай ў жыцьці краю
Вы зрабілі значны сьлед,
Ўсе дажаліся мы ўбачыць
Новы сьвет.

У сваёй вялікай працы
Будзьце ўпарты вы, байцы:
Сьветлай будучыны й шчасьцья
Вы—тварцы.

Помніце, што ўсё былое
Бурай зьнішчана даўно:
Зьнікла ў памяці народнай
Ўжо яно.

Над палямі чырванеюць.
Сьцягі вольныя мігцяць;
Крокам цьвёрдым выступае
Наша раць.

Золак сьветлы і яскравы
Спатыкае сёньня край...
Вольны люд, гэрояў працы
Апявай!

Я. Журба

## Адплата пану.

*(З часоў паншчыны).*

Там, дзе стромкія бярозкі,
Разьлягліся хаткі вёскі.
Пры тэй вёсцы быў равочак,
За равочкам быў садочак.

А за садам між прысад,
Нібы волатавы брат,
Лез на неба, лез да зорак
Велічэзны стромкі ўзгорак.

А на ўзгорку—роўны пляц,
Дзе сьвяціўся дом-палац.
Нібы злое бяльмо-вока,
Той палац бялеў здалёку.

Жыў на ўзгорку на крутым
Пан сьляпы ў палацы тым.
Людзі скардзіліся надта
На благога пана-ката.

Не за цяжкую работу,
Не за вечную турботу,
А за іншы, горшы зьдзек
Сьлязьмі плакаў чалавек.

Не мазоль людзей палохаў,
Не ад працы бедны вохаў,
Не ад горкае нядолі
На шырокім плакаў полі,

Не ад крыкаў цівуноў,
Не ад сьвісту бізуноў.
Бо на панскіх на загонах
Так-сяк звыкліся з прыгонам.

У хацінках курных, цесных
Пацяшаліся часам песьняй;
Песьня мкнулася ўгару
На агнёвую зару,

І адтуль чырвоным птахам
Біла крыльлямі аб дахі:
Зыкі брызгалі яскрава
На абшары, на дубравы.—

Дзеі горшыя былі
Што й прывыкнуць не маглі.
Вочы панскія сьляпыя,
Як ражонішчы страшныя,

Усіх рэзалі-калолі
Да вялікай дзікай болі;
Той сьляпы, той панскі зрок
Пранікаў людзкі куток

І даводзіў да дрыготаў.
Апанадала на'т ахвота
Жыць на сьвеце—бельмы пана
Аж да вечара ад рана

Усюль тырчалі, як сукі,
Як сталёвыя цьвякі:
Пан сьляпы, а заўжды знае,
Дзе дзяўчынка маладая,

Дзе красуня-маладуха,—
Да яго даходзіць слуху.
Да сябе з вясковых хат
Зганіць пан усіх дзяўчат;

Корміць, поіць салам, мёдам,
Кружыць гучным карагодам.
Граюць скрыпкі і цымбалы
На вясёлым панскім балі

Дзень за днём, за ночкай ноч,
Ажна іскры сыплюць з воч.

* *
*

На благія жарты-шпінкі
Пан ім ладзіць вечарынкі.
Ён у шумным карагодзе
Страхацьцё на іх наводзіць.

Бо іх мацае рукой:
Робіць спробы над красой,
А каго з іх спадабае,—
Ночку цэлую трымае...

Шмат гадоў насілісь стогны.
Бедны стараста прыгонны
Волю пана выпаўняў—
Ён дзяўчат сюды зганяў.

***

Раз падвечар громка, строга
Кліча старасту старога
Пан сьляпы к сябе ў камору.
Кажа: «Во, як раз у пору
Ты прышоў! Наладзь гульню,
Знаеш, так, як я люблю!
Калі не, дык закатую,
Хамскай скуры не шкадую!
Я зьдзяру яе ды з мясам
Маім выжлам на каўбасы.

Мой фурман на гэта зух,—
Выб'е твой мужыцкі дух!»
Мужычок стаіць, трасецца:
«Дзе схавацца? дзе тут дзецца?
Заклююць, зьядуць сяляне,
Мне жыцьцё пякельняй стане.
Вось паганства, вось брыда,
Проста гора ды бяда!»
Выйшаў стараста з пакояў.
Пад зямелькай зорак рої
З неба сіняга глядзелі,
Нібы штось казаць хацелі.

Во-во скажуць тайны сказ,
Шэпнуць словачка хоць раз...
Над гаёчкам над хваёвым
Пад абшарам пад сталёвым
Ціш вісела ільдзяная,
Ціш сьмяротная, нямая;
Жудзь дрыжэла на палёх,
На цяністых пустырох.
«Гэй, нябёсны божа, дзе ты,
Ў рызах вогненых адзеты?»
«Дзе ты?—водгалас гавора
На шырокім на прасторы.
«Дзе ты?» —кажа цёмны бор.
«Дзе ты?»—крык імчыць да зор.
«Што-ж ты бедных не ратуеш?
Ці ня бачыш? Ці ня чуеш?
Мы-ж папоў тваіх паілі,
Мы-ж ксяндзоў тваіх карміліі,
Мы-ж маліліcь да хрыпот
У царкоўных у варот.
Лобам камні прабівалі,
Шчыра сьвяты сьвяткавалі,
Ў нашых хатах у старых—
Маляваны ўсіх сьвятых.

Пад мядзянымі званамі
Чорнарызьнікі над намі
Шуткавалі, жартавалі.
Нашу цемру вартавалі.
Гулка бомкалі званы
Ці ня хлусілі яны?
Мо ўсё выдумкі і глумы?»—
Так старэнькі думаў думу.
А нябёсныя пустоты
Давадзілі да маркоты.
Шмаргануў дзед нацянькі.
Дзе лупалі а анькі.
Нібы страхі-чорнарысы.
Нібы кнігі-летапісы,
Хаткі шэрагі цямнелі.
Вокны дробныя мігцелі.
Пад нагамі квохча гаць.
Ён пачаў дзяўчат зьбіраць...

«Гэй, на згон-прыгон да пана!
Пабалюеце да рана!
Хто шкадуе сваю цноту,
Дык бізун паддасьць ахвоты!
Падбярэце, дзеўкі, хор
І да пана сыпце ў двор!
У сьвяточных у намітках,
У суконных новых сьвітках,
У гарсэціках, каралях
Трэба быць на панскіх балях.
Гэй, у двор на згон-прыгон!»
У вадказ ён чуе стогн.
Ён ідзе ад хаты ў хату.
Крык і плач. Усе дзяўчаты
У хмызьнякі пауцякалі.
Іх бацькі тайком схавалі.
Шмат страхоцьця, шмат жуды.
Дзе ратунак ад бяды?..

***

У палацах пан сярдзіты,
У атласе ўвесь абвіты,
Нецярплівы, чагось хоча,
Ўверх глядзяць сляпыя вочы,
Што ад бельмаў яшчэ страшней,
Быццам зрэнкі гідкіх зьмей.
А музыкі ў гулкай салі
Строяць скрыпкі і цымбалы,
А лякаі стол рыхтуюць
Па кутках сабе жартуюць,
Няпрыстойныя слаўцы
Сыплюць градам малайцы.
Скрыпы, рыпы, шэпты, піскі
Па кутках далёкіх, блізкіх

Чэлядзь панская разводзіць,
Валаводы валаводзіць.
Што ня йдзе сюды скарэй
Гурт прымушаных гасьцей?
Пан рукой сваёй варушыць,
Ўвесь ён—слух, увесь ён—вушы.
Адкідае, як лупіны,
Шэпты слугаў, іх вазьніну.
Ловіць шорхі са двара,
«Што ня йдуць? ужо пара»...
Разважае ён паволі,
Прыслухаецца ён болей.
Слух, як шпілька, навастроны.
Ўсе магчымыя законы
Праступае яго слух,
Як нялюдзкі пейкі дух.
Сярод дня і сярод ночы
Пану слух—другія вочы.

Не пабачыць, дык пачуе
І ніколі ня спудлуе.
Хоць сьляпы, але зато
Дзіўна чуе, як ніхто.
Раптам пан устрапянуўся,
Да дзьвяроў ён пацягнуўся.
Чуе—йдуць. І толькі двое
Увайшлі ў яго пакоі.

Злосьць сваю ён перамог:
«Гэта стук дзявочых ног!»
Стук саромлівы, пудлівы,
Не адважны, ня гульлівы.
Аксамітная дарожка
На сябе ня чуе ножкі.
«Маладзенькая, ой, так...
Вось у гэтым—самы смак»...
Толькі шасьць лапцёў кародзіць,
Ажна слуху яго шкодзіць.

Пан злуецца: што за звода?
Хто ў лапцёх тут робіць шкоду?
— Ты? Мой стараста? Ну! Ну!
— Дзеўку я прывёў адну...
— Ці-ж адну? Ах ты, гультаю!
— Спадабае пан, я знаю!
Уцяклі ўсе. Дай, пан, веры.—
І старэнькі шмыг за дзьверы.
А дзяўчынка сьлёзы лье.
Пан бярэцца за яе...
— Ды чаго-ж ты так баішся?—
Кажа пан—ты пакажыся!
Я агледжу бяз прынукі—
Замест воч—я маю рукі.
Ацаню красу тваю.
Палюблю, ці праганю.—

Прыцягнуў і—мац рукою.
— Пан, зьлітуйся нада мною...
— Бач, які твой галасочак:
Ён зьвініць, як той званочак!
Валасы твае, як пух,—
Словам, стараста мой - зух!
Шчочкі гладкі—маладая.
Тварык—жар, то кроў жывая,
Мабыць, вельмі чырванееш?
Во халодная—бляднееш.
Губкі пухлыя маўчаць,
Грудкі поўныя дрыжаць...
Пан ёй гладзіць рукі, плечы.
Штось балмоча недарэчы.

А яна глядзіць на бельмы
Злой, агіднай, дзікай шэльмы.
І бязьмерны, сьмертны страх
Адбіваецца ў вачах.
Пад схаванай панскай грозьбай
Скамянелі яе просьбы.
— Бач, як гнецца стан дзяўчыны.
Ўся трасецца, як асіна...
Аб зубок стучыць зубок,
Ты ня бойся лебядок!
З галавы да ног агледжу
Я рукамі, як належа.
—Ой, панок, хай будзе досыць—
На каленях шэпча-просіць.
—Ты чыё, дзіця маё?
—Дочка старасты твайго.
—То ня праўда!—кажа хтосьці—
То ня праўда, ягамосьце!
Далібог, ня доч мая —
Кажа стараста—твая!
(Ён за дзьверы прытаіўся,
Як ня трэ' было—зьявіўся)
Пан калісь і маю бабу
Да сябе ў камору вабіў.
Ты пакінуў тады ёй
Водсьлед похаці тваёй.
Гадаваў тваю дачку я
І цяпер яе шкадую,
Як над ёй во чыніш зьдзекі
Недастойны чалавеку
У грудзёх тваіх цяпер
Вые, раўецца дзікі зьвер.
Пан, дастаў ты асьляпленьне
І на вочы й на сумленьне.
Вось цяпер на пана-ката
Надыйшоў і час адплаты.
Я ў граху служыў табе—
Кару знойдзеш праз мяне!

* * *

Пан сьляпы ад страху млее,
А дзяўчынка камянее.
Яе стараста сталелы
За руку выводзіць сьмела,
Пасярод слугоў, людзей
Да хаціны йдзе сваей.

* * *

Ноч васеньняя, глухая
Вельмі ціхая, даўгая.
Сьпіць зямелька ў жудкіх чарах.
На нябёсы ляглі хмары.
У ваўнянай паласе
Патанулі зоркі ўсе.
Цьма сьляпым бяльмістым вокам
Абхапіла сьвет шырокі,
Загуляла з цішынёю,
Паплыла над шырынёю,
Ўсе запоўніла куткі,
Пустыры і хмызьнякі.
Чуць шапталіся бярозкі.
Спала поле, спалі вёскі.
Сон з дрымой у двох лунаві
Панад змрочнай, немай даляй.
Сажу сеялі уніз
Сярод хатак, сярод хміз.

. . . . . . . . . . . .

Што за гукі апаўночы?
Мо' каго хто рэзаць хоча?
Чаму неба расквітнела?
Чаму глеба счырванела?
Што за дзіўны нейкі сход?
Куды ймкнецца так народ?
Панскі ўзгорак грае, зьяе,
Нібы ведзьма агнявая.
Сонцам яркім асьвятлёны,
Зьмеем пышным аздаблёны
Панскі дом на тэй гары
Пад пажарышчам зары.
Як удзень, уночы сьветла—
Гэтак цёпла, гэтак ветла.
Важна, нібы сярод лета.
Што за дзіўная прымета?
Панскі дом блішчыць, як жар.—
Гэта бухае пажар...
Асталіся на узгорку
Толькі печ і падмуроўка.
Рэшта нейкім дзіўным чынам
Спапялілася лучынай.
Згінуў сам і пан благі
Ў тым пажарышчы-агні.
А назаўтрае па вёсках
Пайшла чутка-пагалоска,
Нібы стараста з дачкою
Ўночы панскія пакоі
Падпалілі, уцяклі,
Бо нідзе іх не знайшлі.
Вельмі скора, вельмі хутка
Гэта спраўдзілася чутка,
Як агонь пайшоў гуляці
Над суседнім над палацам.
Як маёнткі паміж сёл
Пагарэлі ўсе вакол.

Доўга помнілі сяляне
Той палац, сьляпога пана.
Яго жудасныя балі.

І паны не забывалі
Цэлай панскай грамадой
Дзеда-старасту з дачкой.

**З. Бядуля.**

Менск
1918—1922

# Над Кроманьню.

*(З часоў 1905 г.)*

I.

Дзед Язэп патыкаў заскарузлым пальцам у люльцы, папыкаў ёю і, паправіўшыся на карчы, дзе ён сядзеў, сказаў:

— Цудоўнае гэтае возера. Ты яшчэ нядаўна тут жывеш і ня бачыў яго, як сьледуе. Я-ж пражыў тут змалку, сярод гэтых сумных лясоў ды балотаў; тут навакол траха не на 20 вёрст няма ні аднае вёскі: усё лес ды лес, балоціна з правалінамі, дзе вада чорная, як сажа, і дзе ніхто ня мераў дна. Гэта—„чортавы вочы“, як завуць іх старыя лясьнікі ды смалакуршчыкі. Разгоніцца лось ці воўк, сігае па лесе, наскочыць на „чортава вока“—і загіб. Шмат гэтых «вачэй»—і жудасьць ад іх бярэ. Тут жа, бліжэй к Кромані, месца вышэй, замест балота—сьветлы, жоўты пясок, лес чысты хваёвы, заўсёды сумны. Само возера, як бачыш, быццам бяз краю; вада ў ім чыстая, як шкло, але заўсёды яно захована туманом. Што робіцца на сярэдзіне возера—ніхто ня ведае... Раз прыехаў аднекуль здалёку нейкі андуфэльт з блішчастымі гузікамі: захацеў, ведаеш, памераць глыбіню. Нашы смалакуршчыкі казалі яму: „Не рабі гэтага, бо ніхто яшчэ ня сьмеў мераць Кромань“. Не, дзе ж там! Кажа,—вы старыя дурні, больш нічога.—Ну, добра, узяў гэта ён чайку, нейкі ланцуг з вагаю на канчары і папрасіў, каб хто-небудзь ад‘ехаў з ім у возера. Вядома, ніхто з ім не паехаў. Тады ён сам атагнаў чайку ад берагу і прапаў за туманам... Так мы яго больш і ня бачылі—згібі.

— А даўно гэта было?—запытаўся Антон.

— Да не, вось у гэтую мінулую восень... Але, так дзіўнае гэтае возера. Кожную нядзелю туман з яго каля поўдню выходзіць і чутно, як пад вадою звоняць, быццам у цэркві. Аб гэтым спакон вякоў ідзе гамонка: кажуць, што на месцы Кромані калісь была вялізарная вёска, якая раптам правалілася скрозь зямлю й схавалася пад вадою. Шмат чаго гавораць аб гэтай зьяве, я-ж чуў ад старых людзей вось што. У даўнейшыя часы на Навагрудку сядзеў ліцьвінскі

князь Вайшэлг—здаецца, так яго звалі. Злосны быў, сярдзіты чалавек. Здолеў ён усіх іншых князёў, але нейкі адзін яму не паддаваўся. Тады Вайшэлгу стала патрэбна шмат войска і грошай. Сваіх паддáных лупіў ён, як мог, а хто яму спрачаўся, дык тых хваталі, тамілі ў мурох Навагрудзкага замку, а потым катавалі. Многа людзей было загублена.. Праяжджаючы адзін раз у Лаўрашоўскі манастыр адмольваць свае грахі, даведаўся князь, што дзесь-ці ў лесе ёсьць вялікая вёска, з якое ён нічога яшчэ ня браў. Ну, добра. Пачалі шукаць яе, доўга шукалі—і знайшлі. Уехаў князь у вёску і пачаў наводзіць свой парадак: аддай мужчынаў у жаўнеры, аддай гавяду ды грошы. Усё аддалі сяляне, апроч грошай, бо яны нават ня ведалі, што гэта такое. Пахапаў князь старых, перакатаваў іх, але карысьці няма. Разьярыўся ён, як зьвер, пачаў заглядаць у вёскі ўсё часьцей і душыў, пакуль кроў не пачынала мучыць яго. Хто застаўся з сялян, пахаваліся па лесе, і вёска стала пустою; князь некалькі разоў не застаў у ёй ні душы. Потым ён даведаўся,што сяляне ў нядзелю выходзяцца ў вёску да мшы ў царкаў. Вось і наляцеў ён у вадну нядзелю і сам хацеў запаліць і царкаў і вёску, але раптам перад яго вачмі зрабілася вялізарнае возера. Аслупянеў князь, паехаў назад і цэлы тыдзень сядзеў, ня выходзячы з сьвайго замку. Але зайздрасьць яго не пакінула: ізноў са сваёй дружынай панёсься ён сюды за Нёман. Надыходзіла ноч, князь заблудзіўся ў лесе і праваліўся ў «чортава вока» са ўсёю сваёю ватагаю... З тых часоў і чуцён звон у Кромані: гэта сяляне правяць імшу і моляцца за вялікія грахі Вайшэлга. Гамоняць, што звон будзе да тае пары, пакуль які-небудзь чалавек не памрэ тут на Кромані за людзей і ня выкупіць тым душы князя. Вось што кажуць старыя людзі...

— Байкі ўсё гэта,—нахмурана адказаў Антон: чуў ты сам гэты звон?

— Сам, сам... каб ня чуў, то не казаў бы табе. Ды каб і ня чуў, так ці-ж ня можна было-б паверыць, што кажуць старыя людзі, аб чым ведама з веку?

— Ну, гэта, дзеду, спрэчная справа. Мала чаго ня зложана было калісь... Але доўга мы курым—давай выверием яшчэ карчоў са два, ці са тры.

Дзед Язэп крахтануў, устаў і, узяўшы рыдзель, пачаў падкопваць тоўсты хваёвы пень.

— Трохі рана яшчэ карчаваць, бачыш—зямля мёрзлая,—сказаў ён Антону, які ў гэты час, падлажыў калоду пад бому, канец апошняе пад абкопаны пень.

— Яно-то нічога, толькі прыходзіцца карэньні абсякаць блізка каля пня... Ну, ідзі—наляжам.

Дзед падыйшоў да Антона, і яны абудва налеглі на верхні канец бомы. Корч крахтануў, захістаўся, але моцна яшчэ трымаўся ў

зямлі. Разоў пяць напружаліся яны, але корч усё не даваўся. Ня гледзячы на халодны вецер і сырасьць ад неадтаўшае яшчэ зусім зямлі, заскарузлыя ад поту і гразі, як цырата, сарочкі іх сталі мокрымі. Аддыхнуўшы трохі і падсекшы яшчэ некалькі карэньняў, яны вырвалі корч, махнатыя чорныя лапы якога бязвольна растапырыліся ва ўсе бакі. За гэтым такая-ж чарга чакала другі, трэці...

Пачынала зьмяркацца. Ужо стала трудна разглядзець карэньні, ня відно было й самых карчоў.

— Ну, кідай! Пойдзем да хаты,—прапанаваў дзед: ужо позна, ды й рукі больш ня слухаюць.

Апрануўшыся і забраўшы сякеры й рыдлі, яны пайшлі па сьцежцы, якую ведалі толькі адны смалакуршчыкі. Ад узмокшых потных сарочак было вільготна, скрозь лыкавыя лапці праходзіла да ног вада, і абудва рупіліся йсьці, як найхутчэй. Уперадзе йшоў дзед, Антон —ззаду, і кожны думаў свае думкі.

— Вось ты, дзеду, казаў мне сёньня казку аб Кромані, аб нейкім князю, як ён катаваў людзей. Што князь мучыў людзей—гэтаму я веру, а што там у возеры звон якісь-та, то гэта проста байка. Першаму я веру праз тое, што такія казкі кожны дзень бываюць і ў нашым жыцьці. Чымся ня казка тое, што зрабілася, напрыклад, са мною? Чаму я тут у гэтым балоце, лесе? Дзецца больш некуды, хоць сьвет і вялікі. Бацька мой, дзед і ўсе старэйшыя ня мелі свае гаспадаркі, але жылі парабкамі ў пану. Бацька памёр і пакінуў нас траіх на панскую волю. Сястру, старэйшую ад мяне, узялі да пакою, я застаўся парабкам, а матка—удоўкаю. Працы было шмат, але мы трывалі. Трываў і я, хоць часта й біў мяне прыганяты... Але зрабілася тое, пасьля чаго трываць ужо было нельга: сястра мая была зьбяшчэшчана панічом, затаўсьцела і была выгнана з пакою. Яна з гора павесілася, а матка ў скорым часе памёрла п мешанаю. Я ня ўтрываў і, сустрэўшы раз паніча, хацеў проста задушыць яго, але адратавалі, на яго ліха. Мяне засудзілі, і тры гады я адсядзеў у вастрозе. Цяпер мяне, як астрожніка, можа прыняць толькі гэты цёмны лес ды балота... Што-ж, гэта ня казка, нашы паны—ня тыя самыя князі? Эх многа, дзеду, такіх казак на сьвеце, і шмат трэба добрых людзей загубіць, каб выкупіць, як ты кажаш, душы гэтых злодзеяў... Ох, шмат!

— Ну, гэта другая рэч, адказаў дзед Язэп і больш за дарогу не прамовіў ні слова.

Смалакуршчыкі адышлі ўжо далёка ад Кромані і праходзілі паміж «чортавых вачэй». Было зусім цёмна, і дзед цікава азіраўся па бакох, каб ня згубіць сьцежку. Адусюль тырчалі лапы старога вывернутага дрэва, пад галавою была цемра лясное глушы. У гэтым месцы ніхто ніколі ня жыў і нават старыя смалакуршчыкі, пражыўшыя ўвесь свой век у лесе, ставілі свае хаткі падалей адгэтуль, бліжэй к

Нёману. На вярсту ці паўтары ад берагу Нёмана па сухому лесу былі раскіданы невялічкія хаткі ўсіх тутэйшых смалакуршчыкаў, якія ледзь ня ўвесь год жылі тут, рэдка адлучаючыся на вёскі.

Хатка, у якой жылі дзед Язэп і Антон разам са сваім дзесяткам, перагародкаю дзялілася на дзьве роўныя часткі: адна была для ўсяго дзесятку, другая—для дзесятніка. У першай палавіне хаты быў доўгі стол, дзьве лавы з тоўстых негабляваных дошчак, умацованых на калодках, пол, займаўшы паўхаты, і гліняная печ з умурованым у прыпек чыгунным катлом. З левага боку ад ваходу да сьцяны была прыроблена палічка, на якой стаялі шаршавыя дзеравяныя міскі. У кутку за палічкаю стаяў заўсёды сьвяцец і пук хваёвае лучыны. Два маленькіх ваконцы з забрасьнеўшымі шыбкамі цьмяна глядзелі ў хату.

Дзед і Антон падыйшлі к хаце, кінулі каля дзьвярэй на прысьбу свае сякеры й рыдлі і вайшлі. Усе іх сябры былі ўжо дома: хто ляжаў на палу, хто ўмываўся, два ж маладыя хлопцы пяклі ў печы картоплі. Лучына, дагарэўшы да сука, дыміла так, што нельга было тхнуць. На жэрдацы пад печчу віселі мокрыя чорныя анучы і раскудлачаныя лыкавыя лапці з вяровачнымі аборкамі. Па ўсёй хаце стаяў кіслы дух ад мокрых кажухоў і сьвітак.

— Дзе гэта вы так доўга бадзяліся?—запытаўся у ўвайшоўшых рыжы Цімох, папраўляючы лучыну ў сьвяццы: мы ніяк ня можам дачакацца вячэры.

— Мы скончылі работу толькі на змроку,—адказаў дзед.

— За грашмі ганяецеся?—уставіў адзін з хлапцоў, што таўкаліся каля печы.

— Але, але за грашмі, хлопча. Хоць і ноччу працуй, ня толькі ўдзень, то й тады за імі не патрапіш. Грошы нас баяцца, так ганяйся не ганяйся за імі—ўсё роўна ня зловіш,—прамовіў Антон.

— А ці праўда гэта, што кажуць, у Чапскім лесе даюць 5 капеек з карча? Вось добра было-б, каб і ў нас так плацілі; тады можна было-б выгнаць у дзень саракоўкі дзьве, або і ўсе тры злоты.

— Там добра, дзе нас няма,—сказаў дзед Язэп, размотваючы з нагі ўсю ў гразі анучу. Я шмат пражыў на сьвеце, у гэтых лясох працую ўжо трыццаты год і ведаю, што нам прыбаўляюць па грошыку на пень гадоў праз пяць ці шэсьць. Каб даехаць да 5 капеек з нашых трох, трэба чакаць яшчэ найменш дваццаць гадоў. Я, вядома, не дажыву да такое ласкі.

— Ці доўга-ж гэта так будзе?— пачуўся з печы хрыпаты голас Піліпа: пры маім здароўі мне нельга больш выкорчаваць як пяць пнёў, зарабляю толькі залатоўку ў дзень, а дома там—нават нішчэмнае капусты няма.

Ён закашляўся, нешта доўга хлопала ў яго грудзёх.

— Дзейкаюць, што зараз адбяруць зямлю ў паноў і дадуць яе сялянам, тады ня трэба будзе гніць нам у гэтым балоце,—сказаў адзін з кутка на палу.

— Хто ж гэта адбярэ ў паноў зямлю? Мы ўсё спадзяваемся, што нехта там, вышэй, будзе такім ласкавым да нас і вось так сабе падаруе нам зямлю,—сказаў Антон, вешаючы свае анучы каля печы.—Дзе ж гэта было відана, каб паны згадзіліся па добрай волі дапамагчы беднаму люду? Ім нельга адцурацца ад свайго багацьця, нельга дазволіць, каб народ стаў на свае ўласныя ногі, бо тады некаму будзе на іх, паноў, працаваць. Усё гэта байкі, што дадуць. Мы гібеем ад голаду, ад холаду, страцілі чалавечы дух і жывём па лясох, балотах і расхляпаных вёсках, зьнішчаныя, бязвольныя і, ня могучы папрaвіць сваё жыцьцё, чакаем, спадзяваемся, што нас хто-сь то адратуе. Я-ж вам кажу, што вызваліць сябе можам мы толькі самі, больш ніхто.

— Малады яшчэ ты, каб кпінкі рабіць над намі,—раззлаваўся Цімох: мы сабе паможам самі, да мы паможам самі сабе. Чуў гэта я ўперад цябе, да нешта ня бачыў яшчэ, каб жабрак зрабіў багатым другога жабрака. Ну, чым я пасаблю табе, ці ты мне, калі ў нас, апроч вось гэтых чорных рук, нічога няма?

— Стары ты чалавек, а досыць дурны,—адказаў Антон: ты кажаш, што ў нас толькі чорныя рукі, больш нічога. А да таго ты недадумаўся, што гэтымі чорнымі рукамі ня толькі смала выганяецца, але імі зроблены панскія палацы, абрабляецца ўся зямля і капаецца золата, якое ў гэтыя рукі потым ужо не пападае. Чорных рук на сьвеце надта многа, і каб яны працавалі на сябе, а не на паноў, то было-б зусім другое.

— Вядома, мы ўжо старымі дурнямі сталі—дзе-ж нам да вас. Але, як відаць, і разумныя сядзяць у тым балоце, як і мы, дурні! —агрызнуўся Цімох.

— Даволі вам спрачацца,—прапанаваў дзед Язэп: будзем вячэраць.

Маладыя хлопцы, што кошкаліся каля печы, пачалі зьбіраць вячэру. Адзін з іх наліў у вялізарную міску халоднае з гаркаватым смаловым прысмакам вады, усыпаў туды жменю рудое солі й пачаў крышыць хлеб; другі выграбаў з печы картоплі, браў кожную з іх між далонямі, качаў яе і зьдзьмухваў попел. Як толькі хлопцы скончылі сваю работу, дзед Язэп сказаў:

— Ну, проша да вячэры.

З усіх куткоў хаты смалакуршчыкі пачалі зыходзіцца да стала і займаць свае месцы. Дзед Язэп, як старэйшы, сеў у кутку. Хлопец паставіў на стол міску з цурою. Усе з лыжкамі ў руках чакалі, пакуль не пачне старэйшы. Дзед стукнуў тры разы лыжкаю па краю міскі і зачэрпаў. Зразу за гэтым у міску сталі апускацца адна за другою ўсе дзесяць лыжак. Як ні пахла смалою вада, як ні трапчаў на

зубох пясок у хлебе, але міска апаражнялася надта хутка. Пасьля цуры на стале паказаліся картоплі.

— Добра было-б хоць солі да картопель,—сказаў адзін хлопец

— Мала чаго—добра,- адказаў Цімох: соль каштуе дваццатку гарнец, так дзе-ж нам ёю кідацца.

Грудка картопель станавілася ўсё меншаю, а перад кожным з вячэраўшых вырастала кучка лупін. Было ціха, гаварыць ніхто ня меў часу.

Раптам знадворку пачуўся гоман тупат, а потым хтось то пачаў лапаць дзьверы. Праз хвіліну на парозе паказаўся рослы чалавек, увесь у гразі і мокры. Зьняўшы аблезлую шапку і пераводзячы дух, ён прамовіў:

— Добры вечар, людцы... Калі ласка —прымеце нашага плытніка, хоць на адну ноч.

— Чаму?— запытаўся дзед з-за стала.

— Ведаеце, ён захварэў і надта моцна; там, на беразе ён пры такой халадзіне ня вытрывае й ночы—памрэ.

— Вось якая справа,— сказаў Цімох: а як ён тут памрэ, што-ж мы будзем рабіць? Пойдуць усякія сьледзтвы, допыты—клопату не абярэшся.

— Зжальцеся, браты,—прасіў плытнік.—Гэта яшчэ зусім малады хлопец, другі раз толькі пайшоў на плыты. Учора ўвечары мы сталі тарнавацца; яго паслаў стырнік браць плыты на барбару. Усё йшло добра, але ў адным месцы, дзе зямля яшчэ была мёрзлая пад лісьцем, гартоль склізнуў поверху, і наш хлопец паляцеў у воду. Яго ледва злавілі й выцягнулі. Перш ён быў бяз памяці, потым адыйшоў трохі, але самі ведаеце, якая пара цяпер—лёд толькі зыйшоў. Хлопца б'е і трасе, на двары яго нельга пакінуць. Прымеце, будзьце ласкавы.

Паміж смалакуршчыкаў падняліся спрэчкі. Маладыя хлопцы сталі, каб прыняць хворага, старыя агрызаліся й баяліся быццам чагось, хоць і маўчалі аб гэтым. Але дзед Язэп скончыў гэтыя спрэчкі.

— Трэба памагчы людзям, што вы, сябры! Увядзеце хворага, —сказаў ён.

Праз некалькі хвілін два другія плытнікі ўнясьлі ў хату маладога хлопца. Твар яго быў залёны, каля вачэй чырвана, увесь ён дрыжаў, як ліст. Яго распранулі. Усё цела было чорнае, як чыгун.

— Нядоўга ён пражыве,—сказаў хтось з смалакуршчыкаў.

Хворы заенчыў і хрыпатым голасам папрасіў вады. Усе, хто быў у хаце, забыўшыся аб нядаўных спрэчках, прагліся памагчы хлопцу.

— Што тут за гоман?!—раздаўся зыкаваты голас. Усе азірнуліся: на парозе стаяў дзесятнік Сымон Гуз.

— Хворага плытніка прынесьлі сюды,—адказаў Цімох, гледзячы ў зямлю.

— Хто прынёс? Хто дазволіў прыняць?—пачырванеўшы ад злосьці, закрычаў дзесятнік.

— Прынесьлі вось яны, а прымалі мы ўсе,—ціха сказаў дзед.

— Усе прымаеце? Прэч яго адгэтуль! Не дазволю я!—крычаў Гуз, і ў яго з рта ўжо ляцелі кавалкі сьліны.

— Як хочаш, ты тут старшы, мы павінны табе пакарацца,—прамовіў дзед Язэп.

Плытнікі, прынёсшыя хворага хлопца, моўчкі пераглядаліся між сабою і апускалі ў зямлю вочы, ня ведаючы, што рабіць. У хаце зрабілася зусім ціха, толькі хворы хлопец стагнаў нясустрымна, як яго апаноўваў прыпадак трасцы.

— Доўга я буду чакаць? -рыкнуў ізноў Гуз.

Плытнікі пачалі апратваць хлопца і ў двух ужо паднялі нясьці яго назад. Антон, моўчкі стаяўшы дагэтуль каля стала, падыйшоў, быццам сарваўшыся з месца, да хворага й сказаў:

— Палажэце яго йзноў, браты. Куды вам несьці? Дзядзька Гуз, я прашу цябе ня лаяцца на людзей і пакінуць тут гэтага хлопца.

— Я ўжо сказаў, што не пакіну, а ты хадаком ня лезь,—агрызнуўся Гуз.

— Так няўжо ж ты можаш выкінуць свайго брата, хоць бы ён уміраў?

— Які ён мне брат, шмат было-б занадта братоў,—ня сьмаўся дзесятнік.

— Але і ўзапраўды, што ні ён, ні мы табе не браты. Я абмыліўся, сказаўшы гэта. Сымон Гуз мае валоку зямлі, мае добрую гаспадарку, знаёмы паном і ўсім гандляром. І сюды зайшоў ён ня спросту для працы на хлеб, але каб сесьці на чужым карку і класьці сабе ў кішэню грошы, зароблены чужым потам. Вядома, гэты хлопец, якога пагнаў голад на плыты, ня брат Гузу. Але ён наш брат, і мы не дазволім, каб ты выкідаў яго на двор перад яго сьмерцю. Чуеш гэта, дзядзька Гуз?

— Як, ты будзеш мною камандаваць? Астрожнік ты! Я й цябе выкіну, ня толькі што гэтую галоту!—зароў Гуз.

— Ня надта разыходзься: рукі кароткія,—супакойна адказаў Антон.

— Кароткія, кароткія ў мяне рукі... пачакай, пачакай, шэльма—задыхаючыся ад злосьці, барматаў Гуз.—Мяне ўжо ня слухаць!..

Каля запечку стаяў цяжкі жалезны лом, якім падварочваюць карэньне пры карчаваньні. Гуз схапіў гэты лом і замахнуўся на Антона. Усе замёрлі, ня дыхалі. Але лом так і павіс у руцэ Гуза. Антон трымаў яго за абедзьве рукі і, гледзячы проста яму ў вочы, казаў:

— Ты брудны чалавек, дзядзька Гуз. Аба ўсім ты забыўся: забыўся, што ты такі самы мужык, як і ўсе мы; забыўся, што ў горы трэба дапамагчы чалавеку. Успамянеш ты аб гэтым часе некалі, але будзе позна. Твая доля—панская доля цяпер і

некалі. Адцураўся ты ад нас, пагнаўся за нажываю на чужым горы —пашкадуеш аб гэтым, будзе такі час. Ідзі, я цябе ня трымаю, а то можаш ізноў замахнуцца і прыкончыць мяне.

Антон пусьціў рукі Сымона, які пачаў азірацца на ўсіх, ня ведаючы, што рабіць далей.

— Ну, пачакай, я цябе ўпяку,—апомніўшыся, сказаў ён Антону, павярнуўся ў сваю хату й бразнуў за сабою дзьвярмі.

Як толькі зачыніліся за дзесятнікам дзьверы, усе старыя смалакуршчыкі, нават і кволы Піліп, наваліліся на Антона. Толькі дзед Язэп маўчаў і, сеўшы каля стала, ківаў галавою, быццам гаварыў сам з сабою. Але як ні горача ўпікалі Антона, усё ж плытніком не дазволілі вынесьці назад свайго хворага сябра. Пакрысе гамонка пачала сьціхаць, і ўсе сталі ўкладацца спаць—хто на печы, хто на палу. Хворага хлапца палажылі на печы і накрылі кажухом; прынёсшыя яго плытнікі пайшлі да сваіх на Нёман.

— Антон, табе тут нельга больш заставацца,—шапнуў лажучыся дзед.—Гуз не такі чалавек, каб падараваць табе, і ён пажаліцца на цябе ціўну, а там, хто ведае, што будзе.

— Дзякуй табе, дзеду, за ласку,—адказаў Антон, лажучыся ў самы куток.

Хутка ўся хата заснула. Ня спалі толькі хворы хлопец на печы, які стагнаў і барматаў нейкія няясныя словы, да Антон, якога займалі цяжкія думкі. Ня маючы свае хаты, ніякае радні, з «воўчым» білетам—куды ён мог выйці з гэтых лясоў. Але й тут нельга было больш заставацца. Праўду кажа дзед Язэп: Гуз не падаруе яму, Антону, сваявольства, данясе пану—і вастрог ізноў зачыніць яго надоўга. Такое долі Антон сабе не хацеў, асабліва ў такі час, калі ўсюды, па чуткам, пачынае падымацца рух за вольнасьць. Не, у гэты час трэба быць сярод народу, а не ў астрозе праз нейкага Гуза.

Антон ціха ўстаў, абуўся ў макраватыя яшчэ анучы й лапці, узяў свой пінжак і выйшаў з хаты. На тым баку за Нёмнам шырокія поймы прынялі яго ў сваё лона, а за імі пачыналіся вялікія і частыя вёскі, у якіх у скорым часе Антон знайшоў сабе працу шмат большую, чымся ў кроманьскіх смалакурнях.

## II.

На Кромані хутка ляцелі дзень за днём. Аб Антону сталі забывацца, бо, як кажуць, за працаю ня бачылі сьвету. Чуць займалася зара, усе ўставалі і па двух разыходзіліся ў розныя бакі па лесе. Толькі дзеду Язэпу ня было пары, і ён далучыўся да хваравекага Піліпа й яго сябра. З кожным днём работы ўсё прыбывалася, бо як насталі цёплыя сухія дні, Гуз загадаў пачаць гонку смалы. Карчы, што былі загатованы раней, звалакалі да кучы й пусьцілі кацёл. Разам з гэтым трэба было гатаваць новы яшчэ запас карчоў, каб не прыпы-

няць курава. Бывалі такія прыпадкі, што з-за недастачы карчоў дзень ці другі выганкі ня было, і тады дзесятнік скідаў частку заработку з кожнага. Вядома, што некаторыя смалакуршчыкі лезьлі з скуры, прагучыся зарабіць, як найбольш. Тады-ж, як скідалі за прастой катла, асабліва заўятыя глядзелі косым вокам на тых, хто мог менш вырабіць. З-за гэтага надта цяжка было дзеду, бо яго гурток з трох чалавек ня мог зраўняцца ў працы нават з іншымі двума чалавекамі. Астатнія смалакуршчыкі заўсёды, як затрымоўваў Гуз частку грошы за прастой, упікалі гэтым дзеда, Піліпа і маладога хлопца, што быў з імі. Сам Гуз часта пакрыкваў на іх, ахвяруючыся прагнаць: ён так сама атрымоўваў свой заработак з катла выгнанае смалы, і яму было моташна, як які-небудзь рубель праходзіў паміма яго кішэні.

У нядзелю звычайна ўсе малодшыя хадзілі хто ў вёскі на той бок Нёману, хто ў мястэчка, каб закупіць дзеля ўсяго дзесятку харчоў на тыдзень. Заставаліся пры смалакурні толькі дзед Язэп, Цімох да Піліп. Цімох цёрся каля хаты, папраўляў што-небудзь з адзежы. Піліп і летам у такія дні ўсё ляжаў на печы, праклінаючы сваё жыцьцё. Дзед жа Язэп браў сваю сукаватую ялаўцовую палку і выходзіў у лес. Ціха хадзіў ён між гушчыні, прыслухоўваючыся к таемнаму лясному шуму. Заўсёды канцом яго дарогі была Кромань. Як толькі ён даходзіў да берагу, выбіраў сабе пень, садзіўся на яго й сваімі старэчымі вачыма ўтупляўся у туманную аграмаду вады... Над возерам віліся чайкі ды вадзяныя ластаўкі, якія падымалі піск, як паказваўся коршун ці арол. Навокал—простыя, як сьвечкі, стаялі высокія хваіны, зялёныя шапкі якіх лёгка хісталіся на тонкай вяршыньцы. Дзе-то, як з-пад зямлі, чуцён быў гук вадзянога бугая. Хваяя налётвала на бераг, аблівала з чмокам пясок і запынялася. Чалавечага голасу—нідзе... Перад вачыма дзеда праходзілі ўсе сказы аб возеры, праходзіла і ўсё яго жыцьцё ў гэтым лесе: доўгая цяжкая праца, стараньне зарабіць сабе на хлеб і содзевак, злада з панскімі дзесятнікамі; трыццаць гадоў такое працы. Цяпер жа, як ён стаў нядужым, як нагнаў за свой век смалы столькі, што ёю можна было-б заліць усё пекла, яго ўжо ганьбуюць, Сымон хоча прагнаць. Жабраваць ісьці засталося, больш нічога. А можа і ў возеры жыць можна: жыве-ж там цэлая вёска і, можа, гора ня ведае. Не, бог павінен дапамагчы. Але чаму-ж ён не дапамог таму хвораму хлопцу-плытніку, а, наадварот, скараціў яго жыцьцё?.. Глядзеў дзед у возера і не знаходзіў адказу на гэтае пытаньне. Да цямна праседжваў ён, слухаючы глухі шум возера, чуліся яму нейкія галасы, зразумець якія ён ня мог...

Раз—гэта было ў апошнюю нядзелю перад Пятром—вярнуўшыся ўвечары да хаты, дзед застаў нешта нязвычайнае. Пасярэдзіне агульнае палавіны хаты стаяў, узяўшыся ў бокі, Гуз і зьдзіўлёна пытаўся:

— Як гэта паўтара рубля ў дзень? Ці-ж вы ачумелі, ці што! Паўтара рубля ў дзень! Да ці ўмееце вы лічыць да паўтара рубля?

— Ну, гэта не твая справа, умеем мы ці не,—адказаў адзін з маладых хлопцаў, быўшых у дзесятку.

— Ды адкуль-жа я вазьму іх вам?—ізноў пытаўся Гуз.

— Вось гэта твая справа: дзе хочаш, там і бяры; толькі калі не дасі, то мы больш працаваць табе ня будзем,—сказаў хлопец.

— Ня будзеш ты, другія знойдуцца.

— Пашукай... Дзядзькі, і ты, дзеду, слухайце: сягоньня мы з Пётраю былі ў мястэчку й пабачылі, што робіцца на сьвеце: па ўсіх валасьцёх сяляне ўмовіліся ня йсьці да паноў ні жаць, ні касіць, ні на другую працу, калі ня будзе платы паўтара рубля ў дзень.

— Паўтара рубля? да ты ў сваёй галаве, хлопча, ці не?—зьдзівўся дзед.

— Але, паўтара!—казаў хлапец: і вось цяпер у маёнтках ужо ўсе кінулі працаваць, апрача лёкаяў да некаторых парабкоў. Чаму-ж мы павінны ламаць сваі сьпіны за якую-небудзь саракоўку? Калі й нам не дадуць, як хочуць усе людзі, то мы павінны кінуць работу.

— Як кінуць? А на што жа мы будзема жыць?—сказаў Цімох.

— Ня слухайце вы гэтых смаркачоў,—сказаў Гуз: ці-ж гэта можна, каб просты чорны чалавек зарабляў такія грошы? Гэта проста марочаць народ.

— Трэба было-б дабавіць нам трохі, сказаў дзед.

— Дабавіць, табе дабавіць, карысьці мне ад тваё працы, як з казла малака!

Ну, але добра, накідаю вам па залатоўцы на дзень.

—От-то дзякуй табе, кінуўся к Гузу Пілiп.

— Ня дзякуй яго, дядзька Пілiп, ён купляе цябе за залатоўку; ты можа трохі больш варт,—сказаў хлопец.—Так ты, дзядзька Сымон, будзеш чакаць, да глядзець на паноў, а плаціць ня згодзен паўтара рубля?

— Чакай, можа два атрымаеш, прабурчаў Гуз.

— Ну, пойдзем! Хто яшчэ з намі?

Тры хлопцы й два малодшых мужчыны сабралі сваі мяшкі, торбы, ложкі й разьвіталіся з тым, хто заставаўся. Дзед засмучана паглядзеў ім усьлед, апусьціў голаву й прамовіў:

— Што яны зробяць з панамі? У паноў шмат грошай і дапамогі, абыдуцца й бяз нашых сялян, а сяляне толькі пашкодзяць сабе.

— Добра ім хвардыбачыцца,—сказаў Пілiп: узялі вось сваі мяшкі і пайшлі куды? к сабе дадому. А я да чаго пайду? Да пустое хаты? Не, дзякуй.

— Сымон прыбавіў нам па залатоўцы—і то добра. Чаго лепш цяпер хацець?

Гуз усё-ж-такі засмуціўся адходам смалакуршчыкаў і сярдзіты пайшоў у сваю хату.

З кожным днём работа на смалакурні ўсё больш горшылася Кацёл пачаў пуставаць па некалькі дзён падрад. Гуз траціў свае барышы, і яго ахвяра павысіць плату так і засталася толькі ахвяраю, бо ён не хацеў траціць свае грошы, а прасіць у пана дабаўкі баяўся, каб яго не залічылі да „сацыялаў“. Гэтага слова Гуз баяўся горш як агню. З усіх жа смалакуршчыкаў асабліва кепска было дзеду. Некалькі разоў ён успамянуў аб Антову. Гуз, пачуўшы гэтае імя, узьненавідзеў дзеда так, як і самога Антона.

— Што-ж, ідзі й ты за Антовам ў сацыялы,—падсьмехваўся ён: будзеш паўтара рубля зарабляць у дзень; хоць боты сабе на сьмерць заробіш

— Дзед усё часьцей пакідаў хату й сядзеў каля Кромані, думаючы нейкую цяжкую думку.

Прайшло яшчэ тыдні два ці тры. Была самая сярэдзіна лета. Пагода стаяла ясная й душная, і нават у самай гушчырні лесу было горача. Стомленыя сонцам і пылам смалакурні, нашы працоўнікі падселі пад яліну перадыхнуць. З боку хаты пачулася гутарка: адзін голас быў нячый іншы, як Гуза, а другі незнаёмы. Хутка на лажок, дзе была смалакурня, выйшаў Гуз і з ім панскі цівун.

— Да не, паночку, не дывайце больш, і так пойдуць,—пачулася рэч Сымона.

— Добра, добра! Паглядзімо,—гаварыў цівун, падыходзячы да смалакуршчыкаў.

Усе ўсталі, пазьнімалі шапкі й чакалі, што скажа цівун.

— Дзень добры, браточкі! Ну, як ідзе у вас работа? Я бачу, што вы не такія гультаі, як другія. Такіх гультаёў у вапошнія часы разьвялося надта шмат: яны самі не працуюць і другім перашкаджаюць. Узбунтавалі увесь народ і панскія сена і хлеб застаюцца не сабраным. Ці-ж можна так?

— Дзе-ж, паночку, дзе-ж гэта можна!—гнусавіў Цімох.

— Дык вось што: кіньце вы валандацца сваёю смалою, а йдзеце касіць туды за Нёман; будзеце атрымліваць па пяць злотых у дзень.

— Паночку, дарагі! Па пяць злотых! Вось ласка, а—як яго — але, Антон казаў, што паны нас не пашкадуюць. Брахаў, гунсват— не гаварыў, а больш барматаў Піліп.

— Ня радуйся, Піліп,—сказаў дзед Язэп: не пражывеш век за пяць злотых.

— Ну, ты маўчы, стары чорт!—агрызнуўся на дзеда Гуз.—Бачыце, паночку, што яны за такія грошы куды хочаш пойдуць. У другіх смалакурнях вы набераце таксама шмат людзей і перад Антонаваю ватагаю кланяцца ня трэба будзе.

Гэта казаў Гуз цівуну, як яны ўжо адыйшлі ад смалакуршчыкаў.

Адгэтуль цівун паехаў на другія смалакурні наймаць на касьбу тых, хто заставаўся на рабоце ў лесе. І Цімох і Піліп зразу сталі вясёлымі, гаварылі бясконца аб панскай ласцы й цешыліся аб тым, што цяпер заробяць шмат грошай. Дзед Язэп маўчаў і ня мог глядзець проста ў вочы сваім сябром. Ён адвярнуўся ўбок, і цяжкая думка была на яго твары. Потым, як быццам скончыўшы думкі, ён павярнуўся да Цімоха і прапанаваў ісьці скончыць дзённую працу, каб не пакінуць смалакурню ў непарадку. Вяла праходзіла работа й зацягнулася да позьняе ночы.

На другі дзень пасьля гэтага, зранку апусьцела хатка нашых смалакуршчыкаў. Гуз, якому зусім было не па рупэ займацца падзёншчынаю на панскіх лагох, усё жа такі ўсхапіўся першым і пачаў будзіць сваіх падлеглых. Праз некалькі хвілін ён, як нейкі начальнік, вёў сваіх смалакуршчыкаў да Нёмна. Як толькі яны перабавіліся на той бераг, адчынілася шырыня, што не ахапіць нават вокам, роўных зялёных лагоў. Трава ўжо пасьпела і нават перасьпела, і праз гэта рабілася ўражаньне, быццам на зялёны мошаст наляцела лёгкая празорная плёнка, сатканая з чырвонага шоўку. Сонца толькі што выйшла з-за лесу і адбівалася яскрава ў кожнай капельцы расы. То там, то сям поўзалі каля зямлі кавалачкі белае ваты—туману, зыблючыся над лагчынамі. І далёкая шыр, і яснае сонца, і яскравасьць лагоў асьляпілі дзеда, які прывык да лясное цемры і тонкіх колераў. Ён прыжмурыў свае слабыя вочы, вытраўленыя дымам, і дзіваваўся на сьвет, быццам толькі ўчора радзіўся.

Хоць па-сялянску ўжо было й позна, але на лагох нідзе ня было відаць людзей. Здавалася, што гэта пустка, у якой ніколі ня была чалавечая нага. Толькі далёка ўлеваківалася некалькі касцоў да стрыкаталі, як конікі ў летні вечар, дзьве ці тры машыны. Туды й павёў Гуз свой гурток. Пэдыйшоўшы туды, даведаліся, што касцы былі нятутэйшыя, але прывезеныя з Магілёўшчыны; за машынамі ж былі ці прыганятыя з маёнтку, ці панскія лёкаі, адзетыя чыста і ў ботах. Смалакуршчыкі далучыліся да касцоў і пачалі новую, трохі нязвычайную для іх працу.

Праз дні два ці тры дзед Язэп быў надта зьдзіўлёны, як пераехаўшы праз Нёман, убачыў па ўсім лагу шмат людзей, пачынаўшых касіць. Падышоўшы бліжэй, ён спазнаў па адзежы тых самых магілёўшчан, з невялічкім гуртком якіх ён пазнаёміўся ў першы дзень. К поўдню паказаліся й бабы з граблямі, а к захаду сонца ўвесь лог пярэсьціўся копамі сена. Як пашабашылі работу, Гуз падыйшоў к смалакуршчыкам і сказаў:

— Заўтра будуць плаціць па чатыры залатоўкі. Хочаце йдзеце на роботу сюды, хочаце—не.

Цімох вытрашчыў вочы й не зразумеў.

— Я табе казаў, Цімох, што за пяць залатовак не пражывеш век,—сказаў дзед.

Работа на лагох пайшла поўным пэнтам. Трава была ўжо скошана, усюды былі копы й копы, а ў некаторых мясцох пачалі ўжо ўздымацца стагі.

У вадзін дзень кэля поўдня з вёскі, што была між полем і логам, выйшаў гурток сялян, чалавек з пятнаццаць. Гэты гурток ішоў па дарозе ў панскія лагі, а потым павярнуўся туды, дзе больш было за работаю народу, да стагоў. Якраз тут працавалі смалакуршчыкі.

— Дзень добры, браты! Калі ласка падыдзеце ўсе сюды!—моцна сказаў адзін з прышоўшых.

Працаваўшыя кінулі работу, і хто з цікавасьці, хто проста, каб пастаяць, зышліся к месцу, дзе прыпыніліся прышоўшыя сяляне. Дзед Язэп са сваімі сябрамі таксама падыйшлі сюды.

— Глядзеце, вось наш Антон тут,—сказаў Пілін.

— Дзе, дзе?—запытаўся дзед.

Антон у гэты час узьлез на капу сена, абвёў вачыма навакол і сказаў:

— Браты! Мы прыйшлі сюды ад сялян усіх бліжэйшых валасьцёў прасіць вас не перашкаджаць нам у барацьбе з панамі і далучыцца да нас! Вы ведаеце, як цяжка нам усім жыць, якую працу й пакуту нясём мы для таго, каб жыць, хоць у галадзе і ў холадзе, але жыць. Паглядзеце на гэтыя лагі, а там далей—на полі: чые яны? Панскія, але палітыя нашым потам. За гэты пот, за сваю працу мы нічога ня маем. Далей так не павінна быць. Уся зямля павінна быць у таго, хто на ёй працуе. Здабыць жа сабе зямлю можама мы толькі самі, ніхто яе нам ня дасьць. Вось мы й парашылі перш за ўсё прыціснуць паноў аплатаю нашае працы і не згаджаемся абрабляць іх зямлю так танна, як гэта было даўней. Вас панскія слугі сабралі з усіх мясцоў, падманулі добрымі заработкамі, ашукалі ўсякімі абяцанкамі. Перш вам палажылі па пяць злотых у дзень, але як убачылі, што вы пагналіся за гэтымі пакутнымі грашмі, ужо скінулі; праз дзень ці другі вам будуць даваць яшчэ меншы, а потым зыйдзе на тое, што вы зарабілі і ўперад кожны на сваім месцы. Так ці-ж варт за лішні рубель, які вы заробіце за тыдзень, паганіць справу ўсяго працоўнага народу па вёсках і гарадох? Тым, што вы ня ўтрымаліся й пайшлі рабіць, вы губіце нас і ня зробіце ніякае палёгкі сабе. Кіньце-ж гэтую працу: калі паны ня схочуць згадзіцца з намі па ласцы, дык мы прымусім іх к таму сілком.

— Праўду ён кажа,—пачулася між народу.

— Гэй, сябры! Кідайце работу! Няхай нам плацяць, як умовіліся—чутно было ўжо падалей.

— Браточкі! Падумайце, што вы хочаце рабіць!—лісьліва загаварыў цівун.

— Большая частка з вас прыехалі сюды здалёку. Калі вы кінеце работу, то на што ж вы будзеце тут жыць? Нябось, карміць вас ніхто з іх не захоча. Адумайцеся.

— Вядома, хто вас будзе карміць!—падхапіў Гуз.—Той, хто прапануе вам кінуць працаваць, вам хлеба ня дасьць, бо сам ня мае, а калі вы будзеце слухаць пана, так ня толькі заробіце на хлеб, але й да дому грошы панясеце. У кожнага з вас ёсьць гаспадарка, трэба яе падтрымаць; а ў гэтага бунтаўшчыка нічога няма, так ён і раіць вам быць такімі гультаямі, як і ён сам.

— Гата ты, дзядзька Сымон? Няўжо-ж і ты ў падзёншчыкі пайшоў, маючы валоку свае зямлі?—запытаўся Антон, каб яго чулі ўсе.

— Глядзеце, глядзеце, што гэта за дым над вёскаю!—пачуўся чый-то голас.

Усе павярнулі галавы на вёску.

— Не, гэта ня дым, а слуп пылу... Ён становіцца ўсё бліжэй сюды.

Слуп рабіўся ўсё большым і наносіўся бліжэй і бліжэй. Хутка пачуўся тупат і праз пыл сталі паказвацца людзі вярхамі на конях. Хто-то ціха сказаў—жандары!

Хоць боязна і прыдушана раздалося гэтае слова, але ўсе яго пачулі. Крайнія сталі разыходзіцца, бралі хто граблі, хто вілкі й пачалі варушыць сена. Антон і яго сябры, быўшыя ў сярэдзіне, ня ўсьпелі аглядзецца, як жандары наляцелі і тыльём сваіх шабаль пачалі біць народ. Дзед Язэп стаяў убаку й бачыў, як на Антона наляцеў тоўсты вусаты жандар і два разы агрэў яго сваёю шабляю. Антон зваліўся з ног, і яго стала ня відаць, бо паднялася такая таўкатня, што ўсё зьмяшалася ў кучу. Разагнаўшы народ, жандары павярнулі коней убок і паехалі скрозь па лагу. Антон ледва ўстаў: з роту і з носу ў яго цякла кроў; у другіх таксама твар быў ці ў сінякох, ці ў крыві.

— Ну, што, прыдзеш сюды больш падбухторваць людзей?—падскочыў к Антону Гуз.—Уцякай адсюль, астрожнік!

Пабітыя, пакрыўджаныя, быццам аплёваныя пайшлі дапутаты назад у вёску.

Дзед Язэп доўга пазіраў усьлед Антону, потым павярнуўся, знайшоў сваю торбачку й ціха, ні на кога ня гледзячы, пайшоў да лесу. Дабраўшыся да хаты, ён увесь канец дня праляжаў на палу. „Ніхто не дапаможа бедным людзям, бо яны самі ня ведаюць, што робяць: адзін б'е і катуе другога, а трэці стаіць да насьмяхоўваецца. Цяжка Антону, бо ён адзін; каб усе такімі былі, то інш было-б у нас“, думаў дзед. Увечары, прышоўшы з работы, Цімох запытаўся:

— Што-ж ты, Язэп, уцёк? Ці ня хочаш ты забастоўшчыкам быць, як і Антон? А можа ты хворы?

— Але, брат, хворы, і больш да сена не пайду,—адказаў ён.

У вапошнія дні Гуз звычайна начаваў у вартаўніка на лагох ў

лес не заходзіў. У гэты-ж дзень ён прыйшоў па нейкім сваім патрэбам. Зайшоўшы ў хату смалакурпчыкаў і ўбачыўшы дзеда, ён сказаў, каб гэты ўжо больш не хадзіў на работу, бо цівун вялеў ня прымаць старых, каб не плаціць грошы за іх няварную працу. Дзед адказаў, што ён і сам ужо ня пойдзе.

— Ну, а калі ты ня будзеш рабіць там, да німа працы й тут на смалакурні, так нечага й блукацца табе ў чужой хаце: ты павінен пакінуць яе.

— Сымон, шмат я бачыў ад цябе крыўды, але гэтага не чакаў. Няхай сабе гэтая хата не мая ўласная, але я будаваў яе, жыў у ёй, як ты яшчэ толькі на сьвет радзіўся. Так пасаромейся ты сябе! Ці-ж табе таксама чужое і дла цябе хаты шкода? Ды куды-ж я на старасьці пайду, ня маючы нікога й нічога?

— Куды хочаш—гэта твая справа,—адказаў Гуз,—але каб цябе праз два дні тут ня было.

Гуз быў такі чалавек, што заеўшыся не адходзіў. Знарачыста прыходзіў ён нанач у лес начаваць у хату смалакурпчыкаў, каб мець погляд, калі пакіне хату дзед. Апошняму да таго цяжка й млосна было на душы, што ён ня мог найці сабе супакою і цэлы дзень сядзеў каля Кромані, быццам баючыся затрымоўвацца ў хаце. Толькі вольны цёмны лес да возера, з якімі ён зпаўся з маладых гадоў, варочалі яму калішні супакой і ціхі настрой душы. Нават і людзей яму не хацелася бачыць, толькі Антон заўсёды стаяў прад яго вачыма то моцны й супакойны, то зьнішчаны з крывавым тварам.

## III.

Усё неба чырванела й жахацела. Вечар ужо даўно настаў, але нават і ў лесе было зусім відна. Скрозь веткі чырвоны бляск праходзіў да зямлі й ахварбоўваў усё ў жудасны крывавы колер. Дзед Язэп сядзеў адзін на прысьбе, глядзеў на неба скрозь шчылінкі між вяршынамі. На душы была трывога, якую чуем мы заўсёды, як бачым агонь—стыхію. Чырвоны бляск то як бы патухаў, то йзноў пашыраўся, то праходзіў у другое месца. Дзед Язэп бачыў, што гэта пажар, але дзе—ён ня ведаў. Зараз прыйшлі Піліп і Цімох з работы.

— Дзе гэта пажар?—запытаўся дзед.

— Гэта панскія стагі гараць,—сказаў Цімох. Мы ледва выбраліся да хаты: прыганятыя ня пускаюць, прымушалі тушыць сена. Але-ж як ты будзеш тушыць стог? Пакуль увесь не згарыць, да яго не падступішся. Толькі наш Гуз там гасае ад стога к стогу, бытцам можа ўсе іх захаваць ад агню...

На другі дзень яшчэ зранку Гуз вярнуўся ў лес. Ён быў стомлены за ноч і нават забыўся пакрычаць на дзеда. Цімоху й Піліпу ён сказаў ня йсьці ў лог, бо там больш працы ня будзе. Гэтыя апош-

нія былі нездаволены такім становішчам, але рабіць больш было нечага. Гуз жа цэлы дзень спаў у сваёй каморцы.

Увечар, як толькі пачаў падаць змрок, ізноў чырвоны бляск адбіўся на небе. Гэта дагаралі стагі. Трохі пазьней пажар усхапіўся далей за логам—каля маёнтку і вёсак. Не пасьпяваў агонь сьціхнуць у вадным месцы, як ён уздымаўся ў другім—і гэтак цэлую ноч. Дзед усё садзеў на прысьбе, глядзеў на бляск і ківаў галавою, быццам хваліў каго-сь... Ужо перад раніцаю між дрэвам хінуўся цень, потым выйшла кабета.

— Ці ня ведаеце вы, дзе тут Сымон Гуз?—запыталася яна ў дзеда.

Дзед увёў яе ў хату.

— Сымон! Мы пагарэлі,—зараўла яна.

— Што? што ты кажаш? Мы пагарэлі?! Як-жа гэта, а больш ніхто з суседзяў.

— Не, толькі на нас адных такая напасьць... Усё згарэла!

— Усё згарэла: і гавяда і дабро... Адны пагарэлі. Ну, я ведаю, чыя гэта работа. Ня скончыў тады я гэтага астрожніка—кепска зрабіў, сабе на зло. Ну, пойдзем на вёску, сказаў Гуз жонцы.

Больш Гуз ня мог тут заставацца—яго чакала дома свая праца.

Пажары ня сьціхалі й далей. За стагамі дайшла чарга да маёнткавых будынкаў. Былі спалены папоўскія гумны; чыёю то рукою падкладаўся агонь і пад сялянскія хаты, пры гэтым тут быў нейкі выбар: гарэлі ўсе такія, як Гуз. Але пажары ў вёсках нарабілі шмат смутку. Нават Піліп, лічыўшы сваю хату пустою і ніколі ня цікавіўшыся ёю, пайшоў на сваю вёску вартаваць, як ён казаў, сваю хату.

Дзед застаўся адзін каля смалакурні. Цімох, лічачы, што смалакуршчыкам ужо ў гэтае лета нічога не заробіш, кінуў лес і пайшоў шукаць сабе працы дзе небудзь у маёнтку. Малады хлопец, што заставаўся пры Піліпе, уцёк разам з ім. Хата зрабілася надта вялікаю, і дзед часта не знаходзіў у ёй сабе месца, ня ведаючы, што рабіць. Уперад ён хацеў пашукаць у лесе, ці не засталіся людзі на іншых смалакурнях. Потым яму не захацелася выходзіцца са сьвежымі людзьмі. Аднаго ён чакаў— угледзецца з Антонам і пайці з ім сказаць людзям праўду.

На адвячорку аднаго з бліжэйшых дзён к хаце дзеда падыйшоў хлопец у гарадзкой адзежы. Ён азірнуўся навакол і пастукаў у вакно. Дзед выйшаў на двор. Акінуўшы вокам прышоўшага, ён прыжмурыўся, быццам што-то ўспамінаючы.

— Здрайстуйце, дзеду! Гэта вы будзеце Язэп Гарэлы?—запытаўся хлопец.

— Я... Пачакайце, вы, здаецца, ўвосень былі тут, хацелі Кромань мераць?

— Быў, быў.

Дзед задумаўся: мусіць праўду казаў Антон, што нельга верыць старым сказам аб возеры; вось гэты хлопец, якога ён лічыў згібшым у возеры, жывы й стаіць перад ім.

— У вас тут больш нікога няма?

— Не, я застаўся адзін,—адказаў дзед.

Хлопец неспадзявана для дзеда павярнуўся й прапаў у лесе. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся, але не адзін, а з трыма сябрамі, сярод якіх быў і Антон.

— Вось, дзеду, ізноў прыдзецца жыць разам,—сказаў вітаючыся Антон.—Цяпер ізноў стаў сьвет вузкі, і толькі гэты лес прыгортвае, хавае і шануе нас.

— Нічога, сьвет шырокі й будзе нашым, не гаруй, Антон,—сказаў адзін з хлопцаў.

Увайшлі ў хату. Хлопцы пазьнімалі з сябе вопраткі й мяшкі, Антон дастаў з шкуранае торбы кніжкі й палажыў іх на стале. «Каморнік», як думаў аб прышоўшым першым хлопцы дзед, зьняў сарочку й стаў аглядаць вышэй локця сваю руку, дзе былі яшчэ сьвежыя крывавыя падцёкі.

— Завяжы мне чым-небудзь руку,—папрасіў ён Антона.

— Колькі разоў казаў я табе ня лезьці на ражон: мала ад гэтага карысьці,—казаў яму Антон, абмотваючы яму кавалкам хустачкі пабітае месца.

— Ня лезь, ня лезь! Што з імі рабіць, з гэтымі бязглуздымі людзьмі?—узгарэўся «каморнік».

— Не, я нязгодзен з табою,—гаварыў Антон, кончыўшы перавязку.—Што ты зробіш гэтымі пажарамі ды нападкамі на сялян? Пажары зрабілі тое, што нават і разумнейшыя з бедных сялян сталі баяцца нас і ня веръць нам. Трэба навучаць іх, аб'яднаць, каб яны зразумелі, што працоўны чалавек усюды той самы бедны, на якім езьдзяць паны на вёсцы, гандляры й фабрыканты ў горадзе. І так ва ўсіх землях. І калі селянін зразумее гэта, то ён пойдзе сюды магілёўскі на заработкі, ведаючы, што тутэйшы паўстаў супроць прыгону. Вось у чым павінна быць наша праца.

— Некалі цяпер навучаць, трэба расшматаваць, навясьці усьціш на паноў і на тых, хто ім служыць,—адказаў «каморнік».

— Трэба супачыць крыху, а то зараз пачне цямнець,—сказаў адзін з хлапцоў.

Як толькі пачыў падаць змрок, «каморнік» пабудзіў сваіх сяброў, і яны ўсе тры выйшлі ў лес. Антон застаўся адзін з дзедам. Доўга за поўнач сядзелі яны: Антон чытаў кніжкі, запісваў што-то і, як пачынаў зморвацца, гаварыў дзеду, як працоўны народ можа сябе вызваліць ад цяжкае долі. У цёмнае вакно было відаць чырвонае неба... Сябры Антона вярнуліся да хаты толькі на зары.

Каля поўдня на другі дзень усе хлопцы сядзелі на прызьбе й вя-

лі гутарку, як ім наладзіць зносіны з горадам і іншымі сваімі гурткамі. Дзед Язэп, пашоўшы за дравамі ў лес, раптам выскачыў адтуль і чутным шопатам са страхам сказаў:

— Хлопчыкі, там едзе шмат людзей на конях і са стрэльбамі!

Усе кінуліся ў хату, схапілі свае мяшкі й адзежу й праз хвіліну прапалі за лесам. Дзед не пасьпеў яшчэ зачыніць дзьвярэй, як у хату ўляцеў Антон: ён забыўся сваіх кніжак. Пакуль ён зьбіраў іх, між лесам перад хатаю паказаліся жандары, якіх вёў Сымон Гуз.

Антон ледва выскачыў з хаты. Гуз, ішоўшы крокаў на дзесяць наперадзе жандараў, кінуўся на Антона, але праз момант паляцеў на зямлю.

— Лавеце, лавеце яго, гэта ён!—закрычаў ён жандарам, ізноў устаючы на ногі.

Жандары пагналіся на конях за Антонам, які ўжо ўцякаў у лес. Пачалася шалёная пагоня. Антон, прыгнуўшыся, бег уперад, а за ім ззаду крокаў на пятнаццаць ляцелі жандары. Гушчарняк не дазваляў ім разагнаць коняў, веткі чуць ня зьбівалі іх, у некаторых мясцох ногі коняў грузьлі ў балоце. Дзед, сам ня ведаючы для чаго, бег за жандарамі.

— Антон, Антон! Бяжы на Кромань!—крычаў ён.

Антон ужо некалькі разоў, зачапіўшыся за корч ці карэньне, падаў, але хутка ўставаў і ўцякаў далей. Жандары, бачачы, што ім на конях не дагнаць Антона, зьлезшы і аддаўшы сваіх коняў двум, пусьціліся за ім бежкам. Мэсца пайшло вышэй, праз прагальле паказалася Кромань.

— Божа, зратуй яго! дапамажы яму!—маліўся дзед, ледва пасьпяваючы за жандарамі.

Вось ужо й бераг.

— Антон! улева бяры! Кромань цябе схавае!

Але сіла пакідала Антона. Жандары, толькі некалькі хвілін бегшыя, ня былі зморany, і праз гэта ўсё бліжэй і бліжэй былі к Антону...

— Чаго мы за ім ляцімо?—сказаў адзін з жандараў.— Варт з-за такое брыды сабе ногі ламаць!

— І то праўда, давай стрэльбу!—адказаў другі.

— Не страляйце, браточкі! не страляйце: ён ні ў чым не вінаваты,—кінуўся да іх дзед.

— Прэч ты, старая шэльма!—піхнуў яго жандар.

Раздаўся адзін стрэл, зразу за ім другі. Дзед бачыў, як Антон хістануўся, узмахнуў рукамі й віхлява апусьціўся на зямлю. У нагах у дзеда зрабілася раптам страшэнная млявасьць, у вачох пайшлі то жоўтыя, то зялёныя кругі, і ён сеў на зямлю... Ачнуўшыся, дзед ледва ўстаў. Кругом яго ўжо нікога ня было, і ў лесе было ціха, як заўсёды, толькі хвоіны што-то боязна шапталі ўверсе. Дзед падыйшоў ку берагу. Антон ляжаў у трох кроках ад яго, раскідаўшы рукі, і

шклянымa вачыма глядзеў у неба. З левага боку пякла кроў і чырвонаю стужкаю паўзла па пяску. Дзед стаў на калені і з жальбою глядзеў у белы, як крэйда, твар Антона. Раптам адна рука забітага рванулася, ён маргнуў вачыма й крануў голаву.

— Хто гэта? Ты, дзеду?

— Я, я сынок!— устрапыхнуўшыся ад радасьці, сказаў дзед.

— Помніш, ты тут мне казаў казку аб Кромані... Помніш? Вось табе новая казка... Ох, дзеду!..

Левая рука Антона ўчапілася за бок і заскрэбла пясок.

— Шмат казак на сьвеце...

Усё цела Антона затраслося, выцягнулася. Ён глыбока ўздыхнуў і заплюшчыў вочы—назаўсёды.

У дзеда хлынулі сьлёзы.

— Ашукаў ты мяне, Божа! Не памагаеш ты беднаму! Паможам мы толькі самі сабе, казаў ты, Антоне! І памёр за другіх.

Ашукала дзеда й возера, не захавала Антона ад ворагаў. Цьмянай плямай глядзела яно й ня было ўжо ў ім нічога таемнага. На сьвеце залажыліся новыя, іншыя казкі, казкі аб Антону.

Будзе дзед гэтую жывую казку складаць для маладога пакаленьня.

**Неманскі.**

24/XI—22.
Менск.

# Заняпад усясьветнай гаспадаркі і усясьветны фашызм.

«Калі коратка, хай нават па завучанаму, выясьніць тое, што заўважваецца ў розных краінах Эўропы, то зусім правідлова ўжыць слова «рэакцыя»—гэтак паміж іншым выбрахнула на сваіх старонках газэта правых кадэтаў «Руль».

Праўда, далей «Руль» хоча дадаць гэтаму слову сваё кадэцкае тлумачэньне. Ён як мага хоча давесьці, што гэта рэакцыя ёсьць вынікі дзейнасьці ня ўрадаў, а народу (якога народу—гэта зразумела). Нас ня цікавяць тлумачэньні кадэтаў. Нас куды больш цікавіць той перапалох, які ахоплівае некаторую частку буржуазеі, калі яна аглядае вялікія посьпехі ўсясьветнай рэакцыі. «Руль» жыве, зразумела, толькі адбіткамі настрояў, ён толькі ловіць якіясь-ці гукі ў паветры нямецкай біржы, ён прыслухоўваецца да голасу роспачы быўшага італьлянскага прэм'ера Ніцьці і ўсіх яго прыхільнікаў.

Але й выступленьне «Рулю» і цэлага шэрагу іншых газэт і часопісаў вельмі паказны.

Так праўда, Эўропа перажывае цяпер гостры наступ рэакцыі. З усёй моцы завіхаецца буржуазея, каб вярнуць сабе ўсе тыя ўступкі, якія яна зрабіла рабочым у часе дэмабілізацыі прамысловасьці.

Адбываецца ўтрапёнае скасаваньне выдатных адзнакаў буржуйнай дэмакратыі, скідваецца заслона, якая прыкрывала капіталістычную сутнасьць дзяржавы. Дзяржава й кляса ня толькі фактычна, але й фармальна пачынае выступаць зьяднана.

Але гэтая шпаркасьць, з якой узмацняецца ўсясьветная рэакцыя, гэты размах разьвіцьця верхаводзтва буржуазеі пачынае палохаць найбольш хітрэйшыя колы ўсясьветнай буржуазеі.

Яны пачынаюць сабе ставіць пытаньне—ці ня вельмі рана? Яны ня пэўны—ці прышоў ужо момант адкрытай бойкі з рабочай клясай. Ім здаецца, што яшчэ доўгі час можна пратрымаць сваю ўладу, апіраючыся на фармальную дэмакратыю. Яны ўсяляк хочуць давесьці, што шырокія народныя гушчы яшчэ ня страцілі веру ў дэмакратычныя дрындушкі, што яшчэ можна іх абмануць і прымусіць служыць буржуазеі й без фашысцкага тэррору, звычайнымі спосабамі барацьбы.

І тое, што «Руль» прымушаны гаварыць аб усясьветнай рэакцыі в некаторай апаскэй, і тое, што Ніцьці прымушан ужываць тэрмін «вар'яцтва», калі ён гаворыць аб палітыцы Антанты, досыць яскрава гавораць аб тым заняпадзе, які перажывае ўсясьветны капіталізм.

Для нас, рэвалюцыйных марксістаў, камуністаў, зразумела: і Ніцьці і ўсе яго аднадумцы маюць зусім невялікі ўплыў, але калі й яны пачынаюць гаварыць аб распадзе Эўропы,—дык гэта ўжо пачатак хваробы.

Ніцьці—не абы-які газэтны пісака: ён адзін з быўшых кіраўнікоў Эўропы. Гэта яго рукамі быў створаны Вэрсальскі мір. У значнай долі пад яго кіраўніцтвам Італія прымала ўдзел ва ўсясьветнай вайне.

І вось цяпер ён б'е адбой. Ён лепш другіх бачыць надыходзячы заняпад і кліча к чамусь-ці, у роспачы ломіць рукі, ня бачачы выйсьця з становішча.

Вось яго словы: «Аўстрыя—гэта тыпічнае пацьвярджэньне вяр'яцтва Антанты».

Нямеччына трымаецца дзякуючы толькі сваёй нізкай каштоўнасьці грошай. Францыя вымагае, каб Нямеччына абавязкова ўмацавала кошт свае маркі. А ўзмацненьне маркі немінуча павінна весьці не да аслабленьня, а к узмацненьню заняпаду ў Нямеччыне.

Вось, напр., Чэхаславаччына—яна мае добрую каштоўнасьць грошай у параўнаньні з іншымі сярэдня-эўрапэйскімі дзяржавамі, але «ўсякае палепшаньне курсу чэскай кроны становішча гандлю й прамысловасьці толькі пагоршыць».

З аднаго боку мы маем становішчы, калі Англія й Францыя, дзякуючы высокай каштоўнасьці сваіх грошай, ня ў моцы йці на перабой з Нямеччынай. Яны вымагаюць ад Нямеччыны цэлага шэрагу спосабаў, якія павінны прывесьці к ўзмацненьню нямецкай маркі і гэтым аслабіць канкурэнцыю.

А з другога боку ўзмацненьне каштоўнасьці грошай у дзяржавах сярэдняй Эўропы азначае не палепшаньне, а фактычнае пагоршаньне іх гаспадарчага становішча, бо магчымасьць перабою значна зьмяншаецца.

Ніцьці, гэты ідэолёг інтарэсаў капіталістычнай клясы, наогул знаходзіць толькі адно тлумачэньне: ваенныя сплаты, Вэрсальскі мір, дзяленьне капіталістычнай Эўропы на пераможцаў і пераможаных.

Глыбей ён ня хоча й ня можа ўглядацца. Яго думкі аб гэтым таксама нікчэмны—далей адмены Вэрсальскага дагавору ён ня йдзе, ды й ня можа йсьці.

Дзе-ж сапраўды прычыны ўсясьветнага заняпаду?

Адно бясспрэчна—яны выкліканы глаўным чынам усясьветнай вайной і значным разьмеркаваньнем вырабачных цэнтраў ва ўсясьветнай гаспадарцы.

За час вайны Эўропа перастала граць ролю дастаўчага цэнтру для калёніяў. Калёніі самі стварылі сваю прамысловасьць, узмацнілі яе й цяпер амаль што ня зусім выйшлі з эканамічнай падлегласьці Эўропе.

Вось некалькі прыкладаў: Бразілія, якая да вайны вывозіла ўвесь свой хлопак заграніцу, у сучасны момант выробляе $^3/_4$ патрэбных ёй тканінаў.

У Кітаі фактычна зусім выціснуты чужаземныя тэкстыльныя вырабы.

Англія, за час з 1913 па 1922 год зьменшыла ўвоз хлопку-сырцу на 33%, рэшта эўрапэйскіх дзяржаваў—на 32%, а Японія павялічыла на 50%. Рэшта неэўрапэйскіх дзяржаваў, апрача Амэрыкі, на 94,6%.

Дзеля Эўропы ўсё больш зачыняюцца замежныя рынкі, а з другога боку—становішча самой Эўропы ўсё больш павялічвае ўсясьветны заняпад. Рабочыя Эўрпы ня маюць магчымасьці купляць усіх патрэбных ім рэчаў. Зьменшылася гэтая магчымасьць у гарадзкога мяшчанства і вялікай часткі сялянства.

Ніцьці лічыць, што з 470 міліёнаў насельнасьці Эўропы—300 міліёнаў ня могуць купляць усяго патрэбнага. Гэта адбіваецца ня толькі на становішчы прамысловасьці дзяржаў пераможаных, але й пераможцаў.

Ні Нямеччына, ні Аўстрыя, ні Баўгарыя, ні Расея ня могуць увазіць патрэбныя ім тавары.

Вываз ангельскіх тавараў у Нямеччыну зьменшыўся з 1913 да 1922 г. з 8 проц. да 1,6—2,5 проц.

Амэрыка—з аднаго боку націскае на Эўропу, вымагаючы выплаты ваенных даўгоў, а з другога—фактычна адымае ад іх магчымасьць рабіць гэту выплату, зачыняючы граніцы для чужаземных тавараў назначэньнем новага мытнага тарыфу.

Гаспадарчая злучнасьць, якая існавала да вайны, усё больш разрываецца. Становішча ўсясьветнай гаспадаркі ўсё больш горшыцца; гэтае пагоршаньне ня йдзе, зразумела, адным размахам.

Разьвіцьцё ўсясьветнай гаспадаркі йдзе выхіляста. Бываюць тэрміны, калі надыходзіць палепшаньне дзеля таго, каб у чарговы тэрмін спусьціцца яшчэ ніжэй.

Зараз гаспадарка Эўропы пэражывае, як быццам, некаторае ажыўленьне: беспрацоўе, як быццам, зьмяншаецца, але найбольш хітрыя з шэрагаў буржуазеі бачаць, што гэтае ажыўленьне часовае, што гэта толькі прыпынак у заняпадзе, а не зьністажэньне апошняга.

Голасам роспачы Ніцьці не перастае падкрэсьліваць усясьветнай буржуазеі: «Апаска ўсеагульнага распаду надбліжаецца з такой шпаркасьцю, што нават тыя, хто яшчэ ўчора цьвёрда верыў (у нармальнасьць становішча), зараз ахопленыя сполахам.

«Аўстрыя, Нямеччына, Італія й Францыя ня ёсьць розныя па шляхах свайго разьвіцця. Яны толькі розныя квадры аднаго й таго-ж шляху разьвіцьця. Усе яны ў розныя тэрміны адзін і той-жа шлях пройдуць» (Berliner Tageblat)—гэткі прыгавор, які робіць адзін з лепшых розумаў усясьветнай буржуазеі.

Дзесь-ці ў таемніках яго душы яшчэ не згасае надзея—што можа йшчэ палепшыцца. Дзеля гэтага ён не перастае крычаць—адмяніце ваенныя сплаты.

Каб ён меў магчымасьць глыбэй удумацца, ён мусіў бы сказаць—і ваенныя сплаты не памогуць: яны могуць толькі часова спыніць заняпад, аслабіць яго, але ня зьністожыць.

Вось у гэтых умовах усё растучага распаду ўсясьветнай гаспадаркі з страшэннай сілай павялічваецца наступ капіталу. Усясьветная буржуазея прабуе выйсьці з заняпаду зьмяншэньнем заработкаў, адменай 8 гадзіннага працоўнага дню, зьністажэньнем усіх правоў, дадзеных рабочай клясе.

Гэта ня зусім удаецца ў варунках хоць бы няўзрочнага існаваньня дэмакратычных забавак. Парлямант з усёй яго хітрай мэханікай не заўсёды дае магчымасьць правесьці патрэбныя рэформы, не заўсёды ў ім можна выступіць адкрыта, не заўсёды ўдаецца, дзякуючы канкурэнцыі розных капіталістычных колаў, сабраць патрэбную большасьць.

Да таго-ж буржуазная дэмакратыя, паколькі яна яшчэ ёсьць, усё-ж прымушана даваць і азначаныя правы рабочай клясе і яе арганізацыям.

Наступ капіталу, які ўсё пашыраецца і ўзмацняе свае пазыцыі, ня можа мірыцца з дваякасьцю ўлады, хоць бы й фармальнаю—я капіталіст, я ўладар, я гаспадар усяму. Мая, і толькі мая воля павінна выпаўняцца ўсімі, бяз розьніцы, якое-б становішча яны не займалі сярод грамадзянства—такое становішча патрэбна цяпер усясьветнаму капіталу.

Пакуль буржуазныя законы, якія абараняюцца паліцыяй, судамі й вастрогамі, маглі-б трымаць у аброці рабочых і сялян, буржуазея была б першай абаронцай «легальнасьці». Але вайна адучыла «народ» баяцца. З другога боку яна прывучыла той жа народ да зброі, гэта значыць, к разуменьню сваёй сілы. Закон перастаў быць страшнай літарай. Грамада навучыла-

ся разьбіваць вастрогі й абстрэльваць паліцыю. «Легальнасьць» стала путамі самой буржуазеі. (К. I. № 23).

Буржуазеі становіцца цесна ў рамках легальнае дзяржавы. Яна ад гэтае дзяржавы пакуль і не адмаўляецца. Яна яе прым е поўнасьцю. Буржуазны друк усё яшчэ не перастае крычаць аб непарушнасьці законаў.

Але поруч з гэтым яна пачынае ствараць сваю, чыста клясавую армію. Армія ўрадавая яе не здавальняе: яна — народная па свайму складу, і ў хвіліны апаскі можа перайсьці зноў на бок народу.

Трэба мець сваю чыста клясавую армію, армію, якая-б была злучана аднэй думкай, якая сьвядома йшла-б абараняць інтарэсы ўсясьветнай буржуазеі, якая ні на хвіліну не задумывалася-б, калі патрэбна будзе раскідаць і рабочыя арганізацыі, і расстраляць рэвалюцыйных рабочых.

Гэтая армія й ствараецца. У розных краінах па рознаму. У Італіі—фашысты, у Нямеччыне—«оргеш» і г. д.

Але гэтая армія, як клясавая, ня можа быць вельмі моцнай. Усясьветная буржуазея ня можа высунуць з сваіх шэрагаў дастатковы лік абаронцаў, яна сваіх салдатаў павінна набіраць з шэрагаў зьбяднеўшай дробнай буржуазеі і з шэрагаў люмпен-пролетарыяту, з шэрагаў гарадзкога мяшчанства і зьбяднеўшага сялянства.

Гэтая разнаколернасьць арміі й накладвае сваю пячатку на саму арганізацыю, на яе мэты. У азначаныя моманты гэты склад аб'ектыўна павінен прывесьці гэтую армію і супроць тэй ці іншай групы буржуазеі.

Ні ў аднэй краіне арганізацыя чыста клясавых сілаў буржуазеі не зайшла гэтак далёка, як у Італіі. Там фашысты зараз на чале ўлады.

Што выяўляюць з сябе зараз фашысты? Фашызм супроць дэмакратыі, ён за дыктатуру, але чыю?

Муссаліні гаворыць аб дыктатуры моцных людзей, якія маюць моцную волю праводзіць азначаную праграму, а ня толькі займацца апрацоўкай праграм.

Праграма ёсьць—гэта праграма буйнага капіталу. Яго й трэба абараняць. Муссаліні й прабуе гэта рабіць.

Ці ўдасца яму гэта?—вось пытаньне, якое стаіць ня толькі перад намі, камуністамі, але й перад буржуазеяй. Муссаліні навёў жах на парлямант прымусіў «прадстаўнікаў» народу аддаць яму ўсю ўладу, прызнаць яго адзіным верхаводам, ня гледзячы на кпінкі, якімі ён надзяляў буржуйных сяброў парляманту.

Н , а далей? Фашысцкі-ж рух адбываўся ня дзеля абароны буржуазеі. Муссаліні сабраў пад свае сьцягі соткі тысячаў сялян і паўпралетарыяў не затым, што ён хацеў абараняць міланскіх мэталапрамыслоўцаў ад наступу рабочых?

За Муссаліні йшлі затым, што ён прыдушыўшы сацыялістаў, абяцаў весьці іх справу. Ён абяцаў сялянам зямлю, беспрацоўным працу, зьбяднеўшай інтэлігэнцыі—заробак.

А цяпер? Цяпер ён ня можа ажыцьцёвіць ніводнай абяцанкі. Становішча мяшчанскай інтэлігэнцыі ня толькі не палепшылася, а павінна яшчэ больш пагоршыцца. Ужо цяпер адбываецца звужэньне дзяржаўнай машыны: цэлы шэраг прадпрыемстваў, якія не даюць прыбытку, з рук дзяржавы пераходзяць у рукі прыватных прадпрыемцаў.

А становішча сярэдняцкага й батрацкага сялянства? На працягу фашысцкага наступу можна было дазволіць сабе й парабіваць буйнага памешчыка й прымусіць кулакоў пайсьці на ўступкі рабочым,—усё гэта можна было рабіць да таго часу, пакуль фашысты ня сталі на чале ўлады.

Цяпер гэтага рабіць ужо нельга. Цяпер патрэбен парадак. Фашыста дазволена вярнуцца дамоў. Цяпер у руках Муссаліні дзяржаўная машына. Яму ўжо не патрэбна вялікае наёмнае войска. Лік беспрацоўных не зьмяншаецца, а павялічваецца.

Абяцаны рай ня прыходзіць, ды й прыйсьці ня можа.

Фашызм мог скасаваць буржуйную дэмакратыю. Ён вельмі лёгка мог узяць уладу з рук няўпэненай і нездольнай, з погляду буржуазеі, урадавай хэўры, але тут зьяўляецца вялікае пытаньне—ці зможа гэта хэўра саўладаць сама з сабою.

Усясьветны буржуйны друк спаткаў перамогу фашызму, як вястуна новага жыцьця. Буржуйныя пісакі чуць не ашалелі ад радасьці—вось прыклад для ўсіх нас, вось па якому шляху трэба йсьці: толькі адзін ён можа выратаваць усясьветную буржуазею.

Не пасьпела яшчэ высахнуць чарніла, як пачынаюць ужо чуцца новыя ноткі.

Фашызм—гэта той жа бальшавізм, толькі з другога канца. Муссаліні вельмі горда пацьвярджае, што рэвалюцыя мае свае правы. Фашызм ідзе да сваёй мэты, ні на хвіліну не задумываючыся—ці дэмакратычна гэта, ці не, справядліва, ці не.

Тое, чым дзесяткі гадоў абманвалі рабочых, цяпер самой буржуазеяй зьнішчаецца. Прыкладам фашыстаў буржуазея гаворыць усім уціснутым—толькі моц можа разьвязаць усе пытаньні, перамагае толькі той, хто дужэйшы, хто можа лепш арганізавацца, хто ўмее ўзброіцца.

Фашысты вучаць ня толькі буйную буржуазею, яны вучаць і дробную, яны лепш усіх праграм вучаць і несьвядомых рабочых: ніякія пытаньні не разьвязваюцца галасаваньнямі, ніякіх пастаноў ня выносіцца ў парляментах—усё разьвязваецца ўзброеным кулаком.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Сама фашысцкая армія, самыя гушчы яе, ідучы ў бойку, меркавалі зусім іншае—яны шукалі якойсьці звышклясавай справядлівасьці, яны думалі, што Муссаліні, стаўшы на чале ўлады, выпаўніць тое, аб чым увесь час сацыялісты толькі гаварылі.

На іх долю выпадзе вялікая няпрыемнасьць. І гэта няпрыемнасьць павінна будзе раней ці пазьней прывесьці да выступленьня супроць Муссаліні яго-ж уласных абаронцаў.

Шырокія гушчы перастаюць верыць у сьвятасьць прыватнай уласнасьці, яны перастаюць верыць у непарушнасьць законаў. Бо «калі фашысты абвяшчаюць за межамі закону сацыялістаў і камуністаў, разбураючы іх установы, спальваючы дамы й маемасьць, забіваючы альбо праганяючы іх з родных мейсц—гэтым яны даюць людзкім гушчам прыкладную навуку дзяржаўнага права, пацьвярджаючы словы марксізму, што права, закон, справядлівасьць і інш. ня больш, як павярхоўная заслона моцы» (К. І. № 23).

Гэта разумеюць некаторыя і з шэрагаў буржуазеі. Пасьля некалькіх тыдняў запою пачынаюць рабіцца цьвярозымі. Пачынаюць ставіць пытаньне, ці заслугоўвае фашызм спачуваньня?—і прыходзяць к вырашэньню, што не, не заслугоўвае («Руль»).

І гэта пасьля таго, як тая-ж газэта, усяго тыдзень таму назад, захлёбвалася ад радасьці, казала аб сапраўды народнай рэвалюцыі, аб непарушнасьці фашысцкіх сьцягаў і інш.

Чаму-ж «Руль» гэтак хутка перамяніў фронт. Вось паслухайце: «арыгінальнасьць фашызму—у яго спосабах непасрэднага ўплыву, простай барацьбы, абыходзячы органы ўлады. Што гэта, як не анархізм? Ці-ж бальшавізм не з таго самага кораню? Нельга спачуваць шкодным спосабам, калі яны служаць прыемнай думцы.

Але чаму? Вось адказ: «Якая дарука, што ён не пераскочыць праз мэту й ня стане потым ладам гвалту бяз прыкрас».

«Хай Муссаліні крышталына чэсны сумленны патрыёта, але-ж пасьля яго прыдзе менш крышталыны чалавек, а можа нават бальшавік, таксама з 500.000 верных таварышаў».

«Грунт магутнасьці сучасных нацыяў—эканоміка. Як разумеюць яе фашысты? Ці не яны ў мінулым годзе нападалі на гарадзкія крамы й вымагалі, каб гандляры адразу зьмяншалі кошты ў два разы, што выклікала зачыненьне крам»,—вось у чым сутнасьць апаскі кадэтаў і ўсіх, хто з імі.

Калі можна захапіць уладу, дзеля таго, каб скінуць нямоцную й няздольную кіраваць краінай хэўру, дык чаму-ж не папрабаваць яшчэ раз па-старому разьвязаць пытаньні сацыяльнага быту?

Ну, дык тагды ўжо правідловы камуністы, якімі ўвесь час палохаюць.

Вось якія супярэчны тояцца ў сярэдзіне Італьянскага фашызму. Гэткія ж нямінуючыя пярэчаньні гэтага руху ва ўсім сьвеце.

Але было-б найвялікшай абмылкай думаць, што фашызм няшкодны для рэвалюцыйнага руху. Усё пытаньне ў тым, хто хутчэй і раней пасьпее з'арганізавацца—рабочы ці буржуй, хто хутчэй пасьпее ўзброіцца.

Але на адным ня прыходзіцца шмат задумвацца: чым шпарчэй з'арганізуюцца фашысты, тым хутчэй шырокія працоўныя гушчы разьвітаюцца з усясьветнай сацыял-дэмакратыяй, з надзеямі на мірнае разьвязаньне сацыяльных непаразуменьняў.

Гісторыя ўсё бліжэй і бліжэй падводзіць нас да апошняй бойкі паміж працай і капіталам. У гэтай бойцы абудвы бакі імкнуцца лепш з'арганізавацца, да зубоў узброіцца

Але ў становішчы абедзьвюх арміяў розьніца вельмі вялікая. Рабочая кляса стварае сваю чыста-рабочую армію, буржуазея-ж прымушана ствараць армію з чужых ім станаў, якія ў кожны момант могуць зрадзіць, могуць перайсьці да ворагаў.

Мы, зразумела, не пераацэньваем гэтага моманту. Але тое, што ён гістарычна магчым, нават немінуч—ня можа быць ніякае гутаркі.

Усясьветны фашызм ствараецца дзеля таго, каб абараніць усясьветны капітал, каб забясьпечыць яго ад нападку рабочае клясы. Але фактам свайго стварэньня ўсясьветны фашызм фактычна ўжо капае глыбокую яму ўсясьветнаму капіталу.

**В. Нодэль.**

# 1 студзеня--рэвалюцыйна-гістарычнае сьвята Савецкай Беларусі.

«Теперь роль государства чрезвычайно важна как с точки зрения пролетариата, так и с точки зрения буржуазии».
(З прамовы т. Бухарына на IV конгрэсе Комінтэрна).

У гістарычным жыцьці кожнае краіны найважнейшую вагу мае стан працоўнікаў. У ва ўсе вякі разьвіцьця дзяржаўнага жыцьця любое нацыі працоўныя гушчы выносілі на сабе ўвесь цяжар аднаўленьня гаспадарчых здабыткаў яе і яе эканамічнага дабрабыту. Яны былі асяродкам поступу ва

усіх галінах грамадзянскага разьвіцьця. Ня гледзячы на гэта працоўныя станы не маглі карыстацца ня толькі вытворчасьцю сваіх рук, плёнам свае працы, а нават ня мелі роўных з багатшымі станамі грамадзянскіх правоў і правоў асобы. Праз стараньне, натугі і працу перш плебеяў, далей рабоў, потым падмастэр'яў і батракоў, а пасьля фабрычных рабочых і розных другіх катэгор'яў пралетарыяту жылі й крулява і розныя паны - багацеі, князі, вяльможы, бюрократы. На сьпінах працоўнікаў яны выхайвалі культуру, якую паднявальвалі сабе на службу і пакіроўвалі працоўнікам на шкоду. Дзякуючы гэтаму ўсё гістарычнае разьвіцьцё дзяржаўнага жыцьця любой краіны зьвязваецца гісторыкамі—выхаванцамі багатых станаў, з працаю й чыннасьцю гэтых станаў. З надворнага выгляду яно так і было—бо ў палітычным жыцьці працоўныя гушчы ня прымалі ніякага ўдзелу. Вось таму, дзеля іх мінулае жыцьцё складае адно гістарычнае апавяданьне—гэта апавяданьне аб бяспраўным, няволным жыцьці і бесканечных муках і зьдзеках ад кіруючых абірацельскіх станаў.

Горай, чымся для рабочых і сялян другіх нацыяў, складалася гістарычнае жыцьцё для рабочых і сялян Беларусі. Эканамічна й культурна адсталая, пры гэтым разложаная між двума магутнымі народамі, Беларусь на працягу многіх вякоў свайго быцьця зьяўлялася месцам змаганьня між яе суседзямі за розныя сваркі й больш за сваркі аб ёй самой. Так што, паколькі мажліва судзіць аб тэй ці іншай дзяржаўнай форме, та ў Беларусі з пачатку сярэдніх сугодзьдзяў да апошняга часу наскокамі заводзілася драпежная ўлада і яўпэўненых у сябе і ў сваю сілу захопнікаў. Гэта было горай за самы люты фэодалізм, які як-ні-як, калі на адным грунце разьвіваецца,—то мае тыя ці іншыя ўвагі да аховы свае формы і ўсяго, што яе падтрымоўвае надалей. Акупаваная краіна аброчана на поўнае зьнішчэньне. Беларусь мела долю вечна акупаванай краіны—чаму беларускім працоўным грамадам жылося неўмагату цяжка й трудна. Тут ужо нельга было й думаць аб тым ці іншым удзеле іх у палітычным жыцьці свайго краю. Бо з-за гэтых прычын свайго краю ў беларускіх працоўнікаў ня было, а другое ня было ў ім і ніякага сталага палітычнага жыцьця. Часовыя гаспадары Беларусі і яе рабочых ды сялян былі к гэтаму з чужою моваю, норавам і ўкладам. Вось чаму замест свае гісторыі беларускі працоўны народ, калі аглядаецца назад, бачыць адну цёмную пляму сваіх мук. Тымчасам гэтымі мукамі, трымаючы дармаедаў розных краін і нацыяў, ён няўхільна, упарта трымаўся на абмацаным грунце краю й нявбачна пракладаў сьцяжыну да таго месца, з якога-б можна было адчыніць першую старонку свае гісторыі й гісторыі свае зямлі. Гэта месца наблізіла само жыцьцё. У нясупынным разьвіцьці эканамічных абставінаў радзілася Вялікая Расейская Акцябрская Рэвалюцыя. Яе ідэя узышоўшая на глебе папярэдняй, капіталістычнай кватэры разьвіцьця, мела ў сабе найшырэйшыя заданьні вызваленьня ад усіх формаў рабства. Беларускія працаўнік і селянін, адначасна са сваімі братамі—расейскімі працаўнікамі й сялянамі, дастал поўную волю, як палітычную, гэтак і эканамічную. Але, болей таго, Акцябрская Рэвалюцыя для беларускіх працоўных гушчаў падаравала яшчэ й іншыя два падарункі—гэта нацыянальнае аслабаненьне і дзяржаўнае жыцьцё.

Тое й другое дасталіся для беларускіх працоўнікаў праз два гады пасьля выбуху Акцябрскай Рэвалюцыі—гэта першага студзеня 1919 году; часовы беларускі ўрад у гэты дзень, волею беларускага працоўнага народу, волею рабочых, сялян, ды чырвонаармейцаў створаны для аховы вялікіх заваёваў сацыяльнае рэвалюцыі на Беларусі, абвясьціў Беларусь Савецкай незалежнай Рэспублікай.

І Беларусь упяршыню на працягу доўгавяковае гісторыі стала дзяр-

жаўнаю адзінкаю, роўнай з усімі сацыялістычнымі краінамі дзяржаваю. Беларускія-ж рабочы й селянін з неаформленага, з нявыясьвенага блудзячага парабка стаў гаспадаром свае краіны. З тутэйшага ў панскім прыгоне, і з тутэйшага ў цара ў няволі ён стаў самавітаю асобаю, рэвалюцыйным грамадзянінам. І стаўшы гаспадаром свае сацыялістычнае дзяржавь-рэспублікі, беларускі працоўнік на ўвесь сьвет абвясьціў гэта, як сваё заваяваньне. Ён абвясьціў перад працоўнікамі ўсіх краін і ўсіх народаў, што знайшоў свае правы, сваё імя, знайшоў іх праз вялікае паўстаньне. Няхай ведаюць усе заняволеныя ў прыгоне капіталу! Тым жа, хто бачыў у беларускіх працоўных грамадах сродак для нажывы, сілу для эксплёатацыі, было дадзена знаць, *што гэткім ён быў да 1 студзеня 1919 году, а з першага—ўжо стаў поўнапраўным вольным гаспадаром у адваёванай у ворагаў сваёй краіне.*

Гэткім чынам на эўрапэйскай карце Акцябрская рэвалюцыя вызначыла месца, дзе зьмясьцілася паўстаўшая з мук, як фэнікс з попелу, новая працоўная дзяржава. Праўда, гэта месца прышлося якраз на рубяжы, за які па розным прычынам не магла сягнуць хваля пралетарскага вызваленьня, і дзе пачыналіся пазыцыі старога, прыгоннага ладу. Але яна стала жыць, пішучы свае пэрыяды вогненымі літарамі.

Пагроза старога ладу абрынуцца на Савецкія Рэспублікі першым замахам зразу павісла над Беларускай маладой Рэспублікай. Праз яе ляжала дарога да братняй Савецкай Расеі. І не дапусьціць да захапленьня гэтай дарогі стала першым заданьнем беларускіх рабочых і сялян, як грамадзян свае Рэспублікі.

*Тады ўстаў к жыцьцю рэвалюцыйны патрыётызм.* Магутнаю хваляю выбіўся ён з патаёмных заховаў, ахапіў беларускія працоўныя грамады й заліў Беларусь з усходу на заход, і з поўдня на поўнач. Ён стаў зьлепліваючым цэмантам між Савецкай краінай і яе сынамі—рабочымі й сялянамі. Пачуцьцё рэвалюцыйнага патрыётызму, так сама было й тым сродкам, які ўмацаваў у іх рэвалюцыйную дзяржаўнасьць, адвагу й гатоўнасьць бараніць новую маладую Сацыялістычную Рэспубліку.

Праз кароткі час яе жыцьцё закрапілася яшчэ болей—на гэты раз *пралітаю за яе крывёю рабочых і сялян.* Вайна Савецкіх Рэспублік у 1920 г. з Польшчаю і з тымі белагвардзейцамі, якіх яна ахоўвала—то фактычна была першая вайна за ахову Беларусі.

Гэта вайна—першы гістарычны эпізод дзяржаўнага жыцьця беларускіх рабочых і сялян. Тая рашучасьць і пэнт, з якімі яна вялася, пакрыюцца незьвяданаю славаю і на многа вякоў уперад будзе выклікаць да сябе ўвагу й абіста-натхненную ўмільнасьць. Вайна з Польшчаю выкрыла ў беларускіх працоўных гушчах помеж з рэвалюцыйным жахам і доўгімі вякамі спаўшы інстынкт сацыялістычнай дзяржаўнасьці. Той кліч, які Савецкая ўлада падала ў часы наступу нямецкага імпэрыялізму на Пскоў, у першыя месяцы 1918 г.—кліч «Сацыялістычная радзіма ў небясьпецы!» другім водгульлем адбіўся ў гушчах беларускага працоўніка ў ліпені 1920 г. Разуменьне радзімы (ацечаства), як фартэцыя пралетарскае думкі, клясавым падсазнаньнем беларускіх працаўнікоў, адчулася з бяспрыкладнай у гісторыі людзей яскравасьцю. У бурлівым захапляючым паўстаньні, у выяўленьні рэвалюцыйнай партызаншчыны, перайшоўшых па ўсім абшары Беларусі—выглядалі моманты акцябрскіх эпізодаў у Пецярбурзе і ў Маскве, ды ў паўстаньні парыжаскіх камунараў у 1871 годзе, ахопленых з усіх бакоў нямецкім імпэрыялізмам і ўласнай францускай буржуазеяй.

На падставе гэтых фактараў зразу-ж пасьля замірэньня Савецкая Беларусь з пэўнасьцю прынялася пісаць другую старонку свае гісторыі—яе

рабочыя й сяляне аднаўленьнем гаспадарства й вытворчасьці сталі замацоўваць Сацыялістычную дзяржаву. Кіпучым размахам разгарнулася яна па ўсёй краіне, хутка лечачы атрыманыя па сваім нараджэньні глыбокія раны.

— Чатыры гады—то чатыры вялікіх перыяды ў беларускай сацыялістычнай дзяржаўнасьці. На працягу іх беларускія рабочыя й сяляне вытварылі поўны камплекс гістарычных этапаў. Гэтыя этапы ў сытуацыі эканамічных і сацыяльных парушэньняў варты стагодзьдзяў гісторыі дзяржаўнага разьвіцьця іншых народаў. Тым болей, што яны новы й нячуваны дагэтуль. Звычайна, усе краі перажывалі свой поступ доўгімі выхілястымі пуцінамі, пакуль яшчэ нявыпрастанымі—Беларусь жа зрабіла крок—з «панства неабходнасьці—у панства Свабоды», ды к гэтаму, у панства працоўнай Свабоды. Разьвіцьцё й замацаваньне беларускай сацыялістычнай дзяржаўнасьці з моманту яе нараджэньня 1 студзеня 1919 г. йшло помеж цесна зьвязаным з разьвіцьцём і замацаваньнем гэтых фактараў у суседніх братніх рэспубліках. Зруйнаваньне нацыянальнае няроўнасьці й супольнасьць клясавых заданьняў усіх працоўнікаў Савецкай Фэдэрацыі памагалі гэтаму й служылі кіруючаю роляю ў паглыбленьні беларускай самасьвядомасьці й палітычнай клясавага ды культурнага самавызначэньня беларускіх рабочых і сялян. Шырачэзныя размахі ў вытворчасьці беларускай культуры—то была яшчэ адна грунтоўная падстава для ўмацаваньня беларускай рэвалюцыйнай дзяржаўнасьці. Гэтая падмога падавалася працоўнікамі братніх рэспублік і мела вялікі ўплыў на далейшую цягу да болей цеснага зьяднаньня Савецкае Беларусі з Савецкай Расеяй, але захоўваючы свой самотны выгляд, вызначаны пры сваім нараджэньні. Вырысы яго досыць выразны, блізка падышлі да свайго ажыцьяўленьня і, пэўна, к чацьвёртай гадавіне гісторыі Савецкай Беларусі стануць фактамі. То будзе новы гістарычны этап. Які пасьледуе далей? Гэта залежыць ад ходу й накіраваньня разьвіцьця рэвалюцыі, а таксама і ад вымаганьняў інтарэсаў беларускіх працоўных грамадаў. У кожным разе, адно трэба памятаваць заўсёды, што Беларуская Сацыялістычная дзяржаўнасьць для сусьветнай рэвалюцыі—выдатны этап яе разьвіцьця, для беларускіх рабочых і сялян—гісторыя іх вызваленьня клясавага, палітычнага, нацыянальнага й культурнага. Яна найцясьней зьвязана з дзяржаўнасьцю ўсёй фэдэрацыі, а разам з пралетарскай рэвалюцыяй. 1 дзень, і час яе адчыненьня ёсьць найвялікшы дзень у іх жыцьці. Гэты дзень 1 студзеня ўжо запісаўся ў летапісу жыцьця і мусіць быць адмечаным штодня, на працягу бесканечнасьці яго наступнага бегу, урачыстым сьвяткаваньнем беларускіх рабочых і сялян. 1 студзеня—Сьвята Рэвалюцыі ў Беларусі.

**З. Ж.**

# Сучасная вялікая рэвалюцыя й нацыянальнае пытаньне.

Усе рэвалюцыі, каторыя адбыліся ў канцы 18-га сталецьця і ў 19-м сталецьці, мелі сьціслую сувязь з нацыянальным пытаньнем. І гэта вусім зразумелая рэч. Вышэйназваныя рэвалюцыі хацелі зруйнаваць фэадалізм і яго астаткі, а нацыянальнае прыгнячэньне й ёсьць адзін з астаткаў фэадалізму. «У ва ўсім сьвеце эпоха канчатковай пабеды капіталізму над фэадалізмам была зьвязана з нацыянальнымі рухамі». (Ленін, Збор. твораў, т. 19, ст. 98).

Царская «адзіная й непадзельная» Расія была так сама напоўнена фэадальнымі, панска-прыгоннымі астаткамі. Разам з тым тут, як можа нідзе, панавала нацыянальнае прыгнячэньне. Яна была «турмою народаў», каторыя нават на афіцыяльнай мове называліся не народамі, а «інародцамі». Каля 150 народнасьцяў перажывалі бязупынны зьдзек над іх самымі элемэнтарнымі чалавечымі правамі. Пачынаючы з арганізаваных царскай уладай пагромаў і «черты оседлости» і канчаючы спайваньнем казённаю гарэлкаю й забаронаю ужываць родную зразумелую мову—усё бачылі «інородцы». Зусім зразумела, што рэвалюцыя 1917 году павінна была вызваліць іх ня толькі палітычна й сацыяльна, але й нацыянальна. Такім спосабам нацыянальнае пытаньне адразу высунулася з пачаткам вялікай рускай рэвалюцыі. Прыгнечаны на працягу сталецьцяў «інародзец» увайшоў у рэвалюцыю з недавер'ем да рускага чалавека, як насільніка й прыгнятацеля.

І трэба вызначыць, што февральская рэвалюцыя не зьмяніла яго настрою. Уладу захапілі ў свае рукі кадэты, эсэры і меньшавікі, каторыя злажылі буржуазна-дэмакратычную коаліцыю. Гаварылі па нацыянальнаму пытаньню шмат «высокіх», громкіх словаў, а справа йшла пастарому. Вялікадзяржаўныя, імпэрыялістычныя тэндэнцыі ні на мінюту не пакідалі гэтага «многаглаголівага» ураду. За прыкладамі ня трэба далёка хадзіць. Возьмем хоць-бы факты з украінскіх падзеяў таго часу. Эсэр, вайсковы міністр Керанскі ў травені 1917 году не дазволіў склікаць украінскі вайсковы зьезд, лічачы яго «несвоевременным» у сувязі з вайсковымі абставінамі. Усеўкраінскі сялянскі зьезд павінен быў тэлеграмай пратэставаць проці гэтага нарушэньня закону аб свабодзе сабраньняў. Крыху раней той самы Керанскі «подтянул» Фінляндыю. Дэлегаты Беларускага Нацыянальнага Камітэту, складаўшыя свае пажаданьні на Часовы Ўрад, так сама вярнуліся ні з чым і г. д. У вадказ на імпэрыялізм Часовага Ўраду былі ўтвораны ўсялякія нацыянальныя арганізацыі буржуазна-вызваленчага напрамку. На чале гэтых нацыянальных палітычных арганізацыяў стала мясцовая інтэлігэнцыя; на імпэрыялізм і вялікадзяржаўныя мэты Часовага Ураду ў адказ зьявіліся папыткі пабудаваць незалежныя ад Расіі нацыянальныя буржуазна-дэмократычныя рэспублікі. Узрастала махровая кветка ўзаемнага нацыянальнага шовінізму, затушоўвалася і зацямрялася клясавае пытаньне. Расьлі з кожным днём непаразуменьні паміж цэнтральнай уладай і акраінамі. Было ўжо відна, што буржуазна-коаліцыйны ўрад Керанскага ня зможа разблытаць гэтага клубка.

Адначасна з гэтым ужо выяўлялася будучыня. Ужо вызначалася правільная лінія ў нацыянальным пытаньні. Гэтую лінію вяла партыя бальшавікоў, каторая ўжо гатовілася выступіць на абарону інтарэсаў пралетарыяту й бяднейшага сялянства ўсіх краёў і нацыянальнасьцяў. У 82-м нумэры «Праўды», у чэрвені, надрукован артыкул т. Леніна аб Украіне, дзе мы чытаем ніжэйпаданыя словы: «Мы не абаронцы дробных дзяржаваў. Мы за самую сьцісьлую сувязь рабочых усіх краёў проціў капіталістаў і «сваіх уласных» і ўсіх наогул краёў. Але якраз для таго,каб гэтая сувязь была дабравольнаю, рускі рабочы, не даваючы ні ў чым ні на мінюту ні рускай буржуазеі, ні украінскай, стаіць цяпер за права аддзяленьня ўкраінцаў, не навязваючы сілком ім сваёй дружбы, а заваёўваючы яе адносінамі да іх, як да роўных, як да хаўрусьнікаў і братоў у барацьбе за сацыялізм». З гэтых словаў ужо відна, што толькі клясава-пралетарскі падход да нацыянальнага пытаньня ўтворыць магчымасьць вельмі далейшую рэвалюцыйную барацьбу за сацыялізм. Тут адчуваецца ўся шырыня й глыбіня новай інтэрнацыянальна-клясавай пастаноўкі нацыянальнага пытаньня.

У кастрычніку 1917 году рабочыя й сяляне забралі ўладу ў свае рукі.

Зразумела, што цяпер павінна было вырашацца належным спосабам нацыянальнае пытаньне, запутанае, як мінулымі гадамі самаўладзтва, так і мінулымі месяцамі буржуазнай коаліцыйнай улады Керанскага. Толькі тыдзень прайшоў, як новая ўлада, Савет Народных Камісараў, выдае (2/XI) «Дэклярацыю правоў народаў Расіі». Тут усе народы заклікаюцца да ўзаемнага давер'я, на аснове якога толькі й «могуць быць спаяны рабочыя й сяляне народаў Расіі ў адну рэвалюцыйную сілу». У васнову сваёй дзейнасьці па пытаньню аб нацыянальнасьцях Расіі Савет Народных Камісараў кладзе ніжэйпаданыя начала: 1) Роўнасьць і суварэннасьць народаў Расіі. 2) Права народаў Расіі на вольнае самавызначэньне аж да аддзяленьня й пабудаваньня самастойнага гаспадарства. 3) Адмена ўсіх і ўсялякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаваньняў. 4) Вольны разьвітак нацыянальных меншасьцяў і этнаграфічных групаў, насяляючых тэрыторыю Расіі.»

Праходзіць толькі два месяцы, і перад намі новы акт па нацыянальнаму пытаньню. У студзеню 1918 году 3-і зьезд Саветаў, зацьвердзіўшы Дэклярацыю Савету Народных Камісараў, выдаў ад свайго імя «Дэклярацыю правоў працоўнага і эксплёатаванага народу». Другі пункт дэклярацыі гаворыць: «Савецкая Расійская Рэспубліка будуецца на аснове вольнага саюзу вольных нацыяў, як фэдэрацыя савецкіх нацыянальных рэспублікаў». Рабочыя й сяляне кожнай нацыі маюць поўнае права на сваіх паўнамоцных зьездах Саветаў выявіць «ці жадаюць яны і на якіх асновах прыняць удзел у Фэдэральным Урадзе і ў другіх савецкіх фэдэральных установах».

Першая рэвалюцыйная праца па нацыянальнаму пытаньню была завершана 5-м Усерасійскім зьездам Саветаў, каторы ў сваім пасяджэньні 10, VII, 1918 гаду прыняў і зацьвердзіў Констытуцыю (Аснаўны Закон) Р. С. Ф. С. Р.

Праз восем месяцаў, у сакавіку 1919 году, зьбіраецца 8-ы зьезд РКП., каторы ставіць сваёю мэтаю перагляд усёй сваёй праграмы. Пераглядаецца й нацыянальнае пытаньне. Прынятым зьездам 9-ы пункт праграмы вызначае сутнасьць палітыкі па нацыянальнаму пытаньню. Як і раней на чале справаў ставіцца заданьне аб'яднаць пралетарыяў і полупралетарыяў розных нацыянальнасьцяў для сумеснай рэвалюцыйнай, клясавай барацьбы. Для гэтай мэты ўсе нацыі абвяшчаюцца раўнапраўнымі і маюць поўнае права нават на палітычнае аддзяленьне і ўтварэньне сваёй асобнай дзяржавы. Як пераходную форму на шляху да дэмакратычнага цэнтралізму партыя выстаўляе фэдэрацыйнае аб'яднаньне ўсіх савецкіх гаспадарстваў. Прапануецца пралетарыяту тых нацыяў, каторыя дагэтуль былі прыгнятаючымі, асаблівая асьцярожнасьць і асаблівая ўвага да перажыткаў нацыянальнага пачуцьця ў працоўных масаў нацыяў дагэтуль прыгнячоных ці няпоўнапраўных.

Улетку 1920 году нацыянальным пытаньнем у шырокім усясьветным абхваце заняўся 2-і конгрэс Комінтэрна, які сабраўся ў Маскве. Ён вызначыў шырокасьць пытаньня, каторая датыкалася прынаймней $1^1/_4$ міліярда насельнікаў зямной кулі, каторые належалі да прыгнячоных нацыяў, а гэта складае 70% усіх жыхароў сьвету. Пытаньне было пастаўлена зусім канкрэтна, у гістарычных і эканамічных абставінах. Зьезд прыняў тэзісы па нацыянальнаму і колёніяльнаму пытаньням, у аснове каторых ляжалі пункты камуністычнай праграмы. Было вызначана, што сучаснасьць вымагае, каб дыктатура пралетарыяту з нацыянальнай (г. ё., істнуючай уваднэй старане) зрабілася інтэрнацыянальнай, вышаўшы з аднонацыянальнага складу насельнікаў зямлі, каб мець уплыў на ўсясьветную палітыку. Для гэтай мэты неабходна, каб Расійская Савецкая Рэспубліка группавала наўкола

сябе з аднаго боку ўсе савецкія рухі рабочых перадавых краінаў, а з другога боку ўсе нацыянальна-вызваленчаскія рухі прыгнечаных буржуазным імпэрыялізмам народнас цяў.

У сакавіку 1921-га году нацыянальнае пытаньне было пастаўлена на 10-м зьезьдзе Р. К. П. Зьезд ухваліў добра вядомыя нам тэзісы па нацыянальнаму пытаньню т. Сталіна. Гэтыя тэзісы згрупавалі ў сабе матар'ялы папярэдняй тэорэтычнай работы, а таксама падвялі ітогі той вялікай будаўнічай працы, якая была зроблена партыяй і савецкай уладай па нацыянальнаму пытаньню. Тэзісы X зьезду з аднаго боку завяршаюць тое, што было да іх, а з другога боку даюць нам напрамак для нашай далейшай працы. За апошнія гады партыя й Савецкая ўлада патрапілі шмат сілаў, каб наладзіць нацыянальнае пытаньне, разблутаць гэты вузел, заблытаны буржуазнымі тэорыямі і імпэрыялістычнай практыкай. Цяпер справа стаіць на цьвёрдых нагах.

Калі мы ўглядаемся ў пастаноўку нацыянальнага пытаньня нашай партыяй і Савецкай уладай, то ясна бачым, што гэта зусім ня тая пастаноўка, якой трымаюцца сацыялісты-згоднікі разам з буржуазнымі тэорэтыкамі й практыкамі. Гэта—рэвалюцыйна - пралетарская, ясная, дзейная, добра акрэсьленая пастаноўка, каторая выключае з аднаго боку імпэрыялістычныя, вялікадзяржаўныя й колёнізатарскія пажаданьні, а з другога боку дробнабуржуазны нацыяналізм. Толькі гэтая пастаноўка наносіць поўны ўдар зоолёгічнаму нацыянальнаму—шовінізму, узгадованаму папярэднімі сталецьцямі.

Стары няясны й расплыўчаты лёзунг аб праве нацыяў на самавызначэньне зьменен на зусім ясны лёзунг аб праве нацыяў і калёніяў на палітычнае аддзяленьне і на ўтварэньне свайго ўласнага самастойнага гаспадарства. Сацыялісты-згоднікі хаваліся й дагэтуль хаваюцца за няяснасьцю старога лёзунга аб самавызначэньні, укладваючы ў яго ці паняцьце аўтаноміі наогул, ці паняцьце толькі культурнай аўтаноміі для прыгнечанай нацыянальнасьці. Для прыгнятаючай вялікай дзяржавы яны астаўлялі такім спосабам усю поўнасьць палітычнай улады. Буржуазія, бачачы гэта, таксама ўхапілася за гэты зычны, але зусім неапасны для яе лёзунг. Што гэта так, магчыма пераканацца з праграмы такой партыі як партыя кадэ, каторая ў 11-м пункце сваёй праграмы так сама стаіць за культурнае самавызначэньне нацыяў. Пад лёзунгам самавызначэньня нацыяў, як вядома, адбывалася й сучасная нам імпэрыялістычная бойка, каторая мела сваёю мэтаю якраз парабашчэньне нацыяў, пашырэньне сваіх калёніяў. Лёзунг з прогрэсыўнага зрабіўся такім спосабам рэакцыйным лёзунгам і яго трэба было зьмяніць. Новы лёзунг аддзяленьня сваею яснасьцю ўтварыў глебу для давер'я, для сувязі працоўных мас аднэй нацыі з працоўнымі масамі другой нацыі. На гэтым лёзунгу ўтварылася наша зусім добраахвотная Савецкая Фэдэрацыя, і яна мае, дзякуючы яму, вялікую моц. Аб гэтым так піша т-шч Трайнін: «Савецкая Фэдэрацыя выходзіць цяпер на арэну міжнароднай палітыкі, апіраючыся ня столькі на свае гарматы й штыхі, каторых у яе бязумоўна менш, чым у яе ворагаў, сколькі на свае рэвалюцыйныя цьвярдыні і форпосты ў твары аўтаномных савецкіх рэспублікаў, дзе расстаўлены пуцяводныя маякі, каторыя прыцягаюць да сябе ўсе лепшыя й благародныя пажаданьні прыгнячоных нацыянальнасьцяў.» («Сов. власть и освобождение национальностей»). З другога боку лёзунг аддзяленьня павінен быў расшыфраваць і расшыфраваў усю фальш салодкіх словаў аб самавызначэньні, якімі вялікія буржуазныя дзяржавы хацелі прыцягнуць да сябе эксплёатуемыя й прыгнятаемыя нацыянальнасьці. Іх вочы ўжо глядзяць на маякі нашых савецкіх рэспублікаў, і моц імпэрыялізму слабее з кожным днём.

Такім спосабам нацыянальнае пытаньне ў комуністычным разуменьні й тлумачэньні было самым сьцісным способам зьвязана з каленіяльным пытаньнем. Гэта асабліва ясна, калі мы разглядаем тэзісы па нацыянальнаму пытаньню, прынятыя другім Кангрэсам Камінтэрна. Да камуністаў пытаньне аб самавызначэньні народаў адрывалася ад каленіяльнага пытаньня. І сацыялісты-згоднікі і нацыянал-лібэралы, і ўсякія лібэралы гаварылі аб самавызначэньні толькі тых нацыянальнасьцяў, на долю каторых выпала шчасьце ня быць нацыянальнасьцямі захопленых імпэрыялізмам каленіяў. Само сабою зразумела, што гэтым круг «самавызначаемых» нацыянальнасьцяў сьцісла замыкаўся й абмяжоўваўся. Гаварылі а правох так званых «цывілізаваных» нацыяў, да каторых далучаліся—чэхі, сэрбы, баўгары, палякі, фіны, ірляндцы, армяны і некаторыя другія. Зусім былі забыты соткі мілёнаў «нецывілізаваных» народнасьцяў Азіі, Афрыкі, Аўстраліі й Амэрыкі. Ім ня было месца сярод другіх народаў. Яны лічыліся тым гноем, на каторым толькі й можа расьці цывілізацыя культурных народаў, кіруючых жыцьцём. Такое разуменьне й тлумачэньне самавызначэньня народаў другім і двухспалавінным інтэрнацыяналамі было карысна й прыемна буржуазіі імпэрыялістычных гаспадарств. Уся палітыка Лігі Нацыяў пабудована на такім сацыял-згодніцкім тлумачэньні самавызначэньня. Яна групуе наўкола сябе так званыя вялікія дзяржавы, каб моцна трымаць у сваіх руках «нецывілізаваныя» народнасьці каленіяў. Гішпанія не магла згадзіцца на самавызначэньне Філіппінаў і Кубы; Францыя гарматамі «самавызначае» Мадагаскар, Інда-Кітай, Туніс, Марокко і г. д.; Англія «самавызначае» народнасьці Азіі і Афрыкі; роўнасьці народаў не прызнае нават і ў абшары «цывілізацыі», даволі ўзяць для прыкладу адносіны паміж Англіяй і Ірляндыяй.

Зусім ня так адносіцца да малых і адстаўшых у сваім разьвіцьці народаў Савецкая ўлада. Яна вызваляе іх і гэтым вызваленьнем прыцягвае іх у сваю Фэдэрацыю. Увесь усход, як далёкі, так і блізкі, глядзіць на Савецкую Фэдэрацыю, як на вызваліцельку й кіраўніцу. Самым малым, самым няпрыкметным і адстаўшым народам знайшлося месца ў нашай рэспубліцы молата й сярпа; яны ўвайшлі ў яе, не як эксплёатаваныя каленіі, а як асобныя рэспублікі. Яны маюць права на аддзяленьне, але гэтае права не аддзяліла іх ад працоўных масаў Расіі, а зьвязала моцнаю сувязьзю з імі. Не эксплёатацыю, а братнюю дапамогу нясе ім наша працоўная фэдэрацыя, і сувязь у гэтай фэдэрацыі паміж яе складнымі часьцінамі расьце з кожным днём. Усе за аднаго й адзін за ўсіх. Ідэі новага жыцьця йдуць у самыя глухія куткі, расьце вялікі сусьветны Камуністычны Інтэрнацыянал. «Раць наша ўзрастае, рады шчыльнейць, крэпне дух! Вы чуйце! Песьня ня сьціхае: «Паўстань, хто з голаду век пух!»

Нацыянальнае пытаньне ў новай, камуністычнай пастаноўцы стала на грунт барацьбы з капіталам і стаіць у сувязі з дыктатурай пралетарыяту. Без пралетарскай рэвалюцыі немагчыма вызваленьне прыгнечаных нацыяў і каленіяў, бо іх прыгнятае капіталізм і яго вышэйшая форма—імпэрыялізм. Тут немагчымы ніякія рэформы, як немагчымы яны і ў вызваленьні пралетарыяту. Немагчыма разьвязаць нацыянальнае пытаньне без пралетарскай рэвалюцыі, і ня можа пралетарская рэвалюцыя быць завершана без разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, бо «перамога пралетарыяту ня можа быць грунтоўнай без вызваленьня непоўнапраўных нацыяў і каленіяў ад уціску імпэрыялізму». (Сталин. К постановке национального вопроса). Такім спосабам барацьба клясавая стала ў сувязь з барацьбой народнасьцяў за іх вызваленьне. Гэтая сувязь разьбівае скрытыя пажаданьні буржуазіі дробных народнасьцяў аб утварэньні ядынага нацыянальнага фронту, аб незалежных дэмакратычных нацыянальных рэспубліках. Бо ня можа

быць адзінага фронту буржуазіі з пралетарыятам, калі йдзе барацьба прыгнечаных і эксплёатаваных з імпэрыялізмам. Наадварот, устаноўваецца адзіны фронт пралетарыяў і палупралетарыяў усіх старон і народаў дзеля барацьбы з капіталам. Такая пастаноўка нацыянальнага пытаньня выключае шовінізм і зоолёгічны нацыяналізм, зьвязваючы нацыянальнае пытаньне з інтэрнацыянальным рабочым рухам і інтэрнацыянальнай пралетарскай рэвалюцыяй. Працоўныя масы прыгнечаных народнасьцяў ідуць у бой за сваё вызваленьне не са сваёю падхварбованаю буржуазіяю, а са ўсімі працоўнымі рабочымі масамі ўсяго сьвету. Кляс яднае іх, і йдуць яны, размаўляючы на розных мовах, да інтэрнацыяналізму, бо працоўныя, эксплёатаваныя масы, на якой-бы мове яны не размаўлялі, якім-бы бытам яны ня жылі, якімі-бы звычаямі яны не карысталіся, маюць адны інтарэсы й складаюць адзіны магутны ўсусьветны кляс, перад моцаю каторага ня выстаіць буржуазія ўсіх народаў і краін.

Калі згоднікі-сацыялісты і буржуазія гавораць аб самавызначэньні нацыяў, то яны абмяжоўваюцца толькі дэкляарацыяй гэтага лёзунгу. Яны добра ведаюць, што ў някультурных, прыдушаных імпэрыялізмам народнасьцяў няма сілаў, каб скарыстаць дэклярованае ім права самавызначэньня. Як, напрыклад, можа ажыцьцявіць школу на роднай мове тая нацыя, каторая ня мае культурных сілаў і культурных сродкаў. Толькі дэкляраваць самавызначэньне—гэта значыць не зрабіць нічога. Ня так робіць пралетары. Ён ідзе на дапамогу працоўным масам адсталых, малакультурных і някультурных народнасьцяў, каб яны маглі дагнаць у сваім культурным разьвіцьці тых, хто за час іх ціску папярэдзіў іх. Ён ня толькі дэкляруе роўнапраўнасьць; ён праводзіць у жыцьцё цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў, каб вызваленыя нацыянальнасьці маглі падняцца да культурнага й гаспадарчага стану ўсіх культурных народаў. У нацыянальнае пытаньне ўносіцца, такім спосабам, апрач формальна-юрыдычнага, фактычны, практычны элемэнт. Што справа абстаіць так, а ня йначай, відна із тэзісаў па нацыянальнаму пытаньню, прынятых X зьездам Р. К. П. «Сягоньня, калі паны й буржуазія скінуты, а Савецкая ўлада правазьвешчана народнымі масамі ў гэтых (культурна адстаўшых) краінах,—заданьне партыі ёсьць у тым, каб памагчы працоўным масам невялікарускіх народаў дагнаць зайшоўшую наўперад цэнтральную Расію; дапамагчы ім: а) разьвінуць і замацаваць у сябе савецкую дзяржаўнасьць у формах, адпавядаючых нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў; б) разьвінуць і замацавць у сябе працуючыя ў роднай мове суд, адміністрацыю, органы гаспадаркі,—органы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, ведаючых быт і псыхолёгію мясцовага жыхарства; в) разьвінуць у сябе прэсу, школу, тэатр, клюбную працу й наогул культурнаасьветныя ўстановы ў роднай мове».

Гэтае заданьне партыя й Савецкая ўлада выканоўвае самым шырокім спосабам. Сярод прыгнечаных нацыянальнасьцяў узрастае зярнё культуры, не старой прагніўшай буржуазнай культуры, а культуры новай, пралетарскай культуры. Рэвалюцыйны пабеданосны пралетарыят вядзе за сабою па свайму пралетарскаму шляху. «З дапамогаю пралетарыяту найбольш перадавых краёў адсталые краіны могуць перайсьці да савецкага строю і праз пэўныя ступені разьвіцьця—да камунізму, мінуючы капіталістычную стадыю разьвіцьця». (Ленін. Прамова на 2-м кангрэсе Комінтэрна).

Такім спосабам, сучасная вялікая рэвалюцыя ўтварыла магчымасьць новага жыцьця для тых, хто цэлыя вякі гібеў у цяжкай долі прыгнячэньня, культурнай і эканамічнай адсталасьці. Выйшла разам з пралетарыятам на шырокі творчы шлях і беларуская працоўная маса. Заглянула сонца і ў наша ваконца! Вялікая рэвалюцыя вызваліла й нас. «Жывіцца целам на-

шым годзе усім трутнём і груганом, для нас паўстаўшых сонца ўсходзе, зіяць нам будзе век-вяком» (Інтэрнацыянал). Пад гэтым магутным сонцам пралетарскай рэвалюцыі ўзрастае маладая Савецкая Беларусь. Разам з сусьветным пралетарыятэм ідзе яна змагацца за царства будучай Камуны.

*У. Ігнатоўскі.*

## Чым выклікаецца эканамічнае аб'яднаньне Савецкіх Рэспублік.

З самага пачатку свайго істнаваньня Работніча-Сялянскі Урад Савецкае Расеі палажыў у аснову свае палітыкі па нацыянальнаму пытаньню самавызначэньне народаў. Гэты прынцып ішоў супроць пануючых поглядаў сярод буржуазных гаспадарстваў, якія трымаюцца якраз на адваротных адносінах. Найбольшыя гаспадарствы, як, напрыклад, Англія, Францыя, Італія, усю сваю моц і багацьце закладаюць на пadняволеньні іншых народаў, на пашырэньні сваіх калёніяў. Поўная нязгоднасьць поглядаў і палітыкі ў нацыянальным пытаньні між Савецкім Урадам і ўсімі гаспадарствамі апошняга сьвету зьяўляецца й да гэтых часоў аднэю з найбольш важкіх прычын варажнасьці да нас буржуазных урадаў. Ня гледзячы ж, тымчасам, на гэтую варажнасьць Савецкая Расея кожнаму з сваіх народаў даравала магчымасьць свае ўласнае ўлады, адкінуўшы ад сябе тых, каму не па сэрцу была работніча-сялянская ўлада (Фінляндзія, Эстонія, Латвія і г. д.), і аб'яднаўшыся ў працоўны хаўрус з тымі народамі, дзе заснаваўся Савецкі парадак. Апошнія знаходзяцца ў зьвязку з Расеяй ці на асновах аўтаномнасьці, або, як незалежныя, на асобных умовах хаўруснага характару. Да гэтага часу ў Расейскую Фэдэрацыю ўваходзяць, апроч самое Расеі, 11 аўтаномных краёў і рэспублікаў, 8 незалежных савецкіх сацыяльных рэспублікаў (Беларуская, Украінская, Крымская, Азэрбейджанская, Армянская, Грузінская, Кіргіская і Туркестанская) і нядаўна далучаная Далёкаўсходняя Рэспубліка, якая толькі яшчэ ўводзіць Савецкі парадак. Хаўрусныя з Расеяй незалежныя Савецкія Рэспублікі маюць кожная свой асобны ўрад, канструкцыя якога тая самая, што і ў Расеі. Хаўрус іх замацаваны асаблівымі згодамі і ўмовамі, у якіх самую галоўную частку артыкулаў займаюць тыя, што належаць да вайскова-гаспадарчых адносін. Возьмем, напрыклад, умову паміж Р.С.Ф.С.Р. і С.С.Р.Б., падпісаную І. Адамовічам і Л. Караханам 16 студзеня 1921 году. Важнейшыя артыкулы яе вось якія:

І. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі і Расейская Сацыялістычная Фэдэратыўная Савецкая Рэспубліка ўваходзяць паміж сабою ў Вайсковы і Гаспадарчы Хаўрус.

ІІІ. Дзеля лепшага зьдзяйсьненьня адзначанай у пункце І-м мэты абедзьве дзяржавы абвяшчаюць аб'яднанымі ніжэйпамянованыя Камісарыяты: 1) Вайсковых спраў, 2) Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі, 3) Заграгічнага Гандлю, 4) Грашовых спраў, 5) Працы, 6) Шуцей Саабшчэньня й 7) Почты і тэлеграфу.

ІV. Аб'яднаныя Народныя Камісарыяты абедзьвюх Рэспублік уваходзяць у склад Саветаў Народных Камісараў Р. С. Ф. С. Р. і маюць у Савеце Народных Камісараў С. С. Р. Б. сваіх паўнамоцнікаў, зацьвярджаемых і нагледжаных Беларускім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Зьездам Саветаў.

V. Парадак і форма ўнутранага кіраваньня аб'яднаных камісарыятаў устаноўліваецца асобнымі згодамі паміж абедзьвюмі дзяржавамі.

Такія-ж самыя артыкулы маюцца ў хаўрусных згодах і з іншымі Савецкімі Рэспублікамі, напрыклад, у згодзе з Украінскаю Сац. Сав. Рэспублікаю, падпісанаю з аднаго боку т. Леніным і Чычэрыным, а з другога— т. Ракоўскім 28 сьнежня 1920 г. Хоць па гэтым згодам найважнейшыя справы і аб'яднаны, але парадак іх выкананьня ўстанаўляецца асобнымі згодамі. Вось гэтая асабістасьць адносін і вытыркае пытаньне аб пераглядзе і зьмене асноў хаўруснае канстытуцыі. Тое цеснае аб'яднаньне, якое маецца запраўды паміж усімі савецкімі рэспублікамі, павінна быць заложана яшчэ цясьней і з фармальнага боку трымацца не на якіх-небудзь згодах і ўмовах, а на поўнай еднасьці адміністратыўнага кіраваньня з адзінага цэнтру.

Унутранае аб'яднаньне гаспадарчых асабістасьцяў у гісторыі сустракалася не адзін раз і заўсёды мела сваёю мэтаю дадаць асноўнаму целу палітычную і эканамічную моц. Францыя да сярэдзіны XVIII сталецьця толькі збоку здавалася адзіным гаспадарствам, запраўды-ж яна мела шмат асаблівых правінцыяў, графстваў, гэрцагстваў і г. д., якія мелі свае ўласныя ўстановы й законы. Толькі абсалютызм Людовіка XIV сьцёр міжкраёвыя межы, а Вялікая Рэвалюцыя 1789 г. загладзіла іх зусім у эканамічным сэнсе. Бісмарк пасьля замірэньня з Францыяю ва Франкфурце 1871 г. з асобных нямецкіх зямель скав у адзіную Гэрманскую Імпэрыю, маючы мэтаю пашырэньне і ўмацаваньне гэрманскага імпэрыялізму. Так сама й заакіянская фэдэрацыя Злучаных Штатаў атрымала вялікую вагу й значнасьць, як было зроблена аб'яднаньне ўсіх Штатаў у вадзіны хаўрус з агульным урадам. Усе гэтыя аб'яднаньні, злучваючы блізкія па культуры і прыблізныя па сваёй будове гаспадарчыя асабістасьці ў адзінае цела, рабіліся мацнейшымі. Вядома, што моц гэтая нарыхтоўвалася ў бок далейшага разьвіцьця імпэрыялізму й капіталізму.

Савецкі ўрад ня мае гэткіх мэтаў, як імпэрыялістычныя дзяржавы: яму ня трэба зьнядольваць іншыя народы, ня трэба прагчыся да разьвіцьця капіталізму. Але перад ім стаяць задачы шмат больш вялікія, чымся задачы Людовіка XIV ці Бісмарка. Гэтыя заданьні маюць мэтаю ўмацаваць работніча-сялянскую ўладу на ўсім сьвеце, усюды пашырыць разьвіцьцё сацыялізму, скасаваўшы стары парадак. Дзеля выкананьня гэтых мэтаў працоўны народ перш за ўсё павінен весьці барацьбу з моцным капіталізмам іншых зямель, якія яшчэ да гэтых часаў мала кранулася па дарозе сацыялізму. За пяць гадоў рэвалюцыі мы добра спазналі, што для барацьбы трэба шмат напружнасьці і сродкаў, трэба для перамогі нашых ворагаў аб'яднаньне і адзінае кіраўніцтва. Хвалі чорнае рэакцыі, што разьліваюцца па ўсёй Эўропе і асабліва выразна адбіліся ў зьяве фашызму, прымушаюць нас пільна стаяць на варце нашых сацыяльных заваёваў і быць гатовымі сустрэць усякую здраду з боку нашых чужаземных ворагаў.

Маючы многа сабе ворагаў за рубяжом, мы ня можам казаць, што іх няма тут, сярод нас. Апошніх так сама досыць. Адны з іх, родныя па духу выгнаным, прытуліліся, крыху акрыялі пры новай эканамічнай палітыцы і чакаюць добрае для сябе гадзіны, робячы тымчасам блытаніцу ў нашых гаспадарчых справах. Другія па сваёй духоўнай цемры й да гэтых часоў застаюцца ці няпрыхільнымі да дзейнае працы ці зьяўляюцца аб'ектам дзеля распаўсюджваньня ўсякіх злыдняў супроць Савецкага ўраду. Тут патрэбна вялікая культурна-сацыяльная праца, напрамак якое павінен быць у вадных руках. Новая эканамічная палітыка выклікала йзноў да жыцьця некаторыя ўстановы і адносіны старога парадку, якія ўплятаюцца ў Савецкі лад і брыдзяць яго суровую простасьць. Трэба шмат асьцярогі, каб цьвёрда

йсьці па мяжы, якая дзеліць капіталізм ад сацыялізму. Толькі адзінае кіраўніцтва дасьць магчымасьць прайці па гэтай сьлізкай сьцежцы й прывядзе да тых мэтаў, якія паставіў сабе працоўны народ і яго Савецкі Урад.

Вялікая ўсясьветная місія, якую ўзяў на сябе расейскі працоўны народ, патрабуе й вялікіх сродкаў дзеля свайго выкананьня. Тут перш усяго вынікае пытаньне аб эканамічным адраджэньні нашае сацыялістычнае фэдэрацыі, перэтрываўшае вялікае разбурэньне па працягу 7 гадоў вайны. Кіраўніцтва ў гэтай праца павінна належаць сучаснай РСФСР, якая ў хаўрусе ўсіх нашых Рэспублікаў зьяўляецца самым моцным эканамічным фактарам. Прымем на ўвагу як асноўную прымету эканамічнае важнасьці хаўрусных Савецкіх Рэспублікаў іх абшар і лік жыхароў па вылікам гэтага году. Прафэсар Дэн*) па матар'ялам Ц. С. У. дае вось якія лічбы:

| РЭСПУБЛІКІ | Лік паветаў | Лік валасьцёў | Абшар у кв. вёрстах | Жыхароў: Па перапісі 28/I (9/II) 1897 г. | У 1914 г. (падлік) | Па перапісі 28/VIII 1920 г. (налічна) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Р.С.Ф.С.Р. . . . | 481 | 10.318 | 13.039.701 | 66.100.684 | 86.473.215 | 82.594.643 |
| Беларуская ССР . | 6 | 128 | 52,398 | 1.447.767 | 1.902.800 | 1.634.223 |
| Украінская . . . | 103 | 1.719 | 392.645 | 21.385.922 | 27.680.400 | 26.001.802 |
| Крымская. . . . | 7 | 34 | 33.881 | 546.592 | 677.600 | 761.600 |
| Дагестанская. . . | 10 | 200 | 30.902 | 641.954 | 757.500 | 798.181 |
| Азербейджанская . | 16 | 694 | 76 447 | 1 789.355 | 2 111.400 | 2.096.793 |
| Армянская . . . | 9 | 175 | 34.288 | 1.017.373 | 1.184.600 | 1.214.391 |
| Грузінская . . . | 17 | 574 | 57.967 | 1.759.422 | 2.140.100 | 2.372.403 |
| Кіргізкая. . . . | 34 | 680 | 1.898.198 | 3.258.025 | 4.472.700 | 5.058.553 |
| Туркестанская . . | 27 | 727 | 1.299.16[illegible] | 5.212.428 | 6.631.200 | 7.201.551 |
| ДВР . . . . . | 23 | 196 | 1.468.652 | 899.755 | 1.567.500 | 1.811.725 |
| УСЯГО . . | 733 | 15.445 | 18.384.247 | 104.059.277 | 135.599.015 | 131.546.045 |

Такім чынам РСФСР з Сібірам і аўтаномнымі краямі займае каля 71 проц. усяго абшару фэдэрацыі і мае траха ня 63 прац. усіх жыхароў, ле, а на долю ўсіх незалежных хаўрусных рэспублікаў прыходзіцца толькі 29 прац. абшару і 37 прац. жыхарства. Ужо гэты падлік адзначвае тую вялікую перавагу, якую мае ў хаўрусе Савецкіх Рэспублікаў РСФСР. За ёю йдзе Украінская ССР хоць і меншая некаторых па абшару, але самая значная з усіх аўтаномных па ліку жыхароў. Вядома, што цэнтрам усяе управы павінен быць натуральны цэнтр найбольш моцнае з Рэспублікаў; усе ж меншыя Рэспублікі павінны цесна аб'яднацца са сваёю старэйшаю сястрою.

Трохі ня ўсе невялікія Савецкія Рэспублікі знаходзяцца на ўскраінах фэдэрацыі, датыркаючыся рубяжамі сваімі да чужаземных гаспадарстваў. Так, Беларусь мяжуе з Польшчай, Украіна—з Польшчай і Румыніяй, Туркестан—з Пэрсіяй, Аўганістанам і Кітаем і г. д. Прырубежнае палажэньне робіць іх надта значнымі дзеля заграничнага гандлю, асабліва тыя чыгунковыя й вадзяныя шляхі, якія пранізваюць гэтыя рэспублікі ці датыкаюцца іх. З часам гандлёвыя зносіны з чужаземцамі пашырацца, разам з гэтым паглыбіцца міжнародная палітыка і ўсё больш патрэбна аб'яднаньне прадстаўніцтва за-граніцаю. Па сучаснай канстытуцыі заграничныя гандлёвыя зносіны ўсіх Савецкіх Рэспублікаў аб'яднаны ў Камісарыяце Заграничнага

*) Праф. В. Э. Дэн. Новая Европа. Петербург. Издательство „Право“ 1922 г.

гандлю, але выкананьне гэтага аб'яднаньня павінна рабіцца праз асаблівыя дадатковыя згоды. Гандлёвыя-ж справы маюць тую адзнаку, што палітыка іх робіцца што-дня. *Праз гэта агульнае кіраваньне гэтымі справамі павінна быць у вадзіным цэнтры і засноўвацца не на асобных згодах хаўрусных рэспублік па гандлёвым пытаньням з-заграніцаю, а на раз назаўсёды ўмацованых канстытуцыяю агульных дзеля ўсяе фэдэрацыі пастановах аб загранічным гандлі.*

Тое самае можна сказаць і аб агульных зносінах і прадстаўніцтве за граніцаю. Кожная з невялікіх нашых рэспублік ня мае магчымасьці мець сваіх прадстаўнікаў у іншых землях, да і, апроч таго, з-за свае нязначнае вялічыні яны паасобку ня маюць тае палітычнае вагі, якую мае ўся фэдэрацыя цалком. Між тым агульнае становішча ў сусьветнай палітыцы ў сучасны момант такое, што Савецкаму ўраду трэба мець надта моцны голас і сілу за ім, каб сказаць свае важкае слова, дзе гэта будзе патрэбна. Да гэтых часоў працоўны народ усяе Савецкае Фэдэрацыі гаварыў і гаворыць аднэю моваю супроць чужаземнага капіталізму, але настае гадзіна, калі патрэбна адцурацца ад формы: *належыць, каб і па самай канстытуцыі быў адзіны агульна-фэдэральны Кам'сарыят Загранічных Спраў, які вёў бы загранічную палітыку ад імя ўсіх СавецкіхРэспублік бяз розьніцы іх хаўрусных згодаў.* Аб'яднаньне і з фармальнага боку ўсіх чужаземных зносін у адзіным кіраўнічым цэнтры зробіць шмат больш простымі адносіны між Савецкімі Рэспублікамі з аднаго боку і палегчыць форму міжнародных актаў Фэдэрацыі—з другога. Такім чынам вынікае пытаньне аб канстытуцыйным укладзе ўсяе міжнароднае палітыкі ў Маскве.

Аднака стварэньне адзінага кіраўнічага палітычнага цэнтру яшчэ ня выканае ўсіх мэтаў, якія пастанавіла сабе работніча-сялянская ўлада. Палітычная моц у міжнародных зносінах засноўваецца на эканамічным разьвіцьці і моцнасьці. Савецкі ўрад атрымаў ад царскае Расеі надта дрэнную спадчыну і ў першыя годы свайго істнаваньня ня меў магчымасьці направіць сваю гаспадарку. Наадварот, прыхільнікі царызму й буржуазіі ў доўгай вайне з працоўным народам прагліся яшчэ больш папсаваць народную гаспадарку й маёмасьць. Гэтая вайна як раз ішла на абшары нашых ускраінных рэспублікаў і давяла іх да крайняе ўбогасьці ў эканамічных адносінах. Тымчасам ускраінныя Савецкія Рэспублікі зьяўляюцца магутнымі эканамічнымі фактарамі, і разбурэньне іх гаспадаркі зрабіла беднаю і ўсю Р.С.Ф.С.Р.

Возьмем, напрыклад, Украінскую С.С.Р. Яна займае 12 самых лепшых губэрань ува ўсёй фэдэрацыі. Па сваёй урадлівасьці яна недарэмна завецца хлебным засекам Расеі. Але апрача свайго сельска-гаспадарчага багацьця, яна мае яшчэ большую значнасьць з прамысловага боку. Асабліва вялікую цану дзеля ўсяе прамысловасьці й транспарту мае ўкраінскі вугаль, які здабываецца ў Донбасе: да вайны тут здабывалася 70% усяго вугля ў Расеі. Донбас і ў сучасны момант ня страціў свайго прамысловага значэньня, але агульная прадукцыя яго з даваенных часаў надта паменшылася. Так было здабыта ў Донбасе вугалю[1]).

---

[1]) Народное Хозяйство Украины за 1921 год, Харьков 1922 г. и Экономическая жизнь № 252 за 1922 год.

**У мільёнах пудоў.**

| 1913 г. | 1914 г. | 1915 г. | 1916 г. | 1917 г. | 1918 г. | 1919 г. | 1920 г. | 1921 г. | 1922 г. (9 мес.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.543 | 1,684 | 1.627 | 1.751 | 1.510 | 541 | 338 | 272,5 | 353,2 | 304 |

Такім чынам мы бачым, што зразу, як толькі Украіна зрабілася арэнаю барацьбы (1918-1920 гг.), здабытак вугалю паў у 5 раз нават з 1917 годам. 1921 год даў нейкае павышэньне, але невялікае. Разам з тым, як паменшваўся агульны здабытак, меншыўся на бяду й выраб аднаго забойшчыка. Напрыклад, адзін забойшчык і адзін рабочы выганяў у месяц пудоў:[1])

| 1913 г. | | 1914 г. | | 1915 г. | | 1916 г. | | 1917 г. | | 1918 г. | | 1919 г. | | 1920 г. | | 1921 г. (I пал.) | | 1922 г. (II пал). | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб. | Заб. | Раб | Заб. | Раб. |
| 3.550 | 763 | 3.358 | 758 | 3.000 | 750 | 2.825 | 625 | 2.308 | 450 | 1.783 | 283 | 1.566 | 258 | 1.697 | 239 | 1.631 | 198 | 3.506 | 424 |

Зьвернем далей увагу на Каўказ, дзе таксама заснавалася шмат асобных Савецкіх Рэспублікаў. Каўказ у вадносінах да прамысловасьці мае перш усяго значнасьць па свайму багацьцю нэфцю. І тут мы бачыма, што за рэвалюцыйныя часы, калі не траха ўвесь Каўказ быў у лапах белагвардейшчыны, зроблена была вялікая шкода прамысловасьці. Калі мы параўнуем здабытак нэфці ў Азэрбейджанскай і Горскай Сав. Рэспубліках пры іх заснаваньні з 1916 годам, то ўбачым, што тут патрачана Фэдэрацыяю:

| | Мес. здабытак у мільёнах пудоў. | | Лік экспл. свиражынаў. | | Праходка ў саж-нях. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пач. 1920 г. | 1916 г. | Пач. 1920 г. | 1916 г. | Пач. 1920 г. | 1916 г. |
| Баку . . . . | 18,1 | 38,7 | каля 1.500 | каля 3100 | каля 500 | каля 4650 |
| Грозны . . . | 2,1 | 8,5 | „ 75 | » 400 | » 25 | » 1800 |
| ЎСЯГО . . . | 20,2 | 47,2 | » 1.575 | » 3.500 | » 525 | » 6450 |

Гэтыя лічбы сьведчаць аб нязвычайным паніжэньні як здабытку нэфці (у Бакінскім абшары ў 2 разы, у Грозьненскім—у 4 разы), так і ліку самых прамысловых пунктаў (у Баку ў 2 разы, а ў Грозным у 5¹/₂ разоў).

[1]) Народное Хозяйство Украины за 1921 год, Харьков 1922 г. и Экономическая жизнь № 252 за 1922 г.

Агульны ўпадак нэфцянае прамысловасьці можна бачыць з вось якіх лічбаў па Бакінскаму абшару. Там здабыта нэфці ў мільёнах пудоў:

| | | |
|---|---|---|
| 1914 год | 431,1 міл. пуд. | |
| 1915 » | 439 » » | 1920—1921 гг. 150 міл. пуд. |
| 1916 » | 464 » » | 1921—1922 гг. 177,9 » » |

Значыць, у гэтым найважнейшым месцы здабытку нэфці апошні паменшыўся ў мінулым 1921-1922 годзе ў $2^1/_2$ разы супроць 1915 году.

Далей, агульна-фэдэральную значнасьць для разьвіцьця прамысловасьці мае скарыстаньне тэхнічных расьлінаў. Між імі першае месца займае вата (хлапок), як закладны прадукт дзеля ткацкае прамысловасьці. Адзіным месцам у Расеі, дзе можна было шырока вясьці культуру ватных расьлін, быў Туркестан. Праўда, апошні не здаваляў супольна патрэбы нашае ткацкае прамысловасьці, якой трэба было ў даваенныя часы кожны год да 22 мільёнаў пудоў ваты, але агульны здабытак там ваты быў досыць значны, і прывоз заграмічнага валакна ня быў вышэй 30% мясцовага здабытку. Як і ўва ўсіх частках прамысловасьці, за часы рэвалюцыі культура ваты паменшылася, як з боку вялічыні засеву, так сама й здабытку валакна. Палажэньне ватнае прамысловасьці ў Туркестане перад рэвалюцыяй відаць вось з гэтых лічбаў:

| Гады: | Абшар засеву ў дзесяц: | Выраб валакна: |
|---|---|---|
| 1913 | 422.000 | 13.311.000 пуд. |
| 1914 | 567.000 | 16.091.000 » |
| 1915 | 669.000 | 20.518.000 » |
| 1916 | 681.000 | 14.900.000 » |

У рэвалюцыйныя гады, асабліва з 1918, прыкметна згортваньне ўсяе прамысловасьці, што відаць з агульных падлікаў:

| Гады: | Абшар засеву ў дзесяц. | Выраб валакна і ліппяру ў пудох. |
|---|---|---|
| 1917 | 426.000 | 7.846.000 |
| 1918/19 | 80.000 | 1.841.000 |
| 1919/20 | 90.000 | 988.000 |
| 1920/21 | 109.000 | 649.600 |

Можна было-б і далей прыводзіць розныя лічбы, пасьвечаныя нарысам палажэньня розных частак народнае гаспадаркі ў нашых меншых рэспубліках. Але нам здаецца, што й гэтых даных досыць, каб выявіць тыя вялікія патрэбы, ад здаваленьня якіх залежыць ня толькі разьвіцьцё гэтых малых рэспублікаў, але й далейшае жыцьцё й пашырэньнё прамысловасьці ўсяе Р.С.Ф.С.Р.

Запынімся яшчэ крыху на эканамічным палажэньні нашае Беларусі. Хоць мы й ня мелі значнае прамысловасьці, але 7 гадоў вайны забілі й тое невялікае, што ў нас было. Прамысловасьць наша паменшылася ў тры разы супроць даваенных часоў; наша большае багацьце—лес патраціў чацьвёртую частку свайго абшару; нашы гарады й мястэчкі напалавіну разбураны. На папраўку адных толькі дарогаў да мастоў патрэбна каля 5.000.000 рублёў золатам. Тое самае мы бачым і на Украіне, і на Каўказе і ўсюды, дзе пракацілася з сваім руйнаваньнем вайна. Мясцовымі сродкамі й сілаю паправіць усё гэта немагчыма можа на працягу сотні гадоў. Калі жа ня будзе нарыхтована эканамічная справа наогул у гэтых рэспубліках, найбольш разбураных вайною, то ўсё тое багацьце, як беларускі лес, украінскі вугаль, азэрбейджанская нэфць, туркестанская вата, так і застануцца толькі проблематычнымі фактарамі эканомікі. Нам ведама, што ткацкія фабрыкі Маскоўскае вакругі часта стаяць бяз працы з-за недастачы ватняга валакна. Малы-ж здабытак гэтага валакна ў апошнія часы ў Туркестане залежаць ад кепскае ірыгацыі зямель. Калі ірыгацыя ня будзе там нарыхтована, то тыя месцы, дзе ўжывалася культура ватных расьлін, зробяцца голымі пусташамі. Так сама і з мэталічнаю прамысловасьцю; для яе трэба руда і камены вугаль перш за ўсё. Слабы-ж здабытак апошняга ў Донбасе залежаў у 1921 годзе, апроч іншага, ад недастачы харчоў для рабочых.

Такім чынам, цэнтровая Расея, дзе знаходзяцца найбольшыя прамысловыя ўстановы, дзе маецца многа навучаных працаўнікоў, дзе шмат адміністратыўнае практыкі, ня можа шырока сігануць уперад з-за недастачы здабытковых матар'ялаў. Тыя меншыя Савецкія Рэспублікі, дзе гэтыя матар'ялы маюцца ўлішцы, ня маюць уласных сродкаў, уласнае дапаможнае прамысловасьці і ў дастатку сьвядомых людзей, каб належна выкарыстаць сваю маемасьць. Вось гэта й паказвае, што агульныя інтарэсы ў разьвіцьці і адраджэньні эканамічных спраў трэбуюць аб'яднаньня ўсіх Савецкіх Рэспублікаў і адзінага кіраўніцтва ў гэтай справе. Гэтае аб'яднаньне было і ёсьць між рэспублікамі з унутранага боку, паколькі ўва ўсіх рэспубліках улада знаходзіцца ў руках працоўнага народу, палітычная й клясавая еднасьць якога ўсюды трымаецца цьвёрда. Але ў той час, як з кожным днём пашыраецца эканамічнае разьвіцьцё, як павялічваюцца прамысловыя, гандлёвыя й гаспадарчыя справы, як падымаецца пытаньне аб найбольшым скарыстаньні і ў той самы час аб барацьбе з прыватнымі прадпрыемцамі,—коратка кажучы, калі мы становімся на дарогу шырокае практычнае працы, вялікае значэньне мае ня толькі духоўнае аб'яднаньне, але й конституцыйнае. Вышэй мы прыводзілі артыкул V згоды Беларусі с Р. С. Ф. С. Р. Па гэтаму артыкулу ўсе эканамічныя адносіны між рэспублікамі ўстанаўляюцца асобнымі ўмовамі і згодамі. Калі мы падыходзім к справам з практычнага боку, то гэтыя ўмовы і згоды здаюцца непатрэбнымі. *Належыць, як ужо відаць з вышэйшага, мець адзіны кіраўнічы цэнтр ува ўсіх эканамічные пытаньнях для ўсіх Савецкіх Рэспублік; функцыі гэтае вышэйшае ўстановы зацьвярджаюцца агульна-фэдэральнаю канстытуцыяю, бязумо на пашыраюцца на ўсе Рэспублікі без патрэбы ў якіх-небудзь асобных згодах і ўмовах.*

Вось у кароткім нарысе тыя матывы, якімі выклікаецца аб'яднаньне ўсіх Савецкіх Рэспублікаў. Гэтае аб'яднаньне ніколькі не парушае прынцыпу самагызначэньня народаў. Працоўны народ усіх нашых Рэспублікаў на працягу мінулых гадоў рэвалюцыйнае барацьбы засьведчыў сваю шчырую прыхільнасьць і прыемнасьць да савецкага парадку, які зьяўляецца аднакім як, напрыклад, у Р. С. Ф. С. Р., так і на Беларусі, і на Украіне, і ў Туркестане. Што жа належыць да культурна-асьветнае працы і ўстаноў, то са-

вецкі ўрад па самаму сэнсу свайго быцьця і па прынцыпам свае палітыкі даруе поўную магчымасьць разьвіцьця ў напрамку тых асабістасьцяў культуры, якія характэрыстычны для тэй ці іншай краіны, тае ці іншае Савецкае Рэспублікі. Залажэньне вышэйшых навуковых установаў, разьвіцьцё розных школаў, прыпасованых да мясцовае мовы й культурных варункаў, зрабілася дзякуючы толькі сацыяльнай рэвалюцыі, ідэі якое зьяўляюцца кіруючымі ва ўсім напрамку палітыкі Савецкага ўраду. Пашырэньне і ўмацаваньне гэтых ідэяў паўсюды праз культурна-асветную працу а закладзінах лепшага паглыбленьня яе у недры народу зьяўляецца аднэю з найбольшых мэтаў камуністычнае партыі. *Ва ўсіх Савецкіх Рэспубліках гэтая праца павінна быць мясцоваю, маючы толькі агульны напрамак з аднага цэнтру.* Пры такіх варунках хутчэй зробіцца духоўнае аб'яднаньне ўсіх працоўнікаў, частка якіх (з сялянства і інтэлігентаў) да гэтых часаў застаецца збоку ад сацыяльнае будоўлі. *Праз мясцовую культуру да агульнае сацыялістычнае культуры*, да поўнага аб'днаньня працоўнікаў усіх краёў і земель. Эканамічнае аб'яднаньне Савецкіх Рэспублікаў дапаможа гэтаму культурнаму аб'яднаньню.

**Я. Пятровіч.**

# Тэатр і выхаваньне мас.

## (*Этапы разьвіцьця беларускага тэатру*)

Тэатр—гэта ёсьць многаграннае мастацтва, якое можа быць разгледжана з розных бакоў. На тэатр ёсьць розныя погляды, розныя філёзафічныя разважаньні. Сярод саміх дзеячоў тэатральнага сьвету існуюць размаітыя школы й напрамкі, якія знаходзяцца ў контрах між сабою. Але як на тэатр не глядзець, а жыцьцёвы факт застаецца фактам: тэатр і публіка маюць паміж сабою моцную псыхічную сувязь. Тэатр робіць уплыў на публіку і публіка на тэатр. Тэатральную творчасьць можна разглядаць часткова, як творчасьць колектыўную з даўных часоў.

Значыць, тэатр ёсьць адным з тых фактараў, які грае вялікую ролю ў жыцьці чалавека, у яго разьвіцьці, можа надаць людзкой псыхіцы пэўную форму, пэўнае выяўленьне. Тэатр, які стварыўся даўным даўно на аснове народнай творчасьці, як усе іншыя мастацтвы, быў яшчэ ў старой Грэцыі адным з найвыдатнейшых фактараў грамадзянскага разьвіцьця. Ён распаўсюджваў у народзе сацыяльна-этычныя разуменьні таго часу, злучаючы тым самым у адну вялікую сям'ю розныя клясы людзей гарадоў і вёсак. Клясычная Грэцыя так шчыра любіла тэатр, што прадстаўленьні драмы Сафокла лічыліся ўсенародным сьвятам. Грэцкі тэатр зьмяшчаў да 50 тыс. чалавек, што й паказывае, як масы былі злучаны з ім. Гэта было пр блізна 2400 гадоў таму назад. Ужо ў Рыме праз якія 200 гадоў пазьней тэатр ня меў таго грамадзянска-дэмакратычнага характару, як у Грэцыі; хаця ўваход быў дарэмны, але нявольнікаў у тэатр ня пускалі.

Па тэй-жа дарозе распаўсюджваньня пэўных ідэй сярод мас, як у Грэцкім тэатры, разьвіваўся ў сярэдніх вякох і хрысьціянскі тэатр, які праз грандыёзныя рэлігійныя містэрыі прапагандыраваў сярод мас ідэі хрысьціянства.

Ужо псэўда-клясычная драма была створана толькі для караля і яго двара й ніколі не пранікала ў народ. Але потым рознымі крывымі дарожкамі

й пуцявінкамі драма йзноў пачала вяртацца ў народныя гушчы. Новая драма, сама патрохі зьліжаючыся з жыцьцём, ізноў пачынае заваёўваць увагу народных мас, прарочачы народу ідэі лепшага, сьветлага жыцьця.

Вялікі нямецкі драматург Шыльлер называў тэатр добрым спосабам выхаваньня побач са школаю.

Францускі пісьменьнік Віктар Гюго вось што кажа аб драме:

«Драма павінна стаць концэнтруючым люстрам, якое ня толькі ня муціць, а наадварот, якое зьбірае і ўзмацоўвае ўсе фарбы й праменьні і перарабляе мігаценьне ў сьвет, а сьвет у полымя».

«Тэатр,—кажа францускі пісьменьнік Мэрсье,—ёсьць найпэўнейшы й мацнейшы спосаб неперсаможна ўзброіць чалавечы розум і адразу кінуць у шырокія народныя масы цэлыя патокі сьвету».

«Тэатр ня мае права жыць толькі дзеля таго, каб дагаджаць патрэбам таўпы,—кажа прафэсар Г. Гаеўскі.—Трэба памятаць, што кожны відоўца (зритель), асабіста, калі ўзяць яго аддзельна ад усіх іншых, часта пакажацца чалавекам разумным і культурным, але відоўцы ў грамадзе—гэта стада, якое гэні, або нават проста талент павінны гнаць наперад, трымаючы біч у руках». Тут трэба толькі дадаць, што гэты гэні, або талент зьяўляецца таксама прадуктам масы.

Оскар Уайльд, вялікі эстэт і фанатык мастацтва, вось як крытыкуе публіку, якая паабыватэльску адносіцца да мастацтва:

«Публіка надта дамагаецца таго, каб падгарнуць мастацтва пад сваю ўладу. Публіка заўсёды ва ўсе часы не вызначалася добрым выхаваньнем. Яна кожны раз вымагае, каб мастацтва было папулярным, каб яно здавальняла яе мізэрны пакалечаны густ, каб яно льсьціла, гладзіла словамі яе дзікую пыху, апавядала ёй пра тое, пра што ўжо гаварылася раней; паказывала рэчы, якія даўно ўжо павінны былі ёй надаесьці; разважала яе, калі яна нудзіцца сьветам, праз меру добра паеўшы; зацікаўлівала яе думку, калі яна ўмарылася ад свайго ўласнага тупадумства».

«Будучыя творы мастацтва,—кажа Рых. Вагнэр,—ізноў зробяцца тым, чым былі грэцкія трагэдыі, «Песьня аб Нібэлунгах» або сярэдневяковыя саборы: прадуктам калектыўнай творчасьці цэлай эпохі. Каб мастацтва магло існаваць, патрэбен народ».

«У прыродзе няма нічога пякней за чалавека,—кажа Робэсп'ер—і няма нічога грандыёзьней сабранага народу. Зьбірайце людзей, яны дзякуючы гэтаму зробяцца лепшымі».

Такім чынам, хто-бы ні гаварыў аб тэатры ці аб мастацтве наогул, дык кожны паказвае, што тэатр павінен быць настаўнікам масаў, прапагандыстам пэўных дум і ідэяў сярод шырокага грамадзянства.

Так яно да гэтага часу праводзілася ў жыцьцё. У кожнай дзяржаве, у кожным краі пануючая кляса, якая рознымі спосабамі дамагалася ўбіваць карысныя для сябе ідэі ў галовы масаў, выкарыстоўвала дзеля гэтай мэты й падмосткі тэатраў. Недалёка шукаючы, можна гэта прасачыць, як-бы ў мініятуры, і ў гісторыі нашага беднага беларускага тэатру.

Трэба ведаць, што апрача народна-бытавых сцэнак у нашым краі, якія засталіся ў першапачатковай форме па некаторых глухіх кутках і па сягодняшні дзень,—існаваў калісьці і езуіцкі тэатр, або так званая школьная драма. Ня будзем гаварыць аб чыста хрысьціянскай маралі ў гэтых схолястычных творах, але аб клясавых матывах у іх. Гэтыя драмы ставіліся па ўсіх нашых гарадох і мястэчках, як Горадна, Менск, Магілёў, Навагрудак, Полацк, Слуцак і г. д. у XVII і XVIII вяках.

Яны звычайна былі на польскай і лацінскай мовах, але ў некаторых з іх устаўляліся сцэнкі, або аддзельныя інтэрмэдыі і інтэрлюдыі на бе-

ларускай мове. З аднаго боку прапагандыравалі панскіх сынкоў-школьнікаў у тым кірунку, што беларус—хам, цёмная жывёлінка, якую паважаць ня трэба; з мужыка, з яго цемнаты можна толькі шчыра пакпіць, а з другога боку ўбівалі ў мазгі селяніна, што пана трэба шанаваць, як бога, што гультаяваць на паншчыне—ёсьць вялікі грэх, за які потым чалавек будзе ў пекле смажыцца ў смале.

Каб ня быць галаслоўным, пакажам жывыя прыклады з тых сцэнічных твораў.

*З інтэрмэдыі першай паловы 18 веку.*

*) На сцэне селянін, які паглядае з зайдрасьцю на панскіх сынкоў-студэнтаў. Пры гэтым ён успамінае, што і ў яго ёсьць дома вельмі здольны хлопчык Баўтрук, дзеля адукацыі якога ён ніякія грошы не шкадаваў-бы. Да яго падбягае вучань і пытаецца:

Студ. A ty, mużyk, co tu masz za sprawę?

Селянін. Ня мужык, мось пане, ані дудар, парою ў кулак затрублю, калі дзеткі ў хаце зубамі звоняць.

Студэнт. Ale co ty masz za sprawę?

Селянін. Нет, мось пане, няпісьменны чалавек, прав вашн ні умею, а хацьбы расварыўся з суседамі, то заразураднік рассудзіць справу пастронкам.

Студэнт. Czy masz jaką patrzebę?

Селянін. Куды, мой ты чалавейку, патрэбы я ў кунтыша ня маю, дабро каб сьвітка была на хрыбце.

Студэнт. Głupi chłop jak cielę.

Селянін. Было адно цялятка і тое здохла.

Студэнт. Dyczkuruie iak grochu się obiadszy.

Селянін. У мяне, панічу, дзяцей як бобу, а гароху і асьмінкі нету.

Студэнт. Darmo, iak widzę, groch na ścianę rzucam.

Селянін. І ты, мось пане, вельмі шуміш, гарох у гаршчок, не на сьцену, кідай.

Студэнт. Chłop rozumu y za szeląg niema.

Так малявалі перад панятамі «мужыцкую дурнату». Гэта рабілася школьнікам на пацеху. І болей таго—высьмейвалі жаданьне мужыка адукаваць свайго хлопчыка.

Студэнт за плату абяцае селяніну даць розуму для яго сына.

Селянін. Кажуць, мось пане, што розум да галавы йдзець: то гэта ты вашэць мне ў ухо накладзі, а я сынку свайму ў дома ўсё вытрасу.

Студэнт пачынае сыпаць селяніну лацінскую навуку.

Студэнт. Słuchayże: verbis caepi nowi(s).

Селянін. Што? што? з вербы цэпы новыя? не, мой галубчыку, з вербы лядашто цэпы: учы чаго іншага. Паруш у розуму лацінскага.

Студэнт. Czy nie choczesz być matematicus?

Селянін. Гэта, гэта матаць на вус; гавары больш.

У гэтым стылю йдзе навука далей. Так малявалі на сцэне селяніна перад панам. Ганьбавалі й высьмейвалі яго мову, яго цемнату і яго жаданьне вучыць свайго хлопчыка.

---

*) Гл. „Бѣлорусы" Карскага том III, 2. Старая западно-русская письменность. 1921 г. стр. 223.

А вось як езуіты агітыравалі на сцэне мужыкоў, каб верна служылі пану. Мы бяром кавалак з «Komedya» другой паловы XVIII веку са зборніку, зложанага ксяндзом К. Марашэўскім.

Сюжэт камэдыі такі:

Калі мужыку абрыдла працаваць у пана, ён пачынае скардзіцца на Адама, што сваім грэхам, зьеўшы яблыка, пагубіў усіх людзей на сьвеце. Зьяўляецца чорт і кажа селяніну ня лаяць Адама, бо й сам селянін ня вытрываў-бы пакусы ў пры здарэньні. Чорт прапануе мужыку спробу: маўчаць пэўны час. Калі ня споўніць абяцаньня, дык чорт забярэ яго душу. Мужык прайграў і вось у канцы камэдыі селянін у апошнім маналёгу шкадуе, што паслухаўся тых, хто навучаў яго кепскім справам.

> Селянін. ...Каторыя казалі, каб я быў няверным пану, каторыя акрасьць пана за грэх ня мелі, каторыя пры малацьбе колька разы пакольке чвэртак у карчму насілі са мной разам на гарэлку, каторыя паном адказаць, з віны выкруціцца учылі. Праклятае тое таварыства! праклятае з шэльмамі жыцьцё... Нікалі-б я гэтак нешчасьлівы ня быўба, каб з тымі не таварышыў, каторыя з д'ябламі жывуць... Ах, бядаш мая, бяда! Беражыцеся, мужычкі! беражыцеся, я вас асьцерагаю, ня ругайце ані на бога ані на Адама, але на сябе, мы горшы яшчэ, як Адам; і ён праўда заграшыў, але раз толькі, і раз пакутаваў. А мы дзень за дзень грашым і пакутаваць ня хочам! гэта то прычына нашай згубы, гэта ў пекла нас вядзець...

Вось так выхоўвалі ксяндзоўскія тэатральныя дзеячы на Беларусі ў мінулых вякох і паноў і сялян. Дзеля агітацыі езуіты і ня ганьбілі ненавіснай ім беларускай мовай.

Слабым водгаласкам школьных драм езуіцкіх калегіяў аддавалі й сцэнічныя творы Дуніна-Марцінкевіча ў сярэдзіне мінулага веку. У яго творах ідэалізуецца ўсё-ж такі пан, або шляхціц («Залёты»), хаця мясцамі чуецца новы сантымэнталізм («Сялянка»), дзе праводзіцца ідэя, што бог роўна паважае й паноў і мужыкоў. Тут ужо чуюцца ўплывы новых часоў, бо гэтыя рэчы пісаліся перад вызваленьнем з-пад паншчыны.

Царскі ўрад, чульлівы наогул да розных новых веяньняў, пачуў небясьпеку ў сантымэнтальных творах Д. Марцінкевіча й забараніў іх ставіць на сцэне. («Сялянка» была пастаўлена ў Менску пару разоў у сярэдзіне XIX в.) Плюсам да небясьпечных ідэяў аб тым, што перад богам мужык і пан роўны, была яшчэ й беларуская мова—мова бунтароў і паўстанцаў.

Тая маленькая думка з дэмократычным пылком, кінутая з падмосткаў беларускага тэатру ў палавіне мінулага сталецьця аб роўнасьці паміж панам і мужыком, як не прыдушаў яе царскі ўрад у самым пачатку, гэтая думка пусьціла свае слабенькія расткі па нашаму краю. Скарэй усяго тут была не адна, а дзьве думкі: 1) сацыяльная аснова выказанай Марцінкевічам новай ідэі і 2) грамадзянскае права «мужыцкай» (беларускай) мовы. Раз гэтая мова раздаецца з тэатральных падмосткаў,—значыць яна мае права роўнасьці з усімі мовамі.

Зьяўляюцца адразу два беларускія паэты—Францішак Багушэвіч і Ян Няслухоўскі. Творы абодвух гэтых пісьменьнікаў ужо аддаюць моцна народніцкім і паводлуг таго часу сьвядома-сацыяльным духам. Іхнія вершы (разам з вершамі Марцінкевіча) у працягу якіх 50 год разыходзіліся ў рукапісах па засьценках, і іх дэклямавалі напамяць на беларускіх вёсках.

Пасьля пастаноўкі на сцэне «Сялянкі» Марцінкевіча, гэтая дэклямацыя па вёсках была як-бы доўгім дывэртысмэнтам, яку патрохі каваў сярод мас ідэі беларускага адраджэньня да самага яркага рэвалюцыйнага выбуху яго ў часы 1905—1906 г.г.

У той час моцна пачалі думаць аб беларускім тэатры, як аб спосабе прапаганды. Як сьведчыць газэта «Наша Ніва» (№ 40, 1909 г. арт. «Народны тэатр»), тады ўдалося паставіць беларускія спэктаклі ў Меншчыне і Віленшчыне (у Радашковічах, Пятроўшчыне і Карльсбэргу). Ставілася «Па рэвізіі» Крапіўніцкага ў перакладзе на беларускую мову д-ра Чарноцкага. Тады было пераложана некалькі п'есак з украінскай мовы. Украінскі бытавы абразок, дзе чуецца клясавы налёт, дзе моцна разьдзелены пан і мужык, дзе ёсьць тэндэнцыя ганьбіць першага і ідэалізаваць апошняга, вельмі пасавалі й да беларускага жыцьця. Калі ўжо з 1910 г. пачалі ставіцца рэгулярныя беларускія спэктаклі, дык фігуравалі (апрача «Моднага шляхцюка» Каганца) выключна пераклады з украінскага і пераробкі з Аржэшкі («Хам», «У зімовы вечар»), якая на польскай мове малявала беларускі быт. Украінскае «пшанічнае зярно» дало на беларускай глебе добры ўраджай.

Той факт, што ўкраінскаму руху дапамог тэатр, памяталі беларусы і, ня маючы адразу сваіх арыгінальных п'ес, яны бралі п'есы украінскія.

Тэатр Буйніцкага, разьязджаючы па Беларусі каля двух год 1911—1912), ужо меў кале 6 п'ес. З'усёды пасьля спэктакляў дэклямаваліся беларускія вершы, у якіх будзілася сьвядомая беларуская думка. Гэта думка тады на кожным кроку трывожыла царскую паліцыю, якая чыніла беларускаму тэатру вялікія перашкоды. Часам бывала так, што дазволены цэнзурай верш да друку не дазваляўся да дэклямацыі. Жывое бунтарскае слова са сцэны лічылася вельмі небясьпечнай штукай. Але ўжо тады тэатр адыграў сваю ролю ў беларускай справе, агітуючы са сцэны беларускасьць, у якую быў уложаны як стрыжань той зьмест, што й беларус хоча звацца чалавекам. Такім чынам беларускі тэатр, хоць у аматарскай форме, прыдбаў тысячы людзей да беларускага руху, служыў добрым жывым настаўнікам і кіраўнікам масавай думцы.

У часы вялікай вайны беларускі «крамольны» тэатр бадай заснуў да рэвалюцыі 1917 году (хаця ён трохі істнаваў у Вільні пад нямецкай акупацыяй).

Затое з 1917 г. тэатр адразу аджыў і ў першыя жа месяцы пачаў разьяжджаць па ўсёй Усходняй Беларусі зноў-жа з ранейшай мэтай—з мэтай агітацыі й выхаваньня беларускіх грамадзян у новых ідэях. Абагаціўся моцна рэпэртуар арыгінальнымі п'есамі розных аўтараў: Я. Купалы, Аляхновіча, Галубка, Л. Родзевіча і г. д. Поўнаму разьвіцьцю беларускага тэатру перашкодзілі акупацыі немцаў і палякаў у нашым краю. Затое за апошнія два гады пад Сав. уладай тэатр з тэхнічна-мастацкага боку меў вялікае разьвіцьцё, перайшоў з аматорскага на Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр з студыяй у Маскве.

Менскія трупы рабілі турнэ па правінцыі. Па мястэчках і вёсках за гэты час з'арганізавалася ў дадатак шмат уласных аматорскіх труп.

Ня будзем тут гаварыць аб агітацыі праз беларускі тэатр ідэі, аб праўнасьці беларускай мовы сярод грамадзянства—аб гэтым кажа вялікая сетка беларускіх школ у Менску, паветах і вёсках Савецкай Беларусі. Гэта часткова—вынікі беларускага тэатру. Ня будзем так-сама гаварыць аб практыкаваньні мітынгу-тэатру, што ўжывалася ў нашай Рэспубліцы болей году таму назад, калі з мэтай скліканьня публікі на мітынг, давалі й спэктакль пасьля прамоваў. Але тут трэба сказаць колькі слоў аб сэрцы тэатру —аб нашым рэпэртуары, які з 5 сцэнічных твораў у 1906 г. цяпер мае ўжо каля двух сот п'ес featureзнага зьместу й характару.

Звычайна паміж тэатрам і публікай ёсьць абаюдны ўплыў. З аднаго боку сцэнічны твор робіць пэўнае ўражаньне на публіку, гіпнатызуе яе, і большая частка відоўцаў мае прадстаўленьне аб самых выдатных пэрсана-

жах п‘есы, як аб ідэале. З другога боку публіка робіць пэўнае ўражаньне на тэатральных работнікаў, якія часам падрабляюцца пад густ публікі, каб мець хоць танны посьпех. А як першымі так і другімі кіруе акружаючае жыцьцё і тыя настроі, якія носяцца вакол гэтага жыцьця і ў ім самым. Гэтаму жыцьцю, гэтым настроям заўсёды дае пэўную ахварбоўку пануючая кляса, якая трымае ў сваіх руках палітычна-эканамічны руль жыцьця—дзяржаўную ўладу.

Пры ўмовах такіх абставінаў вытвараецца псыхалёгія мас, вытвараецца быт, які пераліваецца ў формы мастацтва. Вартасьць мастацтва не правышае вураўня агульнай культуры таго народу, які творыць гэтае мастацтва. Такім чынам да беларускага рэпэртуару, як да прадукту культуры доўгімі вякамі заняпалага народу, нельга падхадзіць з строгай меркай. Мастацкі бок беларускага рэпэртуару мы тут і не зачэпім, а будзем гаварыць толькі аб яго ідэёвай вартасьці.

У большасьці беларускіх бытавых сцэнічных творах фігуруюць пан і мужык. Вялікага пана абшарніка часам замяняе шляхціц. Гэта відаць у п‘есах Марцінкевіча («Сялянка», «Залёты», «Пінская шляхта»), Каганца («Модны шляхцюк»), Янкі Купалы («Раскіданае гняздо», «Паўлінка»), у «Хаме» Эл. Аржэшка і іншых. Розна трактуюцца пан і мужык у памянёных творах. Найвышэйшага пункту ідэалізацыі і сьвядомага парываньня да свабоды выходзіў мужык у творах Я. Купалы. Клясавая розьнь, барацьба між панам і мужыком ярка адмалёваны ў яго сымбалічным творы «Раскіданае гняздо», дзе нават фігуруе агітатор-сацыяліст «Незнаёмы», апаэтызіраваны як прарок. Канчаецца гэта п‘еса помстай мужыка, які спаліў панскі маёнтак. Рэвалюцыйныя пралетарыі адмалёваны ў п‘есе Аляхновіча «Калісь», абразок з рэвалюцыі 1905 г. У лягэндзе «Бутрым Няміра» Аляхновіча таксама ёсьць лёгкая клясавая падкладка. Гэта чуецца і ў некаторых п‘есках Галубка.

Вялікае месца ў беларускіх бытавых п‘есах займае гумарыстыка. Гэтая гумарыстыка галоўным чынам праз п‘янства праходзіць белай ніткай у большасьці п‘ес. П‘янства ў беларускіх п‘есах ужо прыелася. Яно тырчыць дзе трэба й дзе ня трэба. Нават у тых лірычна-настраёвых п‘есах Аляхновіча з жыцьця гарадзкога абывацельства гарэлка займае першае месца («На Антокалі», «Страхі жыцьця», «Цені»). Ёсьць гэта сівуха і ў многіх п‘есах Галубка. Усюды п‘янства трактуецца з гумарыстычнага боку, за выключэньнем п‘ескі Я. Коласа «Антось Лата», дзе паказана ярка (хаця сцэнічна слаба) трагічная старана п‘янства.

Нэўрастэнічнай рамантыкай праніпнуты п‘есы Аляхновіча «Цені», «Страхі жыцьця» «Манька» і іншыя. Пэрсанажы ўсе падобныя адзін да аднаго: напоўпаэтычныя, напоўвар‘яты. Словам выродкі. Ніводнага здаровага нармальнага чалавека ў іх няма.

Галубок, які побач з дзярж. тэатрам мае сваю трупу, напісаў за гады рэвалюцыі да 40 п‘ес чыста кіноматаграфічнага характару. Ён дае у сваіх п‘есах танны гумар і галаваломныя эфэкты. Усе яго п‘есы аддаюць вялікай прымітыўнасьцю, хаця маюць пэўны посьпех сярод неразьвітага мяшчанства.

Пераклады розных «Цётак з Бразыліі», «Дамы й гузары» (Ф. Ждановіча) так сама тавар нявысокай маркі.

Прашумела ў нашым Менску музыкальная драма Чарота «На Купальле». У гэтым посьпеху ня так заслуга аўтара, як сакавітая лірыка народных абраднасьцяў і народных мэлёдыяў.

У выніку можна сказаць, што беларускі рэпэртуар яшчэ вельмі бедны. Аднак ён здолеў шмат зрабіць і пры сваёй убогасьці.

Мы чулі, што ў гэтым сэзоне шыкуюцца новыя арыгінальныя п‘есы й

перакладныя клясычных аўтараў. Нельга наракаць на беларускі тэатр, што пакуль што нічога выдатнага яшчэ ня даў з погляду новай гістарычнай эпохі. У гэтым кірунку мы яшчэ нічога асобнага ня бачылі на расейскай маскоўскай сцэне. Рэвалюцыйная эстэтычная думка яшчэ й там ня выявілася на сцэне, хаця за апошнія годы рэвалюцыі аб тэатры напісаны цэлыя горы кніг.

Рэвалюцыйнай трыбунай тэатр яшчэ не зрабіўся. Ён зробіцца ёю тольні тады, калі цалком пяройдзе з рук старых «прафэсыяналаў», якія лічаць мастацтва «аполітычнай, індывідуальнай натхнёнасьцю», у абоймы новай калектыўнай творчасьці. Ня лічачы некаторых выключных спроб рэвалюцызыраваньня, тэатр ішоў па ранейшай дробна-мяшчанскай пуцявінцы.

Пралетарыят меў у ім час-ад-часу адпачынак ад працы, а глядзеў на старыя п'есы не як на ідэал, а як на адмоўную старану дробна-буржуазнага жыцьця і ідэалаў, якія пайшлі ў панства мінулага. З гэтага боку, з боку адкіданьня ўсяго ранейшага, падмосткі й служылі пралетарыяту. У гэтым кірунку й было выхаваньне масаў праз тэатр за апошнія гады рэвалюцыі. Бачачы на сцэне малюнкі ранейшага, гнілога жыцьця буржуазеі й мяшчанства, рабочы меў магчымасьць пераканацца ў іх нікчэмнасьці, у іх гібелі.

З гэтага погляду цікава паказаць на адзін гістарычны факт, дзе пабачым вялікае значэньне тэатру. На сцэне можа быць пастаўлена самая нявінная п'еска з жыцьця мінуўшчыны, а публіцы досыць адзін намёк на сучаснае становішча жыцьця, каб запалаць, захапіцца гневам проціў эксплёатуючай клясы.

20 мая 1771 г. у францускім тэатры гралі камэдыю «La partie de chasse de Henri IV.» Акторы расказвалі аб апале Сюльлі, а саля загаралася думкамі з прычын адстаўкі папулярнага міністра Нэккера. На сцэне прахадзілі прыдворныя інтрыганы аджытай, даўно забытай эпохі, а перад вачыма публікі паўсталі абразы ненавісных фаварытаў Людавіка XV. Кожнае слова нявіннай п'ескі зьвінела, як трывожная званіца. Газэтам забаранілі пісаць аб Нэккеры, але тэатр, не ўпамінаючы яго імені, гаварыў аб ім галасьней друку.

Наш тэатр, так-сама сьвядома, ці несьвядома, выпаўніў сваю місію на карысьць Рэвалюцыі і асьведамленьня мас: гэтым павінен закончыцца першы этап яго рэвалюцыйнай дзеяльнасьці. Цяпер мы стаім на парозе новага этапу—стварэньня праўдзіва-рэвалюцыйнага тэатру.

З тэхнічнага боку прыняты памагчымасьці ўсе меры, каб паставіць беларускі тэатр на поўную вышыню. Адрэмонтыраван будынак Бел. Дзярж. Акад. Тэатру, зроблены новыя дэкарацыі, касьцюмы, запрошаны новыя сілы да працы і г. д. У Маскве Беларуская Студыя нядаўна адсьвяткавала першую гадавіну свайго істнаваньня. Беларускім студыйцам даецца поўная магчымасьць атрымаць сцэнічную адукацыю паводлуг самых навейшых школ і мэтадаў. Думаем, што абагаціцца й рэпэртуар. Новае жыцьцё высуне маладых драматургаў, якія ўловяць рытмы і настроі сучаснасьці і перальлюць іх у пекныя драматычныя вобразы.

«Я люблю толькі тое, што напісана крывёю»—сказаў паэт-філёзаф Фрыдрых Ніцшэ. Шчырасьць пачуцьця павінна быць на першым пляне. Малейшы фальш на сцэне, чуць прыметная робленасьць адчуваецца адразу. Кожную драму пісьменьнік павінен доўга насіць у сваім сэрцы, перажываць яе да малейшых дэталяў і тады толькі брацца за пяро. А то некаторыя з нашых вядомых драматургаў пякуць свае творы, як бліны, пішуць чуць ня што месяц новы сцэнічны твор. Ад гэтага, разумеецца, карысьці для нашага мастацтва мала.

«Красота спасет мир», — сказаў Дастаеўскі. I ў новай рэвалюцыйнай творчасьці хараство—на першым пляне. Крыніц, дзе чарпаць гэта хараство, у нашым новым жыцьці—на кожным кроку многа.

Мы ня будзем абманваць сябе тым, што наш тэатр будзе шагаць наперад багатырскімі крокамі. Гэтага ня можа быць. Няхай ён ідзе памалу, але пэўным цьвёрдым шляхам у новае жыцьцё.

Калі пакуль што няма багатага свайго рэпэртуару, дык можна карыстацца перакладамі клясычных усясьветных твораў. Ёсьць такія творы, якія ніколі ня трацяць сваёй сьвежасьці. Так робіць расейскі тэатр, украінскі. Інача́й нельга. Мастацтва даўно лічылася інтэрнацыянальным. Разумеецца, павінен быць строгі выбор. На наш погляд, падходзяць розныя бытавыя рэчы, гістарычныя, дзе выяўляецца барацьба клясаў, змаганьне за лепшае жыцьцё працоўных масаў і г. д.

Пабачыць абразок з жыцьця буржуазеі, кавалак быту якога-колечы народу, факт з гісторыі пэўнай эпохі й народу заўсёды патрэбна. Пралятарскія масы ва ўсім гэтым знойдуць матар'ял для свайго разьвіцьця й выхаваньня. Усе адмоўныя й прыкладныя стараны пэрсанажаў будуць зразумелы для публікі са сцэны кожнай зьявы. Пралетары будзе рабіць з гэтага свае здаровыя лёгічныя вывады. Толькі адно павінна быць—праўдзівае, шчырае мастацтва. Толькі тады тэатр будзе правадыром мас—і выхаваньне праз тэатр будзе роўнавартна выхаваньню праз школу.

**З. Бядуля.**

## Аб крытыцы „Босыя на вогнішчы“ і яшчэ аб саміх „Босыя на вогнішчы“ М. Чарота.

Адным з выдатных падарункаў у скарбніцу беларускай літаратуры, ахвяраваных у апошнія часы, бязумоўна ёсьць поэма М. Чарота «Босыя на вогнішчы». Гэты твор маладога й здольнага беларускага песьняра выклікаў шмат аб сабе гутаркі, пісаніны й спрэчак. Ды йначай і быць не магло. Гэткія рэчы апошнімі часамі досі рэдка даруюцца беларускімі пісьменьнікамі. Беларускі парнас, за малым выключэньнем, не адлёг с-пад сьнегу, накіданага на яго да акцябрскага усходу. Ён варушыцца пад ім, як вада пад цвёрдым зямляным слоем. «Босыя на вогнішчы» пашырылі расстаўшую часьціну парнаскіх высотаў. Таму з гэткаю цікавасьцю й накіравалі на іх пільныя погляды.

Кожнаму цікава выглядзець на іх новыя кветкі й сучасныя хварбы, каб пацешыцца імі. «Босыя на вогнішчы»—новых кветак і хварбаў маюць у сабе ў досі значным ліку. Гэта бачыш з першага погляду на гэты твор. Аднак, разам з тым, гэтыя хварбы й кветкі кожнаму глядачу здаюцца асабістымі і зусім ня тымі, як яны ў натуры. Вось мы й бачым, што ў поэме «Босыя на вогнішчы» яе крытыкі вынаходзяць тое, чаго ў ёй сапраўды няма. Што гэта так, разьбярэм па парадку два надрукованыя й найбольш грунтоўныя погляды на «Босыя на вогнішчы» т. У. Ігнатоўскага і т. В. Кнорына, і паглядзім, ці наша праўда.

Бяром першым крытыку т. У. Ігнатоўскага. *) «Поэма Босыя на

*) У. Ігнатоўскі. „Босыя на вогнішчы“ крытычны нарыс і „Матывы лірыкі беларускага песьняра М. Чарота“. Менск, 22 г.

вогнішчы», піша ён:—дае нам абгляд (?) усясьветнай (?!) сучаснай (?!!) рэвалюцыі ў тым відзе і ў тым настрою, як яна адбывалася ў нас на Беларусі». Што гэтым хацеў выказаць т. У. Ігнатоўскі? Ня відаць. Можа многае, але ў гэтым выказаным літаральна нічога ня выказана. Бо сказаць недаказаўшы—значыць нічога не сказаць. А крытык ня ўзяўся даказаць; прыходзіцца дагадвацца чытачу самому. А калі дагадваешся, вынаходзячы сэнс думкі т. У. Ігнатоўскага ў сьціслых прабеглых між самога фокусу словах—гэта выходзіць, што аўтар „Босыя на вогнішчы“ разглядае рэвалюцыю на Беларусі скрось «пралятарска-сялянскі настрой і клясавы сьветапагляд». Гэтым т. Ігнатоўскі пэўна хацеў сказаць, што М. Чарот пяром сучасьніка гэтай рэвалюцыі малюе нам вобразы яе разьвіцьця й ажыцьцяўленьня, «як рэвалюцыянэр і камуніста». Гэта значыць, што калі-б яно так сапраўды было, мы мелі-б у поэме «Босыя на вогнішчы» блізкія нам, выразнаачулыя, б'ючыя ў вочы сваім рэалізмам, вобразы. Кожнае слова тады было-б нам ясна й жыло бы ў нашым адчуваньні, як кропка перажытага й перачутага сацыяльнага парушэньня. Аднак таго нямашака. Тав. У. Ігнатоўскі кажа, згаджаючыся з гэтым: „Поэма яшчэ чакае свайго філёзофскага й мастацкага разгляду“. Гэта значыць, што нам, сучасьнікам яе вытварэньня і проста чытачом—твор М. Чарота «вада ва облацех». У той жа час т. Ігнатоўскі дадае: «Магчыма лічыць, што поэма «Босыя на вогнішчы» для выяўленьня сутнасьці вялікай рэвалюцыі на Беларусі зрабіла тое самае, што зрабілі поэмы А. Блока «12» і «Скіфы» для выяўленьня сутнасьці агульна-рускай рэвалюцыі. *) Нам здаецца, што сутнасьць рэвалюцыі, як на Беларусі, так і дзе-б там ня было, ня мае ў сабе нічога мэтафізычнага. Тым болей —з боку матэрыялістычнага погляду на гісторыю. Кожны камуніста і нават кожны марксіста ведаюць, што ў сутнасьці рэвалюцыі ляжыць адна грунтоўная ідэя, гэта ідэя дасягненьня камунізму, бач гэткага ладу, які ня мецьме клясавых падзелаў і які грунтуецца на зьнішчэньні грамадзянскай і эканамічнай эксплёатацыі і на абсалютнай свабодзе людзкое асобы.

Само гістарычнае разьвіцьцё сацыяльных формаў вядзе да гэтага. Пэўна і аўтар, калі ён камуніста-марксіста, та мусіць грунтавацца на гэткім жа сінтэзе (падставе). А калі так—калі М. Чарот рэвалюцыянэр і камуніста—аб сім сьведчыць т. У. Ігнатоўскі—то ўжо па таму аднаму між ім і А. Блокам ня можа быць нічога агульнага. А. Блок,—па сацыяльнаму становішчу, прадстаўнік буржуазнай інтэлігэнцыі, а па сваім поглядам—крайні суб'ектывыст-сымболіст. Дзякуючы гэтаму, ён у сваіх «Двенадцати» да ашаламаніўшай яго і ўсіх яго складу людзей рэвалюцыі адносіцца з вокагляду сымбалізму. Іначай кажучы: згодна А. Блоку ўразуменьне сутнасьці рэвалюцыі трэба шукаць у адцягненых ад жыцьця ваблаcьцёх містыцызму. Зразумелае рэвалюцыянэру-матар'ялісту—для А. Блока павіта тулем таемнасьці, нешта надчалавечнае. Грунтуючыся на падставах сымбалізму, як буржуйным кірунку ў літаратуры, ён нічога ідэёва-прыгожага ў вялікай рэвалюцыі ня ўгледзеў. Блокаўскія дванаццаць:

И идут без имени святого
Все двенадцать—вдаль,

---

*) Усе вынятки бяруцца намі з крытычнага нарысу т. У. Ігнатоўскага «Босыя на вогнішчы», дадакага да поэмы.

Ко всему готовы,
Ничего не жаль...
Их винтовочки стальные
На незримого врага...
В переулочки глухие,
Где одна пылит пурга...

«Катька», «Петька», якія складаюць дванаццаць, вырваны Блокам не з тае, абуранае пэнтам вызваленьня, сьвядомае працаўнічае грамады, *якая бязумоўна мае сьвятое імя, бачыць ворага й змагаецца з ім на адкрытым полі* (курсіў мой. З. Ж), а з контынгэнту начлежных дамоў, „з перавулачкаў глухіх".

У «Двенадцати» А. Блока яскрава выглядае погляд усіх тых, хто пратрубіў вушы злоснаю брахнёю пра Акцябрскую Рэвалюцыю, як пра «бунтоўнае, дзікае бандыцтва, зруйнаваўшае сьвятыя ўстоі ўласнасьці, закону й парадку й разбурыўшае ўсе назьбіраныя ранейшаю культураю каштоўнасьці». На працягу ўсёй поэмы не ўлавіць і зернятка прасьветлага ліку сьвядомага сьвятога паўстаньня рыцараў-ваяк, гэрояў-багатыроў, якія дыямэнтамі ўбіраюць шлях Рэвалюцыі. У Блокаўскіх дванаццаці

«...Руки в крови
Из-за Катькиной любви».

Вось што кажа аб „Двенадцати" А. Блока крытык Сяргей Баброў *): «Толькі дарэшты спустошанае сэрца ў адказ на гэткія страсьці людзкія магло пабудаваць гэту стылізаваную пад мяшчанскія рамансыкі Глінкі і сучасныя частушкі (гэткую) дрындушку, пакошчаную з гэткім стараньнем, што так да гэтых часоў не разабраць: аб чым кажа аўтар? А калі ні аб чым, дык гэтаму твору можа быць забясьпечана ў лепшым выпадку нядбайнасьць (равнодушие)».

Болей гастрэй і, вядома, правідловей, гавора аб «Двенадцати» А. Блока т. Г. Усьцінаў: **) «Першы стрэл па клясавай рэвалюцыі—кажа ён—быў зроблен сымболістам Блокам. І далей: «Блок у «Двенадцати» даў пралятарскай рэвалюцыі выгляд 12-ці п'яных хуліганаў, зьлёгку прыправіўшы іх падліўкаю містыцызму (таемнасьці) з майстэрні Дастаеўскага». Каб хоць крыху прыапрануць іх брудную голасьць, Блок прыдаў ім сэрца, «якое білася ў імя божае», а разбой вёў іх (рэвалюцыю) на Гальгофу ня так сабе, а

«И за вьюгой невидим,
И от пули невредим,
Нежной поступью надвьюжной,
Снежной россыпью жемчужной
В белом венчике из роз
Впереди Исус Христос».

За Ісуса якраз вельмі шчыра ўхапіліся крытыкі з белага стану. Хуліганы з Хрыстом (пэўна адзнака старае Расеі) з «Двенадцати» дужа прыемны і ўсёй буржуазеі. Трэба толькі пабачыць, з якім натхненьнем пасылае яна воплескі ім. Аўтару гэтага артыкулу давялося

---

*) Сергей Бобров. Символист Блок. Журнал «Красная Новь» № 5, студзень-люты 1922 г.

**) Г. Устинов. Очерки новейшей русской литературы: Известия ВЦИК—ад 2 серпеня 1922 г.

бываць на эміграцкіх канцэртах у Бэрліне, дзе адборнае белагвардзейства разьлівалася адабрэньнем «Двенадцати». І не з-за рэвалюцыйнасьці іх так шчыра выдалі гэты твор А. Блока некалькі заграністых белагвардзейскіх выдавецтваў! Ня хіліліся-б яны да гэткага сэнсу пралятарскай рэвалюцыі ў «Двенадцати», на які намякае і які, пэўна, знаходзіць у іх т. У. Ігнатоўскі.

З гэткаю меркаю, з меркаю Блокаўскіх «Двенадцати», было бы зусім незразумелым падыходзіць да «Босыя на Вогнішчы» М. Чарота; то была-б воўчая ўслужлівасьць паэту рэвалюцыянэру й камуністу, каб... каб ён сапраўды свой твор тварыў, з погляду камуніста-матэрыяліста, хоць бы з калівам романтызму. Але М. Чарот у пазывах творчасьці «Босыя на вогнішчы» ці не хацеў, ці ня мог абаперціся на правідловы грунт, а.. зірнуў на рэвалюцыю так сама праз крывую прызму і ўгледзеў... Блокаўскіх «Двенадцать», толькі не ў «переулочках глухих, где одна пылит пурга», а на вогнішчы. Усё-ж трэба аддаць увагу географічным і нацыянальна-сацыяльным умовам, адрожніваючым Пецярбург ад Менску!

Аднак для т. У. Ігнатоўскага гэта не адчыніла вачоў. Для яго поэма „яшчэ чакае свайго філёзоўскага разгляду“... А т. В. Кнорын думае зусім наадварот і знаходзіць у творы М. Чарота зусім іншае. Ён, наперакор т. У. Ігнатоўскаму, ня бачыць у «Босыя на вогнішчы» ніякае містычнае заслоны. Згодна т. В. Кнорыну: «М. Чарот сумеў гэты просты сюжэт (увага!), гэты ўсім нам вядомы бег рэвалюцыйнай гісторыі Беларусі ўлажыць у яскравыя вобразы і рытмы, якраз адбіваючыя сягоньняшняе жыцьцё». *) Значыць—ясна: «вобразы яскравыя» і непатрабуючыя «чакаць свайго філёзоўскага разгляду». А чаму ясныя? Таму, што М. Чарот у іх зьяўляецца «першым песьняром, які ў беларускай паэзіі... знайшоў у сваіх лепшых творах выраз для нашай пралетарскай рэвалюцыі». У чым відно гэта,—т. В. Кнорын не адмячае прыкладамі. Чаму? А таму, што й нельга гэтага зрабіць. А нельга зрабіць затым, што «Босыя на вогнішчы», як згаджаецца сам В. Кнорын, «гэта ня поэма арганізованага гарадзкога пралетарыяту буйных прадпрыёмстваў». Так, праўда... Але, калі так, то тады ўжо гэта ня вяжацца з разуменьнем таго значэньня, якое ўложана т. В. Кнорыным у словы: «М. Чарот знайшоў выказ для нашай пралятарскай рэвалюцыі». Тав. В. Кнорына нельга ўпікнуць у нязнаньні тае ісьціны, якая ўсім вядома,—бач, што агульна-расейскую пралетарскую рэвалюцыю зрабіў арганізаваны пралетарыят. Тав. В. Кнорына так сама нельга západaзрыць і ў тым, каб ён ня ведаў, што ў Беларусі гэткага пралетарыяту няма. Праўда, ляхаўскія гарбары, бабруйскія лесапільшчыкі й барысаўскія рабочыя на ф-ках запалак—гралі пераважную ролю ў рэвалюцыі на Беларусі, але многа паштырхаючай потэнцыі яны атрымоўвалі ад пралетарыяту рабочых цэнтраў Расеі. Тав. І. Казлоў у сваім артыкуле «Ці ёсьць у нас пралятарская культура»? **) аб гэтым піша: «...можна было бы зараней зьдзівіцца, каб гэта ў нас у Беларусі, дзе пераважвае сялянства, дзе *няма ў сапраўдным сэнсе гэтага слова гарадзкога пралетарыяту*, зарадзілася пралятарская культура». (Курсіў наш. З. Ж.).

Праўда, т. І. Казлоў, як сам сазнаецца, незнаём з беларускай

---

*) В. Кнорин «На пути к белорусской пролетарской поэзии», артыкул далучаны да «Босыя на вогнішчы» у выд. «Адраджэньне».

**) «Вперед» № 1 Май 1922.—Месячнік Цэн. Бюро Камун. Партыі Беларусі.

паэзіяй і дзівіцца на аванс (заўчэсьне), ну, а значнасьць слова пралетарыят, думаем, разумее. Ды нават, сам т. В. Кнорын сазнаецца, кажучы ў другім мейсцы: «Босыя на вогнішчы»—гэта не поэма арганізаванага гарадзкога пралетарыяту буйных прадпрыемстваў, а гэта поэма басаножы—нашых сялян беднякоў, нашага *паўпралетарыяту*». (Курсіў наш. З. Ж.). А ў другім сваім артыкуле: «Мёртвы хапае жывога...» *) ён зноў кажа: «Калі ўважліва прачытаць «Босыя на вогнішчы», то ясна, што тут аўтар ужо *не народнік*. (Курсіў аўтара. З. Ж.). Ён (М. Чарот) зразумеў у «Босыя на вогнішчы» сутнасьць пралятарскае рэвалюцыі на Беларусі, ён зразумеў дыктатуру гораду, ён зразумеў дыктатуру босых над краінай праз іх сувязь з горадам». І далей у тым жа артыкуле: «Яны (рэч ідзе аб «Босыя на вогнішчы» і другіх апошняга часу творах М. Чарота) ужо прыналежаць пэрыяду клясавай барацьбы пралетарыяту за камунізм». Усім гэтым сказана многа, але выразна, каб можна было выявіць сэнс тае думкі, якую тужыцца т. В. Кнорын прыцягнуць да «Босыя на вогнішчы»—нельга ўва ўсім гэтым канкрэтна (абачна) абмацаць. І гэта тāму, што т. В. Кнорын сілаю стараецца ўлажыць сваю ідэю ў поэму М. Чарота, ня маючую месца для гэтай ідэі. Праўда, у поэме «Босыя на вогнішчы» М. Чарот—ня зусім народнік, толькі... толькі і не паэта клясавае барацьбы пралетарыяту за камунізм і нават не паэта «нашага паўпралетгрыяту й нязначнага ліку пралетарыяту».

Ня судзім гэтта іншых твораў бзумоўна сьвежага й арыгінальнага ў беларускай паэзыі М. Чарота, ну што-ж датыча «Босыя на вогнішчы», дык нельга не пашкадаваць паважанага крытыка, калі ён хоча злучыць нязлучванае. Бо дзе-ж хоць адзін узор у «Босыя на вогнішчы», які-б падмацаваў думку т. В. Кнорына на тое, што аўтар іх—паэта «нашага паўпралетарыяту й нязначнага ліку пралетарыяту». Думаем, што зьвязваць вёску з горадам ніякім чынам ня можа—басанож. Думаем, што ў гэтым выпадку т. В. Кнорын абмыляецца, калі хоча прыцягнуць тыпы з „Босыя на вогнішчы“ да таго «нязначнага ліку» пралетарыяту, які маецца на Беларусі. І яго выраз—басанож—з якога боку не глядзець—ня можа быць прычэплен ні да фабрычнага рабочага, ні да рамесьніка, ні да малазямельніка, ні да парабка. Басонож—гэта асабісты стан людзей, якіх так сама мае на вучоце палітычная эканомія, але якіх у Беларусі рэвалюцыя *ня бачыла*. Гэта—люмпэн-пралетарыят—плён фабрычна-заводзкіх раёнаў капіталізаванае краіны. А ў нашым выпадку—гэта *толькі* гэроі «Двенадцати» і «Босыя на вогнішчы».

Як ня шукай таго, што ўгледзеў у «Босыя на вогнішчы»—т. В. Кнорын—ня знойдзеш. І таму мы кажам, што ён „перагнуў палку“. Ці сьвядома, ці несьвядома, у канцы свайго артыкулу „На пути к белорусской пролетарской поэзии“ ён хацеў падкрэсьліць праводзімую ім думку жывым узорам з поэмы, і прывёў лёзунг босых:

«Каго зловіш—разарві,
Хто ня наш—таго даві».

Прывёў і—літаральна закасаваў усю сваю думку. Сьвядомы рэвалюцыянэр, далучнік прайшоўшай паміж нас і з нашай дапамогай рэвалюцыі на Беларусі, ня меў і ня мог мець гэткага лёзунгу. „Каго

---

*) „Звезда“ ад 17 верасьня 1922 г. № 221.

зловіш—разарві“,—гэта вокліч, ад якога нясе„ зялёным дубам“, ад якога далёка нават і „ў белым венчыку із роз—Ісус Хрыстос“.

„На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож“—

малюе досі выразна чужыя рэвалюцыі дух і вобразы. Між гэтай карціны, як між чужога праходзіць рэвалюцыя:

„Чырвоныя ідуць—
Песьню волі зноў пяюць“.

Для босых рэвалюцыя—чужая: яны ня здатны падняцца да настрою сапраўдных пралятарыяў-рэвалюцыянэраў; босым незразумела сьвятое абурэньне супроціў жыцьцёвага прыгнёту. Ім

„Жыць неахвота“.

Ясна. Зразумела. Босыя—гэта ахвяры сацыяльных адносін між станамі, людзі пераможаныя, сышоўшыя з дарогі змаганьня. Яны стараюцца памажлівасьці выскаўзнуць с-пад агню адкрытай барацьбы.

„Калі на вогнішчы стала пячы,
На вуліцы вецер, бура...
— Трэба ўцячы.
Каб была цэлая скура—
А мы босыя адступаем“.

Ды ня толькі гэтыя «рэвалюцыянэры» ня могуць змагацца, яны нават *ня ведаюць* сваіх заданьняў ды ня ўцямяць сабе, хто яны.

— «А як жа? Кім будзем звацца?
Як жа будзе вось гэта ды тое?».

А на сходзе дык—

«Пасылаюць к... мацеры...»

Вось хто яны „Босыя на вогнішчы“. Поўны, выразны абраз агідных крымінальнікаў, каторыя ў рэвалюцыю граюць ролю драпежных птушак, прылятаючых на збройнае поле, каб пажывіцца целамі забітых ваяк.

Судзіць па гэтым, што М. Чарот „зразумеў сутнасьць пралятарскай рэвалюцыі ў Беларусі, што ён зразумеў дыктатуру гораду“, як думае т. В. Кнорын, гэта глыбока абмыляцца. «Босыя на вогнішчы» *нічым* не паказваюць на гэта. М. Чарот у іх выглядае—сымбалістам. І гэты яго наносны сымбалізм зарадзіў у ім „Босыя на вогнішчы“. Зарадзіў, але ня добра вынасіў, бо ў працягу вынашэньня аўтар больш гнаўся за надворнымі формамі вершу, не патураючы на яго ідэю. Гэта адмячае і т. В. Кнорын, кажучы: «сягоньня паэт шукае. Ён ні да нікога не прылучыўся, ніякае школы ня прызнаў. Яго цягне Ясенін, гэты першы паэт Савецкае Расеі (?) з яго імажынізмам. Ён недалёк ад стылістычных шуканьняў футурыстаў Маякоўскага і Васіля Каменскага. Але ён не пахаваў яшчэ й народніцкае формы (?) і стылю народніка (!!) Купалы, і свайго ўчарашняга дню».

Вось гэты сказ т. В. Кнорына праўдзіў. Але разам са сваёю праўдзівасьцю ён разьбівае ўшчэнт усе ранейшыя абгаворы т. В. Кнорына, у якіх ён стараўся даказаць, што М. Чарот пясьняр „нашага паўпралетарыяту й нязначнага ліку пралетарыяту“. Ня можа т. В. Кнорын зьвязваць роднасьцю імажынізм з пралятарскаю паэзіяй.

Імажынізм—вырадак сымбалізму, напрамку буржуйна-мяшчанскага. «Імажынізм ёсьць лёгічны і немінучы скутак (рэзультат) разьвіцьця сымбалізму й футурызму», *) так абгаворвае імажынізм яго прадстаўнік І Сокалаў. «Мэтодам імажынізму ў паэзіі зьяўляецца композыцыя вобразаў, для якое фонам служыць творчая інтуіцыя, творчы інстынкт мастака»,—**) кажа другі прадстаўнік імажынізму І. Грузінаў. Гэта значыць, што імажынізм самоцен. суб'ектывен у сваёй сутнасьці, —а значыць і далёкі ад пралятарскай поэзіі, якая грунтуецца на кольлектыўнай творчасьці, на процэсе працы ндустрыяльнага рабочага. Футурызм так сама ня бліжэй да пралятарскасьці, чымся імажынізм. Тымчасам М. Чарот „ня прыстаў да ніводнае школы". Калі-ж прыдаць да гэтага, што ён „не пахаваў яшчэ ні народніцкай формы, ні стылю народніка Купалы, ні свайго ўчарашняга дню", то сьмела можна сказаць, бяз дадзеных намі прыкладаў, а на размове т. В. Кнорына, што пралятарскага ў «Босыя на вогнішчы» нічога няма. Невядома, як будзе далей. То іншая рэч... У „Босыя на вогнішчы" часткаю трапляюцца блізкія поэту „мэлёдыі сялянскага настрою, які родніць песьняра з нашым трывожным, хутка бягучым, рэвалюцыйным часам". Супроць гэтых слоў т. У. Ігнатоўскага спрачацца нельга. Але гэта зусім ня тое, што кажа т. В. Кнорын, і, само сабою, не патрабуе так сама й „філёзофскага разгляду".

Для беларускае літаратуры „Босыя на вогнішчы" каштоўны тым, што яны, як-ні-як, а выяўляюць сабою новы, сьвежы і арыгінальны па ідэі, па стылю, ды досі талентны твор. Так сама «Босыя на вогнішчы» сьведчаць аб пеступовым разьвіцьці іх аўтара, аб яго шуканьнях, якія могуць прынесьці тое, што жадаюць бачыць яго крытыкі і мы разам з імі.

А пакуль прыхільнікаў і прыяцеляў маладое беларускае літаратуры цешыць і дадзенае ў „Босыя на вогнішчы". Гэтаю суцехаю й можна зьясьніць тую ўвагу, якая ім даецца.

**З. Жылуновіч.**

# Поэзія аб рэвалюцыі і рэвалюцыя у поэзіі.

Рэвалюцыя захапляе ўсе бакі грамадзянскага й прыватнага жыцьця. Толькі не ва ўсіх галінах гэтага жыцьця рэвалюцыя выяўляецца адначасна. Адны, як політыка і экономіка, пярвей за ўсіх адчуваюць на сабе зьмену форм, іншыя, як мастацтва й навуковыя ідэі, пазьней падыходзяць пад рэвалюцыйнае кола гісторыі. Вось, ужо справа сёнешняга дню,—рэлігійна-царкоўны рух.

Але, амаль што кожная з пералічаных галін чалавечых шуканьняў мае свае рэвалюцыйныя этапы, ступені, мае свае „лютыя" (лютыя) і свае „кастрычнікі" (акцябры). Нас ціка-

---

*) *Ипполит Соколов.* Имажинистика.

**) Иван Грузинов. Имажинизма основное.

вяць этапы рэвалюцыйнай паступовасьці ў болей знаёмай нам галіне мастацтва,—поэзіі. Зараз мы ня маем часу й магчымасьці разгледзіць дэтальна ход руху беларускай, або расійскай поэзіі з часоў 17-га году, каб прасачыць на прыкладах тое, што мы скажам аб ёй. Адзначым толькі галоўную думку. Праўдзівая, пэўная рэвалюцыя ў поэзыі, так сказаць „кастрычнік“ яе руху, адзначацца поўнай зьменай, як формы, так і зьместу. Калі бачым або тое, або тое: новую форму пры старым зьместу або нейкі нібы новы зьмест пры старой форме (праўдзіва новага зьместу пры старой форме нават ня істнуе), —мы маем справу толькі яшчэ з „лютым“ поэтычных, творчых шуканьняў.

— Ня досыць сказаць: „госпадзі, госпадзі, каб ужо ўвайсьці ў царства нябеснае“, сказана ў старой кнізе.—Ня досыць паставіць над вершам загаловак: „каваль“, пролетары“ і г. д., каб лірыка была праўдзіва пролетарскай, рэвалюцыйнай.

Рэвалюцыя мае ня толькі свой зьмест (зьмену палітычнасацыяльных форм жыцьця), але й свой тэмп ходу, свой рытм, пад які яна робіць свае руйнуючыя й разам з тым будуючыя крокі.

Такі самы тэмп, нэрвова-рашучы тэмп ходу, павінна мець і поэзія, калі яна прайшла ступеню „васьпяваньня“ рэвалюцыі (успомнім: чырвоныя сьцягі мела і рэвалюцыя „лютага“ —февральская!), і дайшла да ступені, калі ў ёй самой зрабілася рэвалюцыя.

Шуканьне зьместу, новага зьместу, згодна новым формам жыцьця, і шуканьне новай формы, адпавядаючай рэвалюцыйнаму тэмпу—вось заданьні новай поэзіі, новай лірыкі.—Павінна адчувацца, што сам пясьняр перажыў, або перажывае ў душы рэвалюцыйны рух.

Прасачыць гэтыя паральлелі ў сучаснай лірыцы надзвычайна цікава, але для гэтага трэба навукова, удумна аднесьціся да досьледаў.

У нашай беларускай поэзіі, здаецца, Чарот-Кудзелька адпавядае ў некаторых сваіх творах („Босыя на вогнішчы“) такім запатрабаваньням.

Ніжэй мы зьмяшчаем верш: „Гвалт пад формай“, які зьяўляецца намерам, вопытам даць нейкае шуканьне формы й зьместу.

Аўтар яго будзе здаволеным, калі гэты слабы прыклад дасьць нейкі імпэт нашым новым творча-рэвалюцыйным пачынаньням.

**М. Грамыка.**

7/XI 22 г.

# Гвалт над формай.

(*Нібы-поэма*).

Я—сын твой. магутнае слова!
Палова
Душы маёй й народа
Новае слова пішы
І сьпявай, і крычы, і пішы!
Калі трэба, аблай!
Лоўкай лаянкай лай
Асабліва ў горадзе,—
Хто падлезе ў горадзе,
Па мордзе, па мордзе!

* *
*

Я—сын, не чапай жа матулі!
Што загулі, як пчолы ў вульлі?
Не падабаецца,
Што лаецца?
Мужык?
Але шык! Але шык!
На вачох, на вачох ён расьце!
У хвасьце
Ужо тыя, што ўчора сьмяяліся,
А ты йдзеш і ў яму ня звалішся!

* *
*

Мы ўсе—твае дзеці, Слова:
Я, і мужык, і дзяўчынка,
Што песьні сьпявае з падмосткаў:
Костка
Адна у нас. Чорная костка
З чырвонай крывёю
Мы з ёю
Прайшлі праз вякі,
Праз шляхі й правулачкі
Гістарычныя.
Жарцік—прагулачка!
З левага боку кароль
Пад Кракоўскую столь:
Управа—барадаты баярын.
А хто яго ведае, браточкі,
Можа татарын
Казанскі?
Род панскі хутка да іх прыстасаваўся.
Застаўся
Скалай толькі ты,
Мой братка мужык,
Ды дзяўчына,
Што песьні у полі сьпявае
І Словы раджае
Ляпей за Скарыны.

* * *

А я ўжо зьявіўся—пасьля!
Хто я?
Грамыка?—Ды не!
Ён лыка
Толькі на лапці мае разьдзіраў,
Калі новае слова шукаў!
Над Купалаў усіх—я Купала,
Варажбітка мне так нагадала.
З усіх каласкоў-васількоў,
Ад дзядоў што йдуць, ад вякоў,
Я Колас!
Вы чуеце голас? Ён блізіцца, нівіцца...
Волас
Хай дыбам стане у вас,
Калі прыйдзе той час,
Час радасьці Новага Слова!
Умова? Якая умова?
Ніякіх умоў дзеля слова!

* * *

Грэцкая дзеўчына Фрына
Калісь-та зьявілася голай
На сьвята.
На гульбішчы гулы гулі,
Але не глядзець не маглі?
Так. Слова народнае—Фрына
З песьняром народзіць свайго сына.
Ён прыдзе, далі-бог!
Сварог—Пярун!
О, колькі струн, ненацягнутых струн
Трэба яшчэ працягнуць
Ад сэрца да сэрца,
Ад душы да душы!
Адзін з Купалаў сказаў:
«Годзі жыць у паняверцы».
Каб паверыў-жа ён сам
У Новае Слова!

* * *

Браточкі мае, песьняры!
Да Зары,
Да гэтай во пары
Вы сьпявалі аб чым?
Аб нядолі... неабсеяным полі...
Ад болю па волі
Вы сьлёзы лілі —
Досыць! Даволі!
Вочы ўгару! Вышэй, вышэй!
Не маліцца!
Падсохла ўжо тая крыніца,
Ўжо вогнішчы там раскладаюць,—
Вы бачылі, чулі?
На вогнішчах босыя маюць
Ўжо слуцкія бэры,—ня дулі.

Вы сьпявалі пра гора?
А хора, басаногага хора
Вы чуеце гымны?
Крыху дымны гэтыя вогнішчы, дымны.
Але гымны нясуцца
Пабедныя гымны!
Бедныя, бедныя вы,
Што іх ня чуеце!
Усё яшчэ вы па хатах начуеце,—
А хат ужо няма!
Палацы багатыя будуюцца,
Гулам гудзіць басаногая вуліца,
Ня пужайцеся,
Лепш кайцеся!
Басаногія пройдуць праз вогнішчы,
Пройдуць, каб бульбу сьпячы,
А там новае йграюць, нясуць трубачы.
Не ўцячы вам ад іх,
Не ўцячы!
Гэй, кавалі, грабары, асначы!
Грайце!
Тра-та! Ля-ля!
Гудзіць зямля!
Палі, палі! Хто ня з намі,
Валі, валі!
Ілі!

* *
*

Няма! Нічога няма!
Ня лайце!
А дзе-ж пралетары?
Праз вогнішчы скокнуў на сонца,
Пасядзеў там, як Дары
На троне,—
І зноў праз ваконца
На зямлю!
І тут запанаваў новы чалавек.
Ад веку мы спалі...

* *
*

Спачатку было Слова
І слова — да бога,
І бог — тое Слова.
Вось умова,
Сьвятая умова!
Разумейце языцы,
Браточкі, сястрыцы!
Шукайце, шукайце вы Слова,
Усё новага, моцнага Слова!

* *
*

Мы ўчора былі толькі галы:
Шукалі папараць Купалы.
А сёньня мы, уцекачы,
Завойстрым войстрыя мячы

Сячы ўсе формы
І крычы!
Мы толькі рытмам, маршам цьвёрдым
З паглядам жудасным і гордым
Бяз формы-вопраткі
У сьвет!
Ўсе сьцягі—пад ногі;
Мы—богі!
Убогія богі!
Дык кіньма хоць сьлед!
Навука, гульня, конституцыя,
І нават сама—
Рэвалюцыя?
Ўсё гэта трэба нам,—
Не панам!
Мне!
Браточкі, браточкі мае!
У вочкі, у вашыя вочкі
Дайце цяпер зазірнуць?
Вашага суду глынуць:
Вар'ят! Вар'ят!
Так, так! Я ваш сабрат,
Трэба гэтага, трэба!
Вар'яцтва—кавалачак неба,
Новага неба,—
Вось нашая глеба-ральля,
Дзе новы грымоча Ільля!
Трэба быць па-праўдзе з народам:
Народ вісеў на крыжу,—
— Я праўду кажу.
Трэба і нам на крыж,
На крыж шуканьня—вар'яцтва.
Я—брат твой вар'ят,
Дзеля брацтва!
Вось мой пясьнярскі рэглямант—
Я знаю, што трэба рабіць,
Амэн!

**Міхайла Грамыка.**

16/VIII, 22 г.

# Навакол польскага сойму.

## І. Адчыніўся.

„Сьвенты Ян“, у часьць якога езуіты заснавалі варшаўскі катэдральны касьцёл, напэўне ня бачыў ніколі такое каралеўскае пышнасьці, такога сьвята, такога «дэмакратычнага» стылю, як 28 лістапада 1922 году, калі адчыняўся новы польскі Сойм.

Яшчэ задоўга да адчыненьня ўсе лёжы і хоры ў касьцёле былі перапоўнены.

І каго, каго толькі там ня было! Паслы чужаземных дзяржаў у парадных шытых золатам мундырах, з мэдалямі і ў гвяздах з дарагіх дыямэнтаў, расфуфыранае варшаўскае „грамадзянства“, ксяндзы ў шаўковых сутаннах, дыплёмаваныя кокоткі, ад якіх пахне дарагою францускаю парфумаю, пара—другая мяшчан—гэтых істых прадстаўнікаў «дэмакратыі», вайсковыя, палітычныя дзеячы, прафэсары й нарэшце паслы Сойму й Сэнату, якія важна расьселіся ў крэслах, чакаючы пана начальніка панства. Польскія газэты са смакам апісалі гэту цэрамонію ўрачыстага адчыненьня Сойму, зьвярнулі ўвагу на ўсё і нават на дэпутатаў беларусаў, для якіх чамусьці не хапіла крэсел і якім прышлося чамусьці стаяць каля сьценкі і у праходах па левы бок...

Нарэшце прыехаў Пілсудзкі, і пачалося набажэнства. Трэба думаць, што набажэнства было першага сорту—бо яго рабіў сам супэрiёр езуітаў ксёндз Павэльскі, які пасьля набажэнства выступіў з прывітальнаю прамоваю да дэпутатаў Сойму ад самага бога айца і маткі боскай...

Не пасьпеў ён скончыць свае гарачае прывітальнае прамовы—як патрыётызм абхапіў усіх прысутных і паліўся клерыкальна-нацыянальны гымн „Божа, пампжы Польшчы“ („Boże coś Polsk“)—падхоплены ўсімі прысутнымі... Пан начальнік панства Язэп Пілсудзкі тады ня вытрымаў і вышаў на анбоню. Гучнымі воплескамі сустрэла яго «лявіца» Сойму. Гэнерал Гальлер і Корфанты нахмурылі бровы... Сойм адчыніўся... Як бачыце, стыль урачыстасьці самы што ні ёсьць «дэмакратычны».

Вось яна белая Польшча з яе новым белым, буржуазным Соймам.

## Закон аб выбарах у Сойм.

Перш, чымся перайсьці да характарыстыкі новага польскага сойму—трэба застанавіцца на тых варунках, пры якіх ён радзіўся. Трэба сказаць пару слоў аб тым выбарным законе, які быў прыняты старым устаноўчым соймам 28 ліпеня гэтага году і які ў значнай меры ўжо вызначыў склад новага сойму.

Па гэтаму закону выбіраоцелям можа быць кожны грамадзянін Рэчы Паспалітай, дасягнуўшы 21 году, бяз розьніцы полу і нацыянальнасьці, апроч тых, хто асуджаны польскім судом і апроч тых, хто служыць у польскай арміі. У дэпутаты сойму можа быць выбраны толькі той, хто мае 25 гадоў.

Такім чынам польская моладзь да 21 году ня прыймала ніякога ўдзелу ў выбарах.

Другія асаблівасьці выбарнага закону ў сойм так сама пакіраваны на тое-ж самае—каб ня даць найбольш рэвалюцыйна настроеным грамадзянам права выбіраць.

## Хітрая мэханіка дзяражўных сьпіскаў.

Выбарны закон загадаў, каб новы сойм меў 444 дэпутаты, з якіх 372 дэпутаты павінны быць выбранымі па вакругах, а 72 па дзяржаўных сьпісках. Дзяржаўныя сьпіскі тлумачацца ў законе тым, што трэба даць магчымасьць партыям, якія не набяруць па вакругах належнага ліку галасоў для правядзеньня свайго кандыдата, аб'яднаць лік галасоў па розных вакругах і такім чынам атрымаць мандаты ў сойм. Яно на першы пагляд выходзіць вельмі дэмакратычна. Але на практыцы выходзіць шыварат-на-выварат. Справа ў тым, што ўстаноўчы сойм пастанавіў, каб па дзяржаўных сьпісках мандаты дзялілі не прапарцыянальна ліку галасоў, а прапарцыянальна ліку мандатаў той ці іншай партыі. Пры гэтым права дзяліць мандаты дзяржаўнага сьпіску маюць па закону толькі тыя партыі, якія атрымалі па вакругах ня менш як 6 мандатаў.

Ясна, што такі парадак пакіраваны перш за ўсё проціў нелегальнай камуністычнай партыі, якая магла атрымаць ня гледзячы ні на які тэрор мандаты толькі ў рабочых вакругах, якіх у Польшчы менш, чымсь шэсць. Па другое—гэты парадак быў накіраван супроць так званых нацыянальных меншасьцяў, якіх польская буржуазея думала такім чынам пазбавіць ліку дэпутацкіх мандатаў, што зрабіць не ўдалося.

## Закон аб выбарах у Сенат.

Закон аб выбарах у Сэнат прыняты быў устаноўчым соймам таго-ж 28 ліпеня. Ён такі самы, як і закон аб выбарах у сойм, з тою толькі розьніцаю, што цэнз пры выбарах у Сэнат значна павышаны. Маюць права выбіраць грамадзяне ад 30 гадоў, а быць выбранымі ад 40 гадоў.

Усьлед за выданьнем выбарнага закону стары ўстаноўчы сойм распусьціўся й пачалася перадвыбарная барацьба. У гэтай перадвыбарнай барацьбе павінна адзначыць два моманты.

## Перадвыбарная барацьба проціў камуністаў.

Першы момант—гэта агульная барацьба буржуазеі бяз розьніцы нацыянальнасьці (і правіцы і лявіцы) проці камуністаў. Паліцыя і дэфэнзыва пастараліся добра яшчэ да роспуску сойму. Быў арыштованы дэпутат устаноўчага сойму камуніста Домбаль, у якім бачылі небясь-

печнага агітатара й кандыдата ў будучы сойм. Устаноўчы сойм выдаў Домбаля яшчэ да суду, чаго ня было нават у царскай думе, якая адмовілася калісь выдаць дэпутатаў С.-Д. Потым суд змайстраваў абвінавачаньне проці Домбаля, як здрадніка польскае дзяржавы, і засудзіў яго на катаргу, пазбавіўшы яго грамадзянскіх правоў. Да другога дэпутата ўстаноўчага сойму камуніста Ланцуцкага прычапіцца не ўдалося, дзякуючы чаму Ланцуцкі мог стаць на чале «Саюзу пралетарыяту гораду й вёскі».

Апрача Домбаля было яшчэ задоўга да перадвыбарнай барацьбы арыштована шмат камуністаў і такім чынам на гэтым фронце польская буржуазея к выбарам падгатавалася добра.

Што-ж датычыцца да барацьбы з камуністамі ў часе выбараў—то і тут так сама больш працаваў жандар, які арыштоўваў выбарчыя камітэты „Саюзу пралетарыяту гораду і вёскі“, канфіскоўваў іх літаратуру і адозвы. Газэта цэнтральнага выбарнага камітэту саюзу пралетарыяту гораду й вёскі „Пралетарыят“ была зачынена на трэцім нумары і больш ня выходзіла. Другая газэта, якая заклікала галасаваць за № 5—«Вясковы пралетары» (на беларускай мове) выйшла толькі адзін раз (ці выходзіла болей—невядома). Мітынгі, якія арганізоўваліся «Саюзам пралетарыяту», усе разганяліся. Дайшло да таго, што нават сябры цэнтральнага выбарчага камітэту «Саюзу пралетарыяту гораду і вёскі» былі заарыштаваны (Рыбацкі, Дутлінгер), не гаворачы ўжо аб правінцыяльных выбарчых камітэтах, якія заарыштаваны пагалоўна ўсе і сядзяць цяпераka па турмах... Гэтыя гвалты над камуністамі і беспартыйнымі рэвалюцыйнымі рабочымі, спачуваючымі камуністам, праходзілі пры поўнай згодзе ўсёй буржуазнай і дробна-буржуазнай прэсы, якая або адкрыта цкавала камуністаў, або маўчала.

Буржуазея нацыянальных меншасьцяў,—якая падымала шум на ўсю Польшчу з-за дробных гвалтаў над ёю, асабліва-ж на „крэсах“—як вады у рот набрала і ні адным словам не пратэставала проці гвалтаў і арыштаў выбарных камітэтаў «Саюзу пралетарыяту». У гэтым сэнсе вельмі характэрна трымалі сябе беларускія „незалежнікі“, якія на працягу ўсёй кампаніі ў сваёй літаратуры і ў сваіх агітацыйных прамовах зусім нават не ўпаміналі сьпіску № 5, як бы яго й ня было на сьвеце. Маўчаньне—знак згоды, кажа пагаворка. Нашто змагацца з сьпіскам № 5, калі з ім добра змагаецца дэфэнзыва. Дай то, божа, хоць сваю скуру адстаяць, ды к таму жа—дай волю № 5, дык і касьцей не зьбярэш № 16. Яно й запраўды так. Бо там, дзе камуністы мелі магчымасьць больш-менш разгарнуць агітацыю і дзе мелі хоць аднаго або двох таварышаў, якія езьдзілі на вёску й падпольна заклікалі, галасаваць за бальшавікоў (№ 5)—там беларускія незалежнікі пры ўсёй сваёй легальнасьці пасавалі і з трэскам правальваліся,

як гэта было ў Бярэсьцейскім райёне, дзе № 5 атрымаў больш 9.000 галасоў...

Такім чынам сьпісак № 5 быў небясьпекай ня толькі для буйных буржуяў і клерыкалаў «Х'ена». Ён быў апасным галоўным чынам для «Пяста», „Вызваленьня“, „П. П. С.“, «№ 16». З гэтае прычыны ніхто не падняў нават і голасу, хоць бы для віду, проці гвалтаў і арыштаў выбарчых камітэтаў сьпіску № 5. *Незалежна ад нацыянальнасьці ўся буржуазея, як буйная, так і дробная, як правіца, так і «лявіца» далі сваю згоду на арышты і рэпрэсыі ў адносінах да «Саюзу пралетарыяту гораду і вёскі»*.

## Блёк нацыянальных меншасьцяў.

Другі момант надта характэрны для сучаснай Польшчы—гэта ўтварэньне блёку нацыянальных меншасьцяў, які выступіў пад № 16 і які аб'яднаў і беларуса інтэлігэнта-незалежніка й беларуса селяніна, і ўкраінца-незалежніка пятлюраўскага кірунку і ўкраінца-селяніна, і жыда гандляра-сыяніста з жыдам рамесьнікам, і немца буржуя. Вінігрэт самы процінатуральны—што й гаварыць. Але на часы выбараў—гэты вінігрэт досыць моцна трымаўся і атрымаў шмат галасоў, больш чымся чакалі самыя гарачыя прыхільнікі блёку і яго оптымісты. У Сойме гэты блёк атрымаў 66 мандатаў, з якіх дванаццаць мандатаў выпадае на долю беларускіх незалежнікаў.

Такі процінатуральны блёк мог вырасьці толькі пры процінатуральнай нацыянальнай палітыцы польскай буржуазеі,—якая паставіла сабе мэтаю з аднаго боку апалячыць «крэсы» і пры гэтым ня даць сялянам-беларусам і ўкраінцам зямлі, а з другога боку павяла страшэнную антысэміцкую агітацыю.

У значнай меры гэты блёк быў блёкам чыста тэхнічным, быў свайго роду манэўрам, які зараз ня мае ўжо сэнсу. У сойме трэба чакаць, што дэпутаты блёку нацыянальных меншасьцяў разыйдуцца кожны сам, па сабе—і магчыма, што кожная група гэтага блёку павядзе сваю палітыку паводле прыказкі „хто ў лес, а хто па дровы“.

Ва ўсякім разе вялікай вартасьці гэты блёк у сойме мець ня будзе... Што-ж датычыць да ацэнкі гэтага блёку з боку таго, ці ён мае рэвалюцыйную вартасьць ці не,—то трэба сказаць, што блёк для клясавай сьвядомасьці пралетарыяту нічога ня даў і нават пашкодзіў ёй. Аслабіўшы на адзін момант сілы польскае буржуазеі,—ён у той-жа час разводзіў самую шкадлівую для рабочых і для сялянства агітацыю, кідаючы ў працоўныя гушчы туманныя нацыянальныя лёзунгі, і гэтым самым ліў ваду на млын рэакцыі, заганяючы на дно клясавае й сацыяльнае змаганьне.

З другога боку і польскую буржуазею ён урэшце не аслабіў, а

наадварот—даў ёй у рукі козыр для новай шовіністычнай агітацыйнай кампаніі сярод польскіх рабочых і сялян, што зьяўляецца рашаючым фактарам у пытаньні клясавай сьвядомасьці адсталых польскіх рабочых, якія яшчэ й дагэтуль хварэюць на клерыкалізм і шавінізм.

Такім чынам, на наш погляд, акцыя блёку нацыянальных меньшасьцяў утварыла новыя труднасьці для камуністычнай партыі Польшчы, галоўным заданьнем якой пасьля 4-га кангрэсу Камінтэрну зьяўляецца ўтварэньне ядынага рабочага фронту.

## „Бунд" і „Поалей-Ціон".

Ацэньваючы з гэтага самага боку выступленьне са сваімі самастойнымі сьпіскамі «Бунду» і „Паолей-Ціон" і прыймаючы пад увагу, што ніводнага мандату гэтыя партыі не атрымалі,—трэба прызнаць, што для камуністычнай партыі Польшчы—гэта зьяўляецца плюсам для будучыны. Жыдоўскія рабочыя—бундаўцы і поалей-ціоністы пасьля выбараў—расчараваныя вынікам выбараў—куды больш ахвотна парвуць з сваімі мяшчанскімі партыямі і масамі будуць уваходзіць у камуністычную партыю. Тое-ж самае трэба чакаць і ў прафэсыянальным руху, дзе магчыма аб'яднаньне жыдоўскіх прафсаюзаў з клясавымі прафсаюзамі.

## Партыйны склад старога і новага сойму *).

Стары сойм быў п'яным соймам. Ён ня меў пэўнай, выразнай палітыкі й хістаўся то ўправа, то ўлева. Хто забыўся аб тых крызысах улады, якія цягнуліся ў Польшчы цэлымі тыднямі, а апошні крызыс, перад самымі выбарамі, цягнуўся нават цэлых 2 месяцы, пакуль на міністэрскае крэсла не папаў праф. Новак. Гэтыя крызысы тлумачыліся тым, што стары сойм меў два роўных крылы, але ня меў пэўнага цэнтру. У яго склад уваходзіла шмат маленькіх партыяў, з якіх ні адна не магла быць большасьцю нават з другімі партыямі, блізкімі ёй па духу.

Для яснасьці прыводзім прыблізны сьпісак партыяў старога сойму. «Правіцу» ў сойме складалі такія партыі:

1) *Нарадовыя дэмократы*—78 дэпутатаў.—Гэта прадстаўнікі рэакцыйнай буйнай буржуазеі і буйнай шляхты.

2) *Нарадова-хрысьціянская партыя*, 22 дэпутаты на чале з дэпутатам Дубановічам, вельмі блізкая да нарадовых дэмакратаў.

3) *Нацыянальна-хрысьціянская робочая партыя*—28 дэпутатаў, якая мае ўплыў на самыя цёмныя, самыя адсталыя рабочыя

*) Цыфры прыводзяцца прыблізныя, з газэтных даных і артыкулаў.

масы й дробную мяшчанскую буржуазею. На чале партыі стаяць галоўным чынам ксяндзы.

Усе гэтыя тры партыі зьяўляліся прадстаўнікамі самае злое рэакцыі і антысэмітызму.

Усяго правіца налічвала такім чынам 128 дэпутатаў.

*Правы цэнтр* складаўся з групы пана Скульскага, 42 дэпутаты, і з маленькіх групак, якія ня мелі ніякага значэньня ў палітыцы й прыставалі то да правых, то да левых.

*Левы цэнтр* — складаўся з самай вялікай у польскім сойме фракцыі—Польскай Народнай Партыі (Пястоўцы), якая налічвала 85 дэпутатаў на чале з Вітасам і Домбскім. Гэта партыя—партыя дробнай шляхты й сялян-кулакоў. Яна варожа настрояна да рабочых,—Пілсудзкага падтрымлівае але пабайваецца буйных абшарнікаў паноў.

*Лявіца* — складалася з 2-х сялянскіх партыяў «Вызваленьне» 23 дэпутаты і група Стапінскага—33 дэпутаты. Абедзьве партыі—настроены радыкальна, але няздольны да сыстэматычнай радыкальнай палітыкі супроць паноў.

Далей ідзе Нацыянальная Рабочая Партыя—партыя чыста шавіністычная, якая мае ў сваім складзе адсталых рабочых. Затым ідзе П. П. С., якая мела 34 дэпутаты ў сойме.

І нарэшце крайнюю левую займала радыкальная маленькая група дэпутата Оконя—сялянская і 2 камуністы. Домбаль, які адарваўся ад „Вызваленьня" і Ланьцуцкі, які вышаў з П. П. С. Такім чынам стары сойм быў вельмі разнакалёрны—што не давала яму магчымасьці весьці пэўную буржуазную палітыку.

У новым сойме перш за ўсё прапала некалькі дробных групак цэнтру, за лік якіх вырасла правае й левае крылы. Правіца мела ў старым сойме 128, а з групай Скульскага 170 дэпутатаў.

У новым сойме блёк правых партыяў (Х'ена) мае прыблізна столькі-ж мандатаў—169 мандатаў. З вялікіх партыяў новага сойму асталіся пястоўцы, якія маюць 70 дэпутатаў на 15 менш у параўнаньні з старым соймам, „Вызваленьне" 49 дэпутатаў,—на 27 дэпутатаў болей, чымся ў старым сойме. Пэпэсаўцы 41 дэпутат—на 7 болей чымся ў старым сойме, Нацыянальная рабочая партыя—18 дэпутатаў. Блёк нацыянальных меншасьцяў—66 дэпутатаў. Але трэба прыняць пад увагу, што гэтая група ня можа лічыцца за адну партыю. У склад яе ўваходзяць 12 беларусаў так сама з рознымі поглядамі, 18 украінцаў розных напрамкаў, 20 жыдоў, каля дзесяці немцаў і адзін расеяц—старавер. Далей ідуць дробныя фракцыі: так званы «Польскі цэнтр», які ў сойме ніяк ня можа быць цэнтрам—7 дэпутатаў, Група Стапінскага—1 дэпутат, група Оконя—4 дэпутаты, Сыяністы—15 дэпутатаў, жыдоўскія дэмократы—1 дэпутат, камуністы—2 дэпутаты, русіны—5 дэпутатаў. Такім чынам мы бачым, што й новы польскі

сойм—п'яны сойм, які будзе хістацца то ўправа то ўлева, пакуль у ім ня ўтворыцца правая большасьць.

А гэта можа здарыцца. Справа ў тым, што частка пястоўцаў можа далучыцца да Х'ены, туды пойдзе й польскі цэнтр. Што-ж тычыцца „Вызваленьня“, Групы Окоця, Стапінскага, беларускай групы і ўкраінскай, то яны у працэсе соймавай барацьбы могуць стварыць сялянскі блёк з другою часткаю пястоўцаў, наманер трудавікоў у вечнай памяці гасударственнай думе. Адзінкі-ж з П. П. С. і «Вызваленьня» могуць так сама, як і Домбаль, перайсьці да камуністаў... Адным словам—у блізкай будучыне павінна чакаць у сойме ліквідацыі маленькіх групак і большай фракцыйнай яснасьці, і з тэй прычыны, што „Пяст“ можа згаварыцца з Х'енай—трэба чакаць правай большасьці сойму, калі не на першых кроках працы сойму, то ў бліжэйшым часе.

## Заданьні Камуністычнай Партыі Польшчы.

Вынікі выбараў у Польскі Сойм ні ў якім разе не зьяўляюцца праўдзівым адбіткам тых клясавых сіл, якія выйшлі на арэну змаганьня ў сучаснай Польшчы. Гэтыя выбары—крывое люстэрко клясавых сілаў. Перш за ўсё возьмем рабочую клясу. Калі параўняць нават той лік галасоў, які атрымаў № 5 у рабочых раёнах з галасамі П. П. С. і Нацыянальнай рабочай Партыяй,—і то трэба аб'ектыўна прызнаць, што Камуністы карыстаюцца ўжо й цяпер вялікім уплывам сярод пралетарыяту. Напрыклад, у Дамброве камуністы атрымалі 32000 галасоў, а П. П. С. 39000 галасоў. У Лодзі камуністы атрымалі ў круглых лічбах 16000 галасоў, а П. П. С. 18000 галасоў. Нават у Варшаве камуністы атрымалі 28000 галасоў. А ўсяго камуністы атрымалі па ўсёй Польшчы 125000 галасоў, што зьяўляецца паказальным і сьведчыць аб тым, што К. П.—у Польшчы стала за 3 гады партыяй рабочых гушчаў і з кожным часам расьце...

Далей вынікі галасаваньня сялянства, як польскага, так і ўкраінскага і беларускага трэба, як след, зразумець.

Сяляне, напрыклад, на «Крэсах» хутчэй усяго галасавалі за № 16 і за сьпісак «Вызваленьня» не за тым, што яны пераканаліся ў патрэбнасьці галасаваць за «беларусаў», або за «Вызваленцаў». Сяляне галасавалі за гэтыя сьпіскі з тэй прычыны, што гэтыя сьпіскі заявілі аб патрэбнасьці даць зямлю сялянству. Праўду кажучы,—тут беларусам і вызваленцам пашанцавала, бо Камуністычная Партыя Польшчы ня мела магчымасьці вясьці адкрыта сваёй агітацыі й ня была яшчэ, як след, арганізована. У дадатак да ўсяго ў Камуністычнай Партыі ня было яшчэ выразнай праграмы па аграрнаму пытаньню, якую яна ўжо мае...

А пры надыходзячым банкроцтве сялянскіх радыкальных груповак—гэта мае вялікае значэньне ў тым сэнсе, што прыцягне, нават

вельмі хутка, усё малазямельнае й нават сярэдняе сялянства пад уплыў камуністаў...

Найлепшым паказчыкам эфемернасьці посьпехаў «Вызваленьня», Блёку нац. меншасьцяў» у тым ліку і беларусаў—зьяўляюцца тыя факты, што за № 5 галасавала вельмі шмат сялян у раёнах, дзе былі заснованы й працавалі хоць адзін тыдзень выборчыя камітэты «Саюзу Рабочых гораду й вёскі». Так напрыклад, у Берасьцейскім, у Лідзкім, у Ашмянскім паветах—№ 5 атрымаў вельмі значны лік галасоў... А злыя языкі кажуць, што № 16 атрымаў уйму галасоў на вёсцы з тэй прычыны, што сярод сялян беларусаў было некім пушчана падпольным спосабам чутка такога зьместу—то нібы-то хто будзе галасаваць за беларусаў, той будзе далучаны да Савецкай Беларусі(?!). Хоць клясаў ашукаць і немагчыма, але такая правакацыя мае над сабою пэўны грунт, бо ведама, як чакаюць сяляне таго часу, каб хутчэй прыйшлі да іх свае людзі—гэта значыць бальшавікі...

Ні ў якім разе ня можна так тлумачыць пабеду блёку нацыянальных меншасьцяў, як гэта робіць напрыклад «Беларускі Звон» у сваім перадавым артыкуле «Наша Пабеда».

Вось што ён звоніць. «*Можна зусім цьвёрда заявіць, што пабеда на выбарах у Сойм ад нашага краю дасталася ня «блёку нацыянальных меншасьцяў», і не «Вызваленьню», а выключна беларускай ідэі, беларускаму штандару, пад якім ішоў і № 16 і № 3*».

Інтэлігэнцкая баўтаўня і сапраўдны пустазвон.

Селянін будзе галасаваць за цябе толькі тады, калі ты яму абяцаеш зямлю а калі абяцаеш, а не дасі, то заўтра-ж селянін выбярэ для сябе новую партыю, якая яму зямлю ня толькі абяцае, а і дасьць. За адцягненыя ідэі сялянства ніколі не галасавала і не галасуе. Лепшым гістарычным прыкладам гэтага зьяўляецца галасаваньне сялянства ва Ўсерасейскую «Учрэдзілку». Большасьць галасоў было падана за эсэраў. Але гэта не пашкодзіла цераз месяц сялянам пайсьці проці эс-эраў і разам з бальшавікамі.

Так і ў Польшчы. Усе гэтыя «Вызваленцы», «Пястоўцы», «Стапінскі», «Оконі», усе гэтыя блёкі—як мыльная бурбалка яны лопнуць у той час, калі сялянства пачуе над сваімі нагамі гарачую глебу пралетарскай рэвалюцыі. Яно пойдзе тады за камуністамі, якія гэтую зямлю абяцаную дадуць селяніну. К барацьбе за ўплыў на малазямельнае сялянства!—вось адно з галаўнейшых заданьняў Кам. Партыі Польшчы, вырашэньне якога побач з уплывам на масы пралетарыяту зьяўляюцца галоўнейшымі мэтамі рэвалюцыі ў Польшчы.

І калі яна, рэвалюцыя рабочых, загарыцца—тады толькі можна што-небудзь «цьвёрда заявіць» аб тым, за каго галасуе беларускае, украінскае і іншае сялянства.

**М. Маразоўскі.**

# Кнігапіс.

**М. Чарот „Завіруха“. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск, 1922 г.**

М. Чарот—малады поэта, але ўспеўшы набыць сабе поўную вядомасьць у тых колах, якія цікавяцца беларускай літаратурай. Яго поэма «Босыя на вогнішчы» зьвярнула на сябе вялікую ўвагу, крытыка надта прыхільна спаткала яе, як твор, які ўнёс у беларускае пісьменства асьвяжаючую плынь супраўдна пралетарскай поэзіі. Зразумела, жаданьне і ў новым зборніку лірычных вершаў маладога поэты знайсьці гэтую асьвяжаючую плынь. І часткова аўтар здавальняе гэта жаданьне. Яго зборнік уносіць новыя матывы, новыя тэмы ў беларускую лірыку.

Беларуская літаратура, народніцкая па сутнасьці, надта ахоплена рамантыкай мінулага. У ёй побач з рэвалюцыйнымі і соцыяльнымі матывамі пануюць матывы нацыянальнага адраджэньня. Шукаючы гістарычных падставаў для гэтага адраджэньня, поэты нашы часта звярачаюцца да мінуўшчыны Беларусі й рысуюць гэту мінуўшчыну ружовымі хварбамі часта мала адпавядаючымі рэчавістасьці. Погляд Чарота ўвесь зьвернуты на будучыну, ён увесь захоплены цяперашнім працэсам рэвалюцыйнай барацьбы, якая кладзе асновы для гэтай сьветлай будучыны. Адсюль матывы рэвалюцыйнага змаганьня — заклікаьні да яго і яго дынаміка — пануючыя матывы лірыкі Чарота. Нават, калі выпадкова ён кідае свой погляд на мінулае Беларусі, дык і там ён з замілаваньнем спыняецца на моманце гэтай барацьбы; у «Песьні лірніка» ім рысуецца казацкае паўстаньне, ажыўляюцца вобразы Нябабы, Антона Галавацкага. Чарот сам усьведамляе рожніцу яго ліры з лірай папярэдніх поэтаў, да іх, відаць, ён зьвяртаецца з заклікаьнем:

> Годзе плакаць вам над Рагнедаю
> І, зірнуўшы ў мінулае, цяжка уздыхаць.
> Новы дзень хай вам казку паведае,
> Чыю ў песьнях усхваліваць рэць.*)

М. Чарот у сваіх вершах і дае нам гэтую казку новага дню барацьбы, ён усхваляе рэць камунараў, якія вядуць гэтую барацьбу.

Другая адзнака музы Чарота—гэта яе бадзёры оптымістычны настрой. Ён не закрывае, праўда, сваіх вачэй на адмоўныя сумныя бакі жыцьця; у яго мы знаходзім прызнаньне:

> Глянеш навокал — сэрца захватуе...
> Колькі шчэ трэба нам сілы:
> Хата старая, стрэхі садраныя,
> Хлеў аж хістаецца згнілы.
> Вокам акінеш родны палетак,—
> Дзернам зрасьліся загоны...*)
> Хопіць тут працы для нас і для дзетак...

Але вялікасьць беднасьці народнай

---

*) „Завіруха“, 6 стр.
*) «Завіруха», 77 стр.

не падаўляе песьняра; ён ня скажа разам з Багдановічам:

Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора,
Брацьця! Ці хваце нам сілы?

Чарот ня ведае гэтай рэфлексыі, задумлёнасьці. Ён пераконаны, што

«дума ня йдзе на пажытак».

Наш поэта верыць, што праца ўсё пераможа:

«Нашу краіну. што звалі ўсе дзікай,
Зробім квяцістай, прыгожай...
Працы далучым—дык будзе вялікай,
Ў сьвеце ня знойдзем пахожай».*)

Поэта часта заклікае да гэтай працы:

«Да працы ўсе, хто чуе сілу,
Пад сьцяг чырвоны, вольны сьцяг!
Капайце ворагам магілу,
К камуне стройце новы шлях! **)

Але на вялікі жаль, поэта ў большасьці выпадкаў абменьваецца толькі гэтымі заклікамьнямі, ён мала рысуе нам самы працэс гэтай працы, яе паэзію. Другою заганаю зборніка зьяўляецца, што ў ім надта часта трапляюцца старыя, ужо зьбітыя вобразы й формы: «грухоча гром, трашчаць пяруны», «рвіце ўсе адвечнай няволі ланцуг», «на кліч звона ідзі, хто ня скуты», «звон гудзе»... ўжо парвалі іржаўлены ланцуг» і г. д.—гэтымі й падобнымі ім выразамі пярэсьцяцца старонкі зборніка. Гэтае ўжываньне гэткіх зьбітых вобразаў стварае ўражаньне аднастайнасьці й пазбаўляе зборнік мастацкай суцэльнасьці й гарманічнасьці: новае віно ўліваецца тут у старыя мяхі. У гэтых адносінах «Босыя на вогнішчы» стаяць бязьмерна вышэй: тут зьместу адпавядаюць новыя сьмелыя вобразы, багацьцё і разнастайнасьць рытму, чаго мы зусім ня бачым у лірыцы Чарота.

**М. Піотуховіч.**

*) «Завіруха», 78 стр.

**) ibid. 58 стр.

**«Беларуская навуковая тэрміналёгія».** (*«Вестн. Н. К. Пр. №№2—10».*)

Да апошняга часу беларуская школа мела падручнікі далёка не па ўсім прадметам нават 2-ое ступені, — між іншым з прычыны няўсталенасьці тэрміналёгіі па гэтым прадметам. Навуковую тэрміналёгію былі змушаны ствараць аўтары падручнікаў, або паасобныя навуковыя ці выдавецкія таварыствы. Гэта выклікала вялікую блутаніну тэрмінаў, частую іх зьмену пры новых выданьнях і г. д., што наогул вельмі непамысна адбівалася на беларускіх школах, перашкаджала вядзеньню шмат якіх прадметаў пабеларуску. Уважаючы на такое палажэньне справы, Нар. Кам. Асьветы залажыў яшчэ летась Навукова-Тэрміналёгічную Камісію для апрацаваньня беларускае тэрміналёгіі. У склад камісіі ўвайшлі лепшыя знаўцы беларускае мовы й спэцыялісты з розных галін веды, што рабіла гэтую ўстанову вельмі аўтарытэтнаю. Пазьней, з утварэньнем Інбелкульту, тэрміналёгічная праца перайшла да яго, так-сама, як і ўсе працаўнікі камісіі.

У апошніх выпусках Весьніка НКП надрукаваны першыя рэзультаты тэрміналёгічнае працы Камісіі і Інбелкульту—тэрміналёгія *граматыкі, лёгікі, арытмэтыкі, альгэбры, батанікі й геомэтрыі*—усяго каля 2000 тэрмінаў. Прыймаючы пад увагу характар работы, пры якой кожны тэрмін вымагае больш ці менш значнае дыскусіі, а галоўнае—варункі работы,—адсутнасьць добрых слоўнікаў народнае беларускае мовы, трэба прызнаць, што зроблена шмат. Найважней-жа, што і з боку янасьці гэтая работа зусім здавальняе, прынамсі пры сучасным абёме нашае веды беларускае народнае мовы. Наогул кажучы, выдадзеная ўжо тэрміналёгія—досіць поўная, згодная з духам беларускае мовы і з навуковамі вымаганьнямі. Асабліва гэта трэба сказаць аб тых галінах навукі, дзе ўжо была зроблена папярэдняя тэрміналёгічная праца—прыкл., аб тэрміналёгіі граматыкі, арытмэтыкі. Ёсьць аднак і

некаторыя няхваты. Перад усім выдана тэрміналёгія зусім бяз націскаў (нават там, дзе яны вымагаюцца граматыкаю Тарашкевіча), і гэта моцна замінае пры практычным ужываньні тэрміну: нават добра знаючы мову прыходзіцца часам доўга падумаць аб тым, дзе паставіць націск у некаторых новых словах. А што-ж будуць рабіць вучыцялі, крыху горш знаючыя мову? Разумеецца, націскаў няма не праз недагляд, а дзеля тэхнічных прычынаў. От-жа, здаецца нам, у будучыне трэба пастарацца гэтыя тэхнічныя труднасьці перамагчы. Далей—коррэктура. Коррэктурных памылак ёсьць, як быццам залішне, бо ў гэткага характару друках яны асабліва шкодзяць;—ствараецца цэлы рад новых слоў, якія існуюць пакуль што толькі на паперы і з яе павінны перайсьці ў вусны народу, і затым тут коррэктурныя памылкі—роўны памылкам істотным. Так сама пад знакам запытаньня трэба было-б паставіць тэндэнцыю тварэньня масы нэолёгізмаў. Здаецца нам, з гэтай справай трэ' было-б быць крыху асьцярожней. Чым большы лік нэолёгізмаў будзем мы старацца ўвесьці ў мову, тым менш шансаў на жыцьцёвасьць кожнага з іх, бо усё-ж гэта словы штучныя, хаця можа і вельмі правільна і ўдала зложаныя. А тым часам такімі нэолёгізмамі часта замяняюцца словы ў поўным значэньні інтэрнацыянальныя, якія ўжываюцца ў навуковай тэрміналёгіі блізка ўсіх культурных народаў (прыкл. замест геомэтрычнага тэрміну, *катэт*—прапануецца тэрмін *прыпростакутная*, *геотропізм—землязваротнасць* і г. д.), чвартасьць такіх заменаў з пэдагогічнага дый навуковага боку ня дужа поўная; добра затым зроблена, што хоць пасьля такіх нэолёгізмаў звычайна падаюцца і інтэрнацыянальныя тэрміны ў беларускай транскрыпцыі. Было-б усё-ж шмат лепей, каб тая праца, якая пайшла на славянізаваные інтэрнацыянальных тэрмінаў, была зужыта на больш старанную апрацоўку рэшты тэрмінаў, асабліва тых, на якія ёсьць адпаведдныя чыста народныя словы, на выкарыстаньне тэрміналёгічнага матар'ялу з розных беларускіх друкаў (асабліва сельска-гаспадарскіх, у якіх можна знайсьці шмат рэдкіх, але чыста народных выразаў для азначэньня тэрмінаў (прыкл. *бушаваньне* зам. ужытага расейскага слова *браджэньне*).

Гэтыя невялічкія ўвагі аб выдадзенай тэрміналёгіі ні ў якім разе ня могуць лічацца практычным аглядам яе, на якую справу патрэбна шмат часу і эрудыцыі, дый шмат мейсца. Пытаньне навуковае тэрміналёгіі нагэтулькі важнае, што яму ня шкода было-б ахвяраваць цэлыя кнігі, дый не маленькія. Вельмі пажаданым быў бы апроч таго самы шырокі абмен думак аб тэрміналёгіі ўсяго зацікаўленага грамадзянства, а перад усім—вучыцельства. Такая грамадная крытыка пажадана, відаць, і для саміх аўтараў тэрміналёгіі, якія лічаць яе дыскусайнаю; шырокі размах гэтае крытыкі, з другога боку, выразна сьведчыў бы аб жыцьцёвай вазе зробленае работы. Уся гэтая крытыка апрацованае тэрміналёгіі пакажа, пэўне шмат дробных недахватаў, але адначасна вылвіць і яе праўдзівую вялікую вартасьць, у якой лёгка пераканацца, калі перайсьці ад разгляду драбязгаў да ацэнкі ўсяе суцэльнасьці тэрміналёгічнае працы. Гэтаю фундамэнтальнаю працаю яе закладчыкі і протэктары Нар. Кам. Асьветы й наогул пролетарская ўлада могуць па справядлівасьці гардзіцца перад сучасным і будучымі пакаленьнямі, бо ёю кладзецца трывалая падмуроўка пад беларускую школу, беларускую навуку й культуру.

**А. Смоліч.**

**Дни нашей жизни.** *Ежемесячный журнал студентов Горецкого сельско-хозяйственного института № 1—5 январь—май.*

Пад гэткай назвай студэнты Горацкага сельска-гаспадарчага інстытуту выдалі сваю невялічкую часопісь «Дни нашей жизни», разьмерам у вадну $^1/_8$ аркуша, складаюць 32 старонкі зьместу. Па зьмешчаным у ім матэры

яле нельга выявіць выразнага твару часопісі. Побач з артыкулам «1-ае мая» стаіць артыкул «К третьей годовщине Горецкого Сельска-Гаспадарчага Інстытуту», а сьледам за артыкулам «Исторический и естественно-исторический материализм» ідзе артыкул «Сьветлый праздник русской Агрономии». На той ці іншы напрамак «Дни Нашей Жизни» ня кажа й артыкульчык „От редакции“. Давёўшы да ведама чытачоў, што „замінка ў выданьні часопісі «Дни Нашей Жизни» тлумачыцца пераводам выдавецтва Інсьпітуту „на гаспадарчы рашчот“, рэдакцыя кажа: «Выдаючыся ў вобласным агранамічны мцэнтры, моцаю абставін праца часопісі дастае адпаведны пахіл у бок прыстасаваньня часопісі да цікавасьці вобласнай меркі“ І далей: «гэткая перамена адказвае з аднаго боку інтарэсам мясцовых чытачоў, з другога-ж—прагненьню многіх установ і асобных працоўнікаў сельскага гаспадарства заходняй вобласьці (?) мець болей ці меней цесную сувязь з вобласным цэнтрам агранамічнае асьветы». Прыданы, да часопісі невялічкі беларускі аддзел—так сама не выяўляе напрамку часопісі, да таго мізэрны й слабы. Ен што дзівішся, для чаго ўжо яго зьмяшчаць. Хіба толькі, каб паказаць тое, што студэнтам Горэцкага Сельска-гаспадарчага Інстытуту сорамна не аддаць увагі беларускай культуры. Да пералічанага трэба дадаць нязграбную форму часопісі й зусім зацьвіўшую назву—«Дни нашей жизни». Малюнак на вокладцы й малюнкі ў канцы зьместу—так сама аддаюць моркатам заняпаду.

Тымчасам у вогуле відаць стараньне і здольнасьць супрацоўнікаў «Дни нашей жизни», якія-б пры ўмелым кіраўніцтве ў адным напрамку маглі-б сцварыць што-небудзь добрае, вытрывалае і адпавядаючае часу. Пажадаем гэтаму стацца.

**З—р.**

**«Вестник Народного Комиссариата Просвещения С. С. Р. Б.»**

*Выданьне Камісарыяту Асьветы Беларусь, Менск.*

Памянёная часопісь пачала выходзіць яшчэ ў 1921 г. Дагэтуль вышла 8 нумароў. Часопісь мае ў сабе тры аддзелы: 1) у першым аддзеле разглядаюцца пытаньні пэдагогікі і школы наогул; 2) у другім аддзеле падаюцца цыркуляры, пастановы й распараджэньні Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі; 3) трэці аддзел мае загаловак—Беларусскі Аддзел, у якім асьвятляюцца спэцыяльна пытаньні беларускае культуры.

Для нас асаблівую цікавасьць прадстаўляе апошні Беларускі Аддзел. Гэты аддзел, трэба адзначыць, выяўляе няспынную тэндэнцыю пашырэньня на кошт іншых двох, і гэтае пашырэньне йдзе толькі на карысьць часопісі ў цэлым.

З паміж паасобных прац у «Белар. Аддзеле» трэба падкрэсьліць артыкул *Старога Піліпа* «Кароткі агляд беларускага нацыянальнага-рэвалюцыйнага руху» (№ 1 і 2), у якім даволі яскрава й праўдзіва зроблен агульны нарыс, дадзены агульны фон гэтага руху; затым артыкул *У. Ігнатоўскага* «Сучасныя матывы беларускай лірыкі» (№ 2), у якім аўтар выказвае сябе бязумоўна добрым знаўцам сацыяльна-рэвалюцыйных адценьняў у беларускім пісьменстве; трэба яшчэ адзначыць апавяданьне-ўспаміны *Я. Коласа* «Цені прошлага» (№№ 1(3), 2(4), 3—4, 5—6), у якім мастацка выяўлена жыцьцё вастрожнікаў; затым ідуць вельмі цікавыя працы *З. Бядулі* па „Гісторыі беларускага тэатру і шм. інш.

Але бязумоўна найбольшую вартасьць маюць і першае мейсца ў часопісі займаюць працы па беларускай навуковай тэрміналёгіі, дзякуючы якім „Вестник» здабывае сабе вялізнае гістарычнае значэньне.

Што датыча іншых аддзелаў часопісі, то трэба адзначыць, што ў ёй даволі значнае месца ўдзяляецца прынцыповым пастаноўкам пэдагогічных пытаньняў наогул, і пытаньняў датычных савецкай працоўнай школы паасобку (артыкулы праф. Салаўёва, праф. Іваноўскага, М. Н. Байкова і

інш.)—і адначасна з гэтым зусім не ўдзяляецца месца асьвятленьню таго становішча, у якім знаходзіцца школьная справа на мясцох, адчуваецца слабы зьвязак часопісі з месцамі, і ў гэтым, лічым, яе недахват.

Наогул-жа часопісь робіць даволі прыемнае ўражаньне, і ў ёй можа знайсьці шмат цікавага ня толькі той, хто спэцыяльна цікавіцца пытаньнямі школьнымі,—але і ўсе тыя, каго цікавяць проблемы пралетарскай культуры наогул.

**X.**

## «Беларускі Лірнік».

Гэтымі днямі прыбыў у Менск, разам з іншымі кнігамі, выдрукаваны заграніцай музыкальны зборнік беларускіх народных песьняў Ул. Тэраўскага—«Беларускі Лірнік» (*Сьпеўнік на 4 галасы. Выданьне Навукова-Літарацкага Аддзелу Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922*). Кніжка мае вельмі пекны выгляд. Каштуе зусім танна.

Цяпер кожны хор, як школьны так і аматарскі, зможа ўзбагаціць сябе беларускім песенным рэпэртуарам. Праўда, для школьных хораў ня ўсе сьпевы, зьмешчаныя ў сшытку, могуць адпавядаць як па гарманізацыі, так і па зьместу. Для школьных хораў вельмі добрым зьяўляецца сьпеўнік таго-ж аўтара з 25 нумарамі на 3 галасы, выдадзены 2 гады таму назад. Але, на вялікі жаль, памянёныя сьпеўнікі ўсе ўжо прадааны. Новы-ж сьпеўнік зьяўляецца багатай крыніцай, скуль любы хор зможа вычарпнуць сабе патрэбнае.

Усяго ў Лірніку 99 нумароў рэвалюцыйных, бытавых і абрадавых народных сьпеваў. Запісаны яны з вуснаў народу як самім Тэраўскім, так і рознымі асобамі, гарманізаваны-ж, галоўным чынам, Тэраўскім.

Калі пачаць разглядаць кожны нумар паасобку, дык у некаторых з іх можна знайсьці парушэньні правілаў гармоніі, але гэта ня так важна: абмылак не здараецца толькі ў таго, хто нічога ня робіць. Абмылкі заўсёды можна выправіць. А важна тое, што гэты сьпеўнік ёсьць першы, можна сказаць, сшытак па багацьцю зьместу. Гэта першая ластаўка, якая зьявілася на прадвесьні нашае музыкі.

У кожнай мэлёдыі, гэтак дэтальна захаванай пры гарманізацыі Тэраўскім, адбіваецца той ці іншы настрой душы селяніна. Мастацкая, хоць і простая, але адпавядаючая асаблівасьцям беларускіх мэлёдый, гарманізацыя зьяўляецца як бы пекнай рамкай, дзякуючы якой больш яскрава выдзяляецца малюнак з жыцьця беларускага народу.

Плача, горка плача яго песьня, успамінаючы цяжкія гадзіны мінуўшчыны, але-ж і аб будучыне яна ўрачыстым гімнам гучыць. Гэта сьведчыць аб тым, што жыве й будзе жыць беларускі народ і яго культура. Ніякія зьдзекі царскіх чыноўнікаў не змаглі саўладаць з душой цёмнага мужыка. Аб гэтым раскажуць па ўсіх кутках Расеі тыя тысячы чырвонаармейцаў, якія з гэткім захопам слухалі нашую мову і ўваскросшую песьню, дзякуючы чаму нераз знаходзілі для сябе душэўны супакой.

Шкада толькі, што ня ўсе баявыя нумары знайшлі сабе тут месца. Але будзем мець надзею, што ў хуткім часе і яны ўбачаць сьвет.

**К. Пуроўскі.**

# Хроніка Беларускае Культуры.

## Літаратура і мастацтва.

* *Янкай Купалай* напісана новая камэдыя «Тутэйшыя» з менскага жыцьця ў часы акупацыі Беларусі ў 18, 19 і 20 г.г. Аўтар чытаў яе гуртку беларускіх пісьменьнікаў, літаратараў і артыстаў, на якіх зрабіла добрае ўражаньне. Дзяржаўны Беларускі тэатр маецца набыць гэту п'есу ў аўтара дзеля пастаноўкі.

* *З. Бядуля* працуе над лірычнай поэмай з часаў пагацкіх пад назваю «Ярыла». Тры часткі гэтае поэмы ўжо аўтарам напісаны.

* *Цішка Гартны* канчае другую частку свайго раману «Сокі Цаліны» —На перагібе: першая частка гэтага раману выдана заграгічным выдавецтвам у Бэрліне й скора будзе атрымана ў Менску.

* *М. Чарот* піша новую рэвалюцыйную поэму «Горы й даліны». Нядаўна вышла з друку кніжка яго вершаў па ім'ю «Завіруха».

Апошнія два гады высунулі напаверх некалькі новых маладых беларускіх пісьменьнікаў. З іх больш талентным выдаецца *Адам Бабарэка*, які піша яшчэ й пад імям *Адам Чырвоны* і *Якім Каліна*. Творы Адама Бабарэкі часта зьмяшчаюцца ў газэце «Савецкая Беларусь».

* *Пясьняр Янук Журба* падгатаваў да выданьня збор сваіх вершаў.

* *У. Дзяржынскім* зьбіраюцца матар'ялы аб жыцьці й творчасьці беларускага песьняра М. Богдановіча. Ім-жа падгатоўваецца к друку поўны збор твораў М. Багдановіча.

* *Праф. Е. Карскі* канчае друкаваць сваю апошнюю працу па навейшай беларускай літаратуры. Кніжка выдзе акадэмічным выданьнем у малым ліку экзэмпляраў.

* *Інбелкультам* пастаноўлена выдаць зборнік памяці памёршых беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў. Дзеля ўкладаньня яго назначана асобная камісія.

* *Мастак М. Філіповіч* заняты працаю па ўбёру дзіцячых казак малюнкамі і маляваньнем абразоў старога Менску.

* *Праф. У. Ігнатоўскі* працуе над разборам летапісаў па беларускай гісторыі. Ён маецца выдаць асобную кнігу «Хрэстаматыя гістарычных летапісаў».

* *Праф. Б. Тарашкевічам* напісана другая частка «Беларускай Граматыкі—сынтакс». Ён жа піша «Гісторыю беларускай літаратуры».

* *С. Някрашэвічам і М. Байковым* канчаецца апрацаваньне Расейска-Беларускага слоўнік а Слоўнік будзе мець каля 30.000 слоў.

## Тэатр.

* *Беларускім Дзяржаўным Тэатрам* падгатоўліваюцца да пастаўкі гэткія навіны: «Карэй»—Рахліна, «Каралеўскі Цырульнік» Луначарскага, «Адвакат Патэлэн» і др. «Карэй» і «Адвакат Патэлэн» пайдуць у студзені месяцы. У канцы сьнежню аднаўляецца пастаноўка «На Купальле» М. Чарота.

* Управа Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пастанавіла збагаціць беларускі рэпэртуар арыгінальнымі і перакладнымі п'есамі. З гэтай мэтай Управа мае зьвярнуцца да беларускіх пісьменьнікаў з прапазыцыяй напісаць свае п'есы, а так сама прасіць рэжысёра т. Міровіча, каб і ён напісаў п'есу для беларускага тэатру.

Апроч гэтага пастаноўлена, каб Акадэмічны Цэнтр Наркамасьветы Беларусі паклапаціўся здабыць некулькі чужаземных сучасных па зьместу п'ес і мастацка іх пералажыў.

* Пастановаю Управы Беларускага Дзяржаўнага тэатру ня меней ніж адзін раз у тыдзень Беларуская Дзяржаўная трупа павінна даваць спэктаклі ў ваколіцах гораду, у клюбе чыгуначнікаў, у клюбе гарбароў і інш.

* Дырэкцыя Беларускага Дзяржаўнага тэатру ў гэтым сэзоне дае юбілей артысту Грыгонісу, аднаму з выдатнейшых артыстаў беларускае дзяржаўнае трупы. Сябар Грыгоніс ужо мае пятнанцаці-гадовы стаж: з гэтага тры гады ён працуе на беларускай сцэне. Юбіляр выступіць у п'есе М. Чарота «На Купальле».

## Выдавецкая справа.

* *Коопэрацыйнае выдавецтва «Адраджэньне»* перайменована ў «Савецкую Беларусь». На бліжэйшы час ім апрацован плян выдавецкай працы, які замацован Агітацыйна-прапагандыцкім аддзелам ЦБКПБ. Плян распадаецца на тры галоўных часткі: 1) Падручнікі для школаў і навуковая літаратура, 2) Палітычная літаратура і 3) Мастацкая літаратура. Парадак выданьня будзе вясьціся згодна патрабаваньню й ходкасьці даннае кніжкі. Гэтак, што на два выданых падручнікі будзе выдавацца адна кніжка палітычнай літаратуры й прыблізна на тры кніжкі падручнікаў—кніжка мастацкай літаратуры. Бліжэйшымі вы-даньнямі намечаны з падручнікаў: 1) «Радзімазнаўства» — М. Грамыкі, 2) «Гэографія Эўропы»—М. Азбукіна 3) «Прыродазнаўства» — Траяноўскага. 4)«Гістарычны матар'ялізм»--Бухарына, 5) «Курс палітычнай экономіі Багданава ў пераробцы Ш. Двайлацкага, 6) «Збор бэлетрыстычных твораў З. Бядулі, 7) Збор сказаў—Цішкі Гартнага, 8) Беларускі Дэкляматар і мн. інш.

* *Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі* выпусьціла збор вершаў М. Чарота «Завіруха».

*Выдавецтвам «Савецкая Беларусь»* гатуецца да друку *гісторыка-літаратурная хрыстаматыя.* У хрыстаматыі будуць зьмешчаны ўзоры беларускіх пісьменьнікаў ад XIX стогодзьдзя па нашы часы па гістарычнаму парадку разьвіцьця літаратурных напрамкаў. Кожнаму напрамку будзе падосланы тлумачны артыкул. Так сама гэткія артыкулы дадуцца некаторым сучасным пісьменьнікам. Для апрацаваньня хрыстаматыі запрошаны пісьменьнікі М. Грамыка і З. Бядуля. Рэдакцыя аддадзена З. Жылуновічу, М. Піотуховічу і Ў. Чаржынскаму. Хрыстаматыя мецьме да 20 друкаваных аркушаў.

* *Выдавецкім таварыствам «Савецкая Беларусь»* выдан насьценны каляндар. Каляндар выпаўнен дужа мастацка й мае вельмі прыгожы выгляд. Каляндару выйдзе дзьве тысячы экз».

* Выдавецтва «Савецкая Беларусь» заказала географу А. Смолічу напісаць «Географію пазаэўрапэйскіх краін».

* Гэта-ж выдавецтва дaручыла Ів. Луцэвічу пералажыць на беларускую мову для выданьня «Кароткі Курс Эканамічнае Навукі» А. Багданава, пераапрацаваны й дапоўнены Ш. М. Двайлацкім.

* З мастацкае літаратуры выдавецтва «Савецкая Беларусь» першым чынам мае выдаць: том апавяданьняў Цішкі Гартнага й том апавяданьняў Зьмітрака Бядулі. Чародным выданьнем пойдзе поўны збор твораў М. Багдановіча.

* Выдавецтвам «Савецкая Беларусь» выпушчана другая частка хрэстаматыі для ніжэйшых школ—«Роднае Слова» С. Некрашэвіча.

*) У палове лістапада прыбыла з Бэрліну ў Менск першая партыя надрукаваных там беларускіх кніжак. У гэтай партыі знаходзяцца: «Граматыка для школ» Б. Тарашкевіча—10000 экз., «Разрэзная азбука»—15000 экз., «Арытмэтыка» Цыгэльмана — 10000 экз. і «Беларускі Лірнік»—Тэрраўскага —5000 экз. Кніжкі пайшлі ў прадажу. У пачатку сьнежня прыбыла й другая партыя кніг, у якой маецца: 1) „Альгэбра" А. Круталевіча, 1 частка—10000 экз., 2) „Песьні працы і змаганьня", Цішкі Гартнага—8000 экз., 3) „Сокі Цаліны" раман Цішкі Гартнага—8000 экз. У Бэрліне яшчэ асталіся «Лемантар» С. Некрашэвіча —50000 экз., а ў Коўне «Казкі жыцьця» Я. Коласа—8000 экз.

# Зьмест 1-га нумару.




Глаўлітбел. № 311. 1-я Савецкая друкарня, Зак. № 916.

